# ЗМЕСТ Крыніца

Я

# Язэп РУЦКІ



*Каб здзейсніць таемства*
*паводле ўзору,*
*што падаецца ў Новым Законе,*
*патрэбна тры чыннікі,*
*ці тры часткі.*
*па-першае, рэч,*
*па-другое, з'ява,*
*па-трэцяе, воля таго,*
*хто здзяйсняе таемства.*

**Дарунак,**
**які ўрэчаісніваюць таемствы**
*(Тэзы)*

БУДАЎНІК БЕЛАРУСКАЙ ЦАРКВЫ
АПОСТАЛ ЯДНАННЯ





# Дарунак, які ўрэчаісніваюць таемствы

*(Тэзы)*

**I**

**Створаны чалавек**
**з двух непадобных пачаткаў —**
**з душы і цела.**
**Вось жа, лабгодны Бог**
**творыць не толькі**
**дзівосныя вобразы,**
**але і нябачна**
**сваімі дарункамі надзяляе —**
**каб станавілася гожай —**
**душу.**
**Ну а праз бачнае знакаванне,**
**якое намі ўспрымаецца,**
**адпускае,**
**у міласці да чалавека,**
**грахі.**
**Ад Бога — лабгодань,**
**і той, хто багаты ёю,**
**ёю багаты адно ад Бога.**

# БУДАЎНІК БЕЛАРУСКАЙ ЦАРКВЫ

**Язэп Вельямін Руцкі (Іосифъ Веляминъ Рутъский у старабеларускім арыгінале) — трэці уніяцкі мітрапаліт, адзін з самых выдатных дзеячаў беларускай і ўкраінскай царквы першай паловы XVII ст. Ягоных папярэднікаў на уніяцкай мітрапалічай кафедры Міхаіла Рагозу (1596—1599) і Іпата Пацея (1599—1613) можна па праву называць заснавальнікамі уніяцтва. Я. Руцкі быў энергічны і ўмелы будаўнік Уніяцкай царквы, ідэолаг і рэфарматар. Глыбока прадуманая і рэалізаваная ім на практыцы царкоўная іерархічная структура была разлічаная на стагоддзі і, верагодна, у сваёй аснове засталася б да сённяшніх дзён, каб не моцныя вонкавыя фактары дэструктыўнага характару, якія ўрэшце гвалтоўна разбурылі той дасканалы царкоўны гмах, які пабудаваў гэты разумны тэолаг, палітык і дыпламат, тыповы беларускі культурны дзеяч паводле псіхалагічнага тыпу і менталітэту.**

**Пра радавод гэтага**

Бо ўжо здаўна,
з колішніх дзён,
абвясцілася ў свеце зваба,
а супастатамі праваслаўнай
веры цяпер
яна аднавілася ў розных
ерасях красамоўных.
Аднак хрысціяне,
дбаючы аб ратунку,
мусяць іх сцерагчыся
і не ўдавацца ў развагі
аб з'яўленых знакаваннях.

II

З'яўныя знакаванні
найменаваны словам,
што ўзята
з Пісання Святога
і што ва ўжытак
святымі айцамі ўведзена,
і што прынята
святымі апосталамі:
па-грэцку
ім назва "містэрыі",
а па-лацінску
найменне ім "сакраменты".
У мове славянскай
найлепей адпавядае
ім слова "таемствы"
Яно азначае
даступнае нашым пачуццям

апантанага правадыра уніяцтва існуюць ці не прыгодніцкія легенды і паданні. У расійскай царкоўна-гістарычнай літаратуры XIX ст. за бясспрэчную праўду прымалася авантурная аповесць першых біёграфаў Я. Руцкага (Рафаэля Корсака, Ігната Сцябельскага, Язэпа Пяткевіча), паводле якой, гэты апостал яднання праваслаўя і каталіцызму быў сынам аднаго з узятых у палон пад Улай (20 верасня 1568 г., у Лівонскай вайне) рускага ваяводы Вельяміна[1]. Паводле іншай версіі, Я. Руцкі быў сынам не палоннага маскавіта, а нашчадкам рускага двараніна, які добраахвотна перасяліўся ў Літву (Беларусь) і набыў маёнтак Рута пад Наваградкам. Ад гэтага тапоніма ягоных сыноў назвалі Руцкімі[2]. Аб'ектыўныя ж крыніцы сведчаць пра беларускі радавод Я. Руцкага[3].

Нарадзіўся ён у родавым маёнтку Рута "за дзве мілі ад Наваградка" (цяпер вёска Рута Наваградскага раёна) у 1574 годзе (па іншай версіі ў 1573 г.)[4]. Бацька ягоны Фелікс Руцкі і маці Багуміла Корсак былі з радавітай беларускай шляхты кальвіністкага веравызнання. Аднак іхняга сына хрысціў праваслаўны святар, і гэтае хрышчэнне (хлопчык атрымаў імя Іван), на маю думку, пэўным чынам прадвызначыла ягоны лёс і царкоўна-асветніцкую дзейнасць.

Пачатковую адукацыю Руцкі атрымаў у Наваградку ад мясцовых анабаптыстаў Ліцынія, Майсея і Цімафея. Пазней некалькі гадоў вучыўся ў Віленскай кальвінісцкай школе. Там, верагодна, ужо набыў веды ў класічных царкоўных мовах — лацінскай, грэчаскай, іўрыце. Даследчыкі мяркуюць, што ў Вільні ён мог слухаць казані вядомых лідэраў





з'яўленне рэчаў,
што чалавека,
які прысвячаецца ў іх,
асвячаюць,
і выяўляе
найадпаведнейшым чынам
самую сутнасць таемстваў.
Таму і ў Старым Законе,
і ў Новым таемствы
так называюцца не дарэмна
і не адвольна —
як хоча давесці Кальвін —
людзьмі вызначаюцца.
А ўсё тое
абмежаванне таемстваў,
якое зазвычай
нясуць з сабой лютэране,
новахрышчонцы
і кальвіністы,
пярэчыць
вучэнню Царквы Прававерный.

III

Каб здзейсніць таемства
паводле ўзору,
што падаецца ў Новым Законе,
патрэбна тры чыннікі,
ці тры часткі:
па-першае, рэч,
па-другое, з'ява,
па-трэцяе, воля таго,

пратэстантызму Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага і Андрэя Валяна. У 1590 г. заўчасна памёр яго бацька Фелікс Руцкі. Матэрыяльнае становішча сям'і пагоршылася. Але прага да ведаў прывяла юнака ў Чэхію, дзе ён слухаў лекцыі ў Пражскім каралеўскім універсітэце, які тады быў пад моцным уплывам гусітаў[5].

Насуперак пратэстам маці і сваіх апекуноў Язэп збліжаецца з каталікамі і пераходзіць у іх канфесію. Пасля кароткага навучання ў езуіцкай калегіі ён едзе ў Германію. Там бліскуча закончыў за тры гады Вюрцбургскі універсітэт (пасля экзамену і абароны прапанаваных тэзісаў узнагароджаны лаўравым вянком), удзельнічаў у шматлікіх публічных дыспутах на рэлігійна-філасофскія тэмы. У гэты самы час Багуміла Корсак, даведаўшыся пра далучэнне сына да каталіцызму, пазбавіла яго матэрыяльнай дапамогі. Выручылі езуіты. З рэкамендацыі пракуратара езуіцкіх правінцыяў Рэчы Паспалітай айца Боксы юнак пешшу накіроўваецца ў Рым і паступае ў Грэцкую калегію, дзе можна было бясплатна атрымаць тэалагічную адукацыю. Там ён даведаўся, што паводле правілаў калегіі яе абітурыенты павінны даць абяцанне назаўсёды заставацца ў грэцкім абрадзе. Я. Руцкі звяртаецца па параду да аднаго з кіраўнікоў калегіі, езуіта. Той абнадзейвае юнака і выказвае меркаванне, што трэба падпарадкавацца правілам. Духоўны апякун Я. Руцкага, згаданы вышэй пракуратар Бокса, ідзе яшчэ далей і рэкамендуе атрымаць аўдыенцыі ў папы рымскага. Папа раіць перайсці з каталіцызму ў праваслаўе. Існуе думка, што езуіты і Рым хацелі выкарыстаць таленавітага, ва-

хто здзяйсняе таемства.
Калі не хапае
хоць бы адной
з гэтых трох частак,
таемства
здзейсніцца ўсё ж не можа.
Што тычыцца рэчы,
дык гэта —
матэрыя, што сфармавана
і для здзяйснення таемства
ўзаконена Богам,
як у таемстве хрышчэння —
вада,
як хлеб і віно —
у таемстве прычасця.
Што тычыцца з'явы,
яна сфармавана ў словах,
якія ўзаконены Богам
і з дапамогай якіх
спраўджваецца таемства.
Матэрыя існуе
ў дзвюх постацях:
самі рэчы —
гэта далейшая постаць,
а тое, што рэчы
змяшчаюць і выяўляюць
і што ўвасабляецца ў словах, —
бліжэйшая постаць,
ці з'ява.
Так, сутнае разуменне,
дадзенае Хрыстом,
павінна
не абвяргацца,

лявога і надзвычай цэльнага па натуры беларуса для правядзення на ўсходзе сваёй уніяцкай ідэі[6].

Каля 1601 года Я. Руцкі, набыўшы салідную тэалагічную адукацыю, вяртаецца ў Вільню, каб прапанаваць мітрапаліту І. Пацею службу на карысць Уніяцкай царквы. І. Пацей, відаць, не давяраў "вывучаніку Рыма" і, не знайшоўшы яму ніякага месца ў сваім ведамстве, прапанаваў адправіцца з сынамі віленскага ваяводы Радзівіла за мяжу, верагодна, у якасці настаўніка і перакладчыка. Юнак мусіў вярнуцца ў родавы фальварак. Аднак там, паводле біёграфа, маці хацела яго ажаніць, каб назаўсёды прывязаць да роднага дому. Сыну прыйшлося "ратавацца" ўцёкамі ў Вільню. Там у гэты час (1602 г.) памёр рэктар уніяцкай семінарыі Пётр Федаровіч. З пратэкцыі каталіцкага біскупа Бенядзікта Войны мітрапаліт І. Пацей прызначыў на вакантную пасаду Я. Руцкага.

Тры гады на ніве школьнага асветніцтва сталіся вырашальнымі ў жыцці Руцкага. Якраз тады пачалі фармавацца ў адукаванага юнака ідэі, якія пазней ён паспяхова праводзіў у жыццё, у тым ліку план рэформы царкоўнай адукацыі і стварэння уніяцкага ордэна. Свае думкі ён абгрунтаваў у ананімным трактаце "Discurs", альбо "Развaжанне нейкага русіна пра выпраўленне ладу грэцкага абраду, напісанае ў студзені 1605 года". Апалогія слаўнай мінуўшчыны царквы ўсходняга абраду (у ёй склалася патрыстычная традыцыя і дасканалае манаскае жыццё) у гэтым творы сумяшчаецца з элегічнай карцінаю яе заняпаду на Русі ў канцы XVI—пачатку XVII ст.





нявечыцца
ці змяншацца,
а спраўджвацца ў з'явах
таемству згодна.
Таксама ні ў рэчах,
ні ў змесце рэчаў
нічога
зменена быць не можа.
Таму недарэчы
адвольныя тыя змены,
што дапускаюць
у словах таемных
Лютэр,
ці Брэнт,
ці Звінгель.
Мусім сказаць,
што і Кальвін,
калі выкладае вучэнне
аб запаветах Божых,
з'яву таемства
ўяўляе хібна.

IV

Таемствы,
якія засведчаны Новым Законам,
папраўдзе
прылады Гасподнія —
Бог праз іх
грахі ачышчае і на душу
лабгодань ліе.
Нездарма

З-за адсутнасці развітой свецкай і багаслоўскай навукі і страты ў Рускай царкве хрысціянскай дысцыпліны, на думку аўтара, шмат хто не ратуецца, а ідзе на пагібель. У ёй захавалася толькі вонкавая бачнасць святасці — доўгія і частыя пасты, шматлікія абрады і паклоны, розныя практыкаванні дзеля ўтаймавання бунтоўнай плоці. А ў выніку — страта здароўя без набытку для душы і духу. Але сапраўдная святасць, развівае сваю думку Я. Руцкі, гнездзіцца якраз у духу. Да яе якраз і вядзе манаскі лад жыцця на аснове добраахвотнай беднасці, няспыннага вучэння і, урэшце, на сузіранні дасканаласці боскага тварэння[7].

Для выхаду з духоўнага крызісу Уніяцкай царквы Я. Руцкі прапанаваў ёй пераняць вопыт у Рымска-Каталіцкай царквы, запрасіць у Княства адукаваных настаўнікаў (а найлепшыя настаўнікі, на яго думку, ёсць у братоў-езуітаў), стварыць узорны манаскі ордэн з школамі пры яго манастырах. Для уніятаў, сцвярджаў аўтар "Размовы", будзе вельмі карыснае адзінства падзеленага хрысціянства, ухваленае Фларэнтыйскім сусветным саборам (1439 г.). Пярэчанні гэтым планам Я. Руцкі абвяргае па правілах папулярнай тады сакрастычнай дыялектыкі. Нянавісць "грэкаў" (маюцца на ўвазе лідэры рускага праваслаўя) супраць "рымлянаў" (католікаў), лічыць ён, справакаваная д`яблам. Яўны знак гэтай д`ябальскай спакусы, паводле Руцкага, — схільнасць праваслаўных у барацьбе з каталіцызмам ісці на змову з пратэстантамі — адкрытымі ворагамі іх жа веры і абрадаў. Між тым сапраўдная набожнасць і грунтоўная навука ёсць у каталіцкіх, найбольш

дарунак, які ўрэчаісніваюць
таемствы,
святыя айцы называюць
лабгоданню —
ласкаю Божай; і як
прылады Гасподнія маюць
таемствы сілу
грахі адпускаць
і душу асвячаць,
бо яны
увасабляюць не толькі
само значэнне
Божага дзеяння, але і самую
жывую лабгодань даюць.
Скажона
вучыць, як бачым, Кальвін,
калі вытлумачвае, што былі
таемствы ўзаконены Богам
адно для таго, каб веру
ў Гасподнія запаветы
жывіць.
Мы ж болей
верым Святому Пісанню,
якое вучыць,
што дзеяннем рэчаў таемных
нам насамрэч даецца
крывёю Хрыстовай
зысненая лабгодань.
І, каб ва Усясветнай
Царкве Прававерцай,
якая, адкладу не чынячы,
дзеля
лабгодаславення Гасподняга

у езуіцкіх школах: там, сцвярджаў Я. Руцкі, за тры гады навучышся філасофіі (пад філасофіяй тады разумелася бадай уся гуманітарная навука) больш грунтоўна, чым за дзесяць гадоў у свецкіх вучэльнях. Бо ў царкоўных школах настаўнікі — не наёмнікі з іх халодна-фармальнай методай навучання, а сапраўдныя настаўнікі-бацькі, якія ўкладваюць у адукацыю не толькі веды, але сэрца і душу[8].

У 1606 г. Я. Руцкі пакідае пасаду рэктара семінарыі і едзе з манахам кармелітам Паўлам у Маскву, каб адтуль выправіцца для місіянерскай дзейнасці ў Персію. Пасля няўдалага падарожжа з Масквы на поўдзень, Руцкі накіроўваецца ў Вільню, дзе, вытрымаўшы выпрабавальны тэрмін, пастрыгаецца пад імем Язэпа ў манахі Свята-Траецкага манастыра (6 верасня 1607 г.). У тым жа годзе яго пасвячаюць у дыяканы і следам — у прэсвітэры. У манастыры Руцкі выхоўваў навіцыянаў, выкладаў тэалогію, стараславянскую і лацінскую мовы. Фактычна ён аднавіў занялалы уніяцкі манастыр, дзе ў дзень прыходу новага прэсвітэра, паводле ягонага біёграфа Р. Корсака, заставаўся толькі архімандрыт Самуль Сянчыла без манахаў. У Траецкім манастыры Руцкі пасябраваў з Я. Кунцэвічам і разам з ім хацеў прыняць пустынніцкі подзвіг. Урэшце ж ён узяў на сябе больш складаную задачу адраджэння віленскага Траецкага манастыра, ператварэння яго ў духоўны цэнтр Уніяцкай царквы.

Верагодна, у асяроддзі уніяцкага манастыра (1607—1613 гг.) і склаліся рэлігійныя погляды Я. Руцкага. Некаторыя ідэі сфармуляваныя ім у кароткіх "Тэзісах", выдадзеных у канцы 1907 г. на





і адпушчэння грахоў
уводзіць
у веру дзяцей сваіх,
не гнездаваць
спакусаў і хібаў,
мы вызнаём
таемства хрышчэння,
мірапамазання,
цела й крыві Хрыстовых,
як гэта
апосталы вучаць.

V

Усякае творнае цела
слухаецца свайго Творцы
і здольна
увасабляць і ўспрымаць
дасканаласць, якая
пераўзыходзіць прыроду
гэтага цела.
Таму, беручы пад увагу,
што піша Пісанне
і кажуць святыя айцы,
разважаюць слушна
і слушныя робяць высновы
на гэты конт багасловы,
а менавіта:
маюць таемствы
не толькі адно павучальны
характар, але і ўяўляюць
чын відавочны, альбо фізічны,

старабеларускай і польскай мовах і палемічна скіраваных супраць "ерасі" лютэранскай і кальвінісцкай. Аўтар называе прыхільнікаў пратэстантызму "супастатамі праваслаўнай веры", якія парушаюць аснову хрысціянства — сем царкоўных таемстваў. "А ограниченнье тайны, еже вносять лютерани, новокрещенцы и кальвиніани, ученію правоверныя церкви суть противны", — абвясціў Я. Руцкі ў "Тэзісах"[9]. Для таго ж, каб таемства здзейснілася, неабходны тры ўмовы: наяўнасць рэчыва ("вещы"), вобразаў і чалавечае волі. Калі адсутнічае адна з трох гэтых умоў, таемства не адбываецца. Рэчыва, напрыклад, вада ў хрышчэнні, узаконенае Богам. Форма таемства — "словеса суть", узаконеныя Богам на Тайнай Вячэры. У рэчыве неабходна адрозніваць дзве сутнасці — "далячайшую", гэта значыць, самую матэрыяльную рэч, і сутнасць "бліжайшую", калі рэчыва тайна пераўтвараецца праз словы малітвы, запаведаныя Ісусам Хрыстом, мяняць якія нельга. Вось чаму "нелепо Лютэр, Брэнт і Звінкгель" (верагодна, Цвінглі) дазваляюць сабе мяняць "в словесехъ таинственныхъ". Новазапаветныя таемствы ёсць "орудія божественна, ими же Богъ очишаетъ грехи и благодать свою на душу изливает". Паводле рэлігійных поглядаў Руцкага, царкоўныя таемствы — гэта не толькі сімвалы ("знаменія"), яны — рэальныя чыннікі багадаці. Таму "прелестне учитъ Кальвинъ", быццам бы таемствы ўзаконеныя Богам толькі дзеля абуджэння веры. Бо хрышчэнне, прычашчэнне, мірапамазанне таемна даюць вернікам багадаць і дараванне грахоў.

што з’явай знадворнай
тычыцца цела,
а сілаю ўнутранай, успрынятай
намі ад Бога,
тычыцца нашай душы —
ачышчае
яе ад граху і дарункам
лабгодані Божай узбагачае.
З крыніцы Святога Пісання
і са здабыткаў
айцоў хрысціянскіх святых
мы чэрпаем веды,
а разважаць
у духу згаданага Кальвіна
і неразумна,
і згубна.

VI

У Хрысціянскай Усясветнай
Царкве Праваслаўнай, вось жа,
узаконена сем таемстваў:
таемства хрышчэння,
мірапамазання,
цела й крыві Хрыстовых,
споведзі, ці пакаяння,
святарства,
шлюбу
і — наапошне —
алеяпамазання.
Вера ў таемствы
не можа адпрэчвацца



ды расцякацца
па рэчышчах разнадумнасці,
і вучэнне
аб іхняй з’яднанасці
са знакаваннем — вучэнне
айцоў Царквы Хрысціянскай
Божай.
Яму ж
супротнічае Зізаній:
Пісання
ён не трымаецца і не чуе,
што кажуць айцы святыя,
і сімвал веры,
прыняты Нікейскім саборам
і Канстанцінопальскім сцверджаны,
ён вызнаваць не хоча
(пра гэта
сведчыцца ў першым лісце аб судным
дні). Нававерцы
аблудна таемствы бачаць,
калі вызнаюць,
як гэта робіць Лютэр,
ці толькі адно таемства,
ці два —
як асобныя лютэране,
ці тры —
як, прынамсі, Кальвін,
ці, у цэлым, меней за сем,
ці — ізноў-такі — болей.

*Са старабеларускай мовы ўзнавіў*
*Алесь РАЗАНАЎ*

**Еўрапейская адукаванасць Я. Руцкага, адзначаная біёграфамі асабістая абаяльнасць і дыпламатычны талент садзейнічалі яго папулярнасці, асабліва сярод паслушнікаў і маладых манахаў. Ягоная царкоўная кар’ера пачалася ў 1605—1608 гг. Якраз у гэты час абвастрылася рэлігійна-палітычная барацьба паміж прыхільнікамі Уніі на чале з мітрапалітам кіеўскім, галіцкім і ўсяе Русі Іпатам Пацеем, які абапіраўся ў Вільні на маладую генерацыю Траецкага манастыра, выхаваную Я. Руцкім, і абаронцамі праваслаўя Віленскага Свята-Духавага манастыра, якіх падтрымлівалі праваслаўныя брацтвы віленскіх месцічаў. І. Пацей выкарыстаў вопыт праваслаўных брацтваў і стварыў пры Свята-Траецкім манастыры такую ж уніяцкую карпарацыю на чале з Я. Руцкім.**

**Прычыны канфлікту неадназначныя і ўключаюць сацыяльна-палітычныя і нацыянальна-культурныя супярэчнасці, сутыкненне дзвюх культурных традыцый — еўраазіяцкай, якая пачалася з грэка-візантыйскага варыянта прынятага на Русі ў канцы X ст. хрысціянства, і заходнееўрапейскай, якая ішла ў Княства праз Польшчу і рымска-каталіцкую разнавіднасць хрысціянскай рэлігіі. Аднак былі тут прычыны і непасрэдныя. Гэта найперш — раздзяленне царквы ўсходняга (грэка-візантыйскага і “рускага”) абраду на элітарную іерархію, якая ў сваёй большасці прыняла ўмовы Брэсцкай уніі, і “нізавую” (большасць прыходаў, абшчын і царкоўных брацтваў заставаліся праваслаўнымі і ў пачатку XVII ст. яшчэ не былі пераведзеныя ва уніяцтва). У выніку большасць праваслаўных абшчын аказалася (да аднаўлення праваслаўнай іерархіі ў 1620 г.) без сваіх епіскапаў і без мітрапаліта, а уніяцкім іерархам яшчэ трэба было “перацягнуць” праваслаўныя абшчыны і манастыры на свой бок.**

**Аднак фармальна, паводле законаў Вялікага княства Літоўскага і ўмоваў Брэсцкай царкоўнай уніі, уніяцкія іерархі былі законнымі кіраўнікамі “рускай” (беларускай і ўкраінскай) царквы ў Княстве. Вось чаму непадпарадкаванне праваслаўных прыходаў, іх асобных вернікаў і святароў ніжэйшых ступеняў (прэсвітэраў, дыяканаў, ігуменаў, асобных архімандрытаў) уніяцкім епіскапам і мітрапаліту ацэньвалася вярхоўнаю дзяржаўнаю ўладаю як небяспечнае для стабільнасці дзяржавы, як мяцеж альбо бунтарства.**

**Два вялікія “бунты”, якія ледзьве не перараслі ў паўстанні, — выпалі на долю Я. Руцкага: першы, віленскі (1608—1612) на пачатку яго царкоўнай кар еры, другі, магілёўска-віцебскі (1619—1623) — у яе зеніце, калі ён, мітрапаліт Уніяцкай царквы, ствараў Базылянскі манаскі ордэн.**

**19 снежня 1608 г. віленскае праваслаўнае брацтва занесла ў гарадскія кнігі пратэст “на ксендза Іосифа Вельямина Рутького, который се менует головным наместьником митропольи Кіевское, Кгалицькое и всея Руси [...]; иж яко от часов давних поименный ксендз Вельямин Рутькій почал наступовати на веру и суменя нас, людей старожытное реліи Греческое”[10]. Канфлікт паміж І. Пацеем і Руцкім з боку уніятаў і праваслаўным брацтвам Свята-Духавага манастыра разглядаўся на Варшаўскім сойме і**

каралеўскім судзе. Сойм вырашыў спрэчку прынцыпова ў тым сэнсе, што праваслаўе і уніяцтва ёсць два законныя веравызнанні, павінны жыць поруч, паважаючы грамадзянскія правы кожнага з бакоў. У сваю чаргу, кароль і вялікі князь, не парушаючы гэтага соймавага прынцыпу парытэтнасці, выкарыстаў свае права прызначэння на ўсе, у тым ліку царкоўныя, пасады, і зацвердзіў Я. Руцкага архімандрытам Свята-Траецкага манастыра.

Праціўнікі Я. Руцкага не адразу змірыліся з паразаю. У тое самае лета віленскі мешчанін І. Тупека зрабіў замах на жыццё уніяцкага мітрапаліта. Шабельная атака была такая імклівая, што ахова не паспела абараніць І. Пацея. Затое яго выратаваў тоўсты ланцуг архірэйскага крыжа на шыі. Гэты шчаслівы зыход замаху ў свядомасці уніятаў застаўся як боскі цуд[11].

Іерархічны канфлікт ва Уніяцкай царкве, які ўзнік у 1608 г., завяршыўся праз чатыры вельмі напружаныя і змагарныя для Я. Руцкага гады. 16 лістапада 1611 г. кароль і вялікі князь Жыгімонт III выдаў на імя віленскага уніяцкага архімандрыта і афіцыйнага намесніка мітрапаліта імянны ўказ, паводле якога Я. Руцкі зацвярджаўся "ўладыкам дворным, альбо каад'ютарам", а фактычна кіраўніком усёй уніяцкай мітраполіі пры невылечна хворым мітрапаліце І. Пацеі. У чэрвені 1612 года І. Пацей пасвяціў Я. Руцкага на епіскапа галіцкага, а кароль з гэтай нагоды выдаў яшчэ адзін імянны ўказ на ўладанне Руцкім Лаўрышаўскім манастыром Навагрудскага павета "с отчынными яго людзьмі, угоддзямі і даходамі"[12]. Лаўрышаўскі манастыр, як вядома, быў закладзены адным з заснавальнікаў Вялікага княства Літоўскага, Міндоўгавым сынам Войшалкам у сярэдзіне XIII стагоддзя.

З гэтага часу пачалося адносна мірнае дзесяцігоддзе (1613—1623) у жыцці Я. Руцкага. Яно было выкарыстана ім для стварэння асноўных структур Уніяцкай царквы і для яе карэнных рэформаў. Сутнасць іх палягала ў тым, каб поруч з умацаваннем яе іерархічнага "верху", пабудаваць грунтоўны "ніз" — уніяцкія прыходы і манастыры, цесна звязаныя паміж сабою. Адначасова ён шмат клапаціўся пра наладжванне сістэмы уніяцкай, свецкай і багаслоўскай адукацыі. Тут ён выкарыстаў багаты вопыт езуіцкіх калегій, пасылаючы туды на вучобу сваіх вучняў. Праз год Руцкі і Кунцэвіч пераканалі слонімскага шляхціца Рыгора Трызну заснаваць у Быцені (цяпер вёска Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці, да 1914 г. захавалася Быценская уніяцкая царква XVII ст. у стылі барока) уніяцкі манастыр. Праз год (каля 1613 г.) з іх парады сусед Трызнаў праваслаўны пан Ян Мялешка заснаваў мужчынскі манастыр у сваім двары Жыровічах "пры адзінокай, але здаўна слаўнай цудамі царкве". Гэты манастыр аж да сёння славіцца як асяродак хрысціянскай рэлігійнай думкі (праваслаўнай пасля скасавання Уніяцкай царквы ў 1839 г.).

Сярод іншых дасягненняў Я. Руцкага ў справе уніяцкага царкоўнага будаўніцтва адзначым толькі асноўныя. 30 сакавіка 1613 г. ён дамогся вялікакняжацкай граматы аб перадачы Уніяцкай царкве старадаўняга Успенскага манастыра ў Мінску, які рабіўся, такім чынам, новым цэнтрам пашырэння уніяцтва. Указам Жыгімонта III ён далучаўся да віленскага Траецкага манастыра пад агульнае кіраванне Я. Руцкага[13]. У новых асяродках уніяцтва Я. Руцкі завёў царкоўныя школы з выкладаннем у іх пяці моваў — роднай беларускай, царкоўнаславянскай, польскай, грэцкай і лацінскай, а таксама вядомага сярэдневяковага цыкла сямі свабодных мастацтваў — граматыкі, рыторыкі, дыялектыкі (у тагачасным сэнсе — майстэрства доказнай, лагічна абгрунтаванай спрэчкі), арыфметыкі, геаметрыі, музыкі і астраноміі.

Пасля смерці І. Пацея (1613 г.) кароль і вялікі князь асобным правілеем прызначыў Я. Руцкага спадкаемцам мітрапалічай кафедры, на якую ён і быў пасвечаны з тытулам — мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсёй Русі. З гэтага часу пачаўся новы перыяд Уніяцкай царквы, найбольш значны ў яе гісторыі. Матэрыяльным фундаментам шырокай царкоўна-асветніцкай дзейнасці Руцкага сталі перададзеныя яму шматлікія маёнткі і зямельныя ўладанні ў Віленскім, Навагрудскім і Троцкім ваяводствах ды іншых рэгіёнах Беларусі і Літвы. Хоць афіцыйнай мітрапалітавай сталіцаю лічыўся Кіеў, аднак фактычна яе ролю папераменна выконвалі Вільня і Навагрудак, дзе быў ягоны родавы фальварак Рута і патранаваны ім Лаўрышаўскі манастыр. Пасля спусташальнага пажару ў Вільні кароль і вялікі князь выдаў на імя Я. Руцкага прывілей, паводле якога даходы ад падаткаў з кушнерскага, купецкага, роскага (Росы — прадмесце Вільні) і панскага брацтваў перадаваліся на уніяцкія манастыры і будаванне пагарэлых цэркваў[14]. Праз адзінаццаць гадоў гэты прывілей пацвердзіў і прадоўжыў новы кароль і вялікі князь Уладзіслаў IV[15].

Я. Руцкаму ўдалося стварыць моцную царкоўную іерархію і шматлікія прыходы ў пяці архіепіскапствах. На ключавыя пасты Уніяцкай царквы ён прызначыў яе верных абаронцаў. Архімандрытам Віленскага Траецкага манастыра стаў уніяцкі пісьменнік Леў Крэўза (другая пал. XVI ст. — 1638 г.), пазней протаархімандрыт Базылянскага ордэна, з 1623 г. смаленскі і чарнігаўскі архіепіскап, аўтар палемічнага твора "Абарона царкоўнага яднання" (Вільня, 1617). На чале Уладзімірскай кафедры стаў яшчэ адзін уніяцкі пісьменнік Ілля Марахоўскі, аўтар кніг "Парыгорыі" (Вільня, 1621), "Размова пра пачатак адарвання Грэчаскай царквы ад Рымскага касцёла" (Замосце, 1622) і "Паведамлення пра забойства Язафата Кунцэвіча" (Замосце, 1624). Урэшце, у 1614 г. полацкім архіепіскапам стаў сябра А. Руцкага, ягоны былы намеснік у віленскім





Траецкім манастыры Язафат Кунцэвіч.

Умацоўваючы структуру і духоўны аўтарытэт Уніяцкай царквы, Я. Руцкі не забываў і палітычны аспект яе стабільнасці. Ён звярнуўся да папы рымскага, вялікага князя і дэпутатаў Генеральнага сойма (1615 г.) з настойлівай просьбай увесці ў склад Рады Вялікага княства Літоўскага найвышэйшых уніяцкіх іерархаў і ўрэшце часткова дамогся сваёй мэты. Я. Руцкі няспынна раз'язджаў па далёкіх і блізкіх уніяцкіх епархіях, наведваў манастыры і прыходы, на месцах прымаючы захады для іх умацавання і павышэння духоўнага аўтарытэту. Ва ўмовах жорсткай апазіцыі праваслаўнай іерархіі і праваслаўных брацтваў гэтая місія была не з лёгкіх. Захаваліся сведчанні, што пры наведванні Львоўскай епархіі праваслаўныя напалі на абоз і моцна збілі ягоных спадарожнікаў[16].

Дабіўшыся адноснай стабільнасці Уніяцкай царквы ў дзяржаве, Я. Руцкі вярнуўся да сваёй даўняй ідэі заснавання аўтарытэтнага уніяцкага ордэна. Ён глыбока вывучыў досвед заснавання і росквіту асноўных манаскіх брацтваў і падрыхтаваў фундаментальны, дэталёва распрацаваны праект "Правілаў манастырскага жыцця" (1617 г.), які быў гатовы да адкрыцця першай Навагрудскай кангрэгацыі уніяцкіх манастыроў. Гэты рукапісны том стаў праектам Базылянскага ордэна.

На яго канчатковае арганізацыйнае афармленне спатрэбілася каля дзесяці гадоў і шэсць манастырскіх з'ездаў: у Навагрудку (1617 г.), Лаўрышаве Навагрудскага павета (1621 і 1626), у Руце таго ж Навагрудскага павета — на малой радзіме Я. Руцкага (1626), у Жыровічах (1629) і Вільні (1636). Па сутнасці, гэта было не аднаўленне ордэна, задуманага ў даўнія часы кесарыйскім епіскапам Васілём Вялікім (каля 330—379 гг.), а стварэнне новага манаскага брацтва, дапасаванага да сацыяльна-палітычных і царкоўна-культурных умоў Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Базылянскае манаства ў духоўным плане захавала традыцыі прызнанага праваслаўнымі і католікамі святога Васіля і спрыяла царкоўнаму яднанню ў Княстве, а ў перспектыве (мабыць, яна прымроілася беларусу Я. Руцкаму) — ва ўсім хрысціянскім свеце[17].

Дакладна распрацаваная іерархічная структура Базылянскага ордэна прадугледжвала аўтаномнасць уніяцкіх манастыроў адносна епархіяльных уладаў. Вярхоўная ўлада належала кангрэгацыям (з'ездам), якія звычайна скліканіся раз на чатыры гады. Кангрэгацыі маглі быць звычайнымі і выбарчымі. Кангрэгацыі складалі паслы, што выбіраліся ад манастыроў, а таксама ўсе архімандрыты і уніяцкі мітрапаліт. Рэгламент склікання і працэдура пасяджэнняў грунтаваліся на дэмакратычным прынцыпе, напрыклад, прадугледжвалася галасаванне ананімнымі карткамі, выбранне сакратарыята, "натарыуса", які вёў пратаколы, і падліковай камісіі[18]. Кангрэгацыя выбірала тайным галасаваннем выканаўчую ўладу ордэна — протаархімандрыта і яго намеснікаў. Нававыбраны прысягаў на Евангеллі і Крыжы паводле наступнага тэксту: "Я, іераманах Ордэна Св. Базыля Вялікага, клянуся Госпадам Богам у Тройцы адзіным, што буду спрыяць і застануся верным ордэну Базыля Вялікага і асабліва Кангрэгацыі Найсвяцейшай Жыватворнай Тройцы, у меру сіл сваіх буду клапаціцца пра ўзрастанне яе дабра, застаючыся ў той жа час у адзінстве з святою Рымскаю царквою, ва ўсім, на падставе заключаных умоў, буду падпарадкавацца свяцейшаму і шаноўнейшаму мітрапаліту Кіеўскаму, Галіцкаму і ўсёй Русі, як сучаснаму, так і ягоным пераемнікам [...] У гэтым няхай дапаможа мне Госпад Бог і святое Евангелле"[19].

Першым пажыццёвым кіраўніком ордэна базылянаў, выбраным на першай Навагрудскай кангрэгацыі, быў ягоны стваральнік Язэп Руцкі. Пазней гэтую пасаду займалі яго пераемнікі па кафедры: Леў Крэўза, Рафаіл Корсак, Якуб Суша, Гаўрыла Календа... З 1665 года кіраўніка базылянаў называлі генералам — на ўзор адпаведнай пасады ў езуітаў. Выкарыстаўшы досвед сваіх папярэднікаў, базыляне ўрэшце сталі галоўнымі канкурэнтамі Таварыства Ісуса. На думку Ю. Крачкоўскага, яны "не мала садзейнічалі падзенню іх (езуітаў), заняўшы пасля іх месца, асабліва ў галіне адукацыі"[20].

Паводле плана Я. Руцкага, запісанага ў пастанове Навагрудскай кангрэгацыі (1617), кожны манастыр павінен быў мець школу для навіцыянаў і свецкай моладзі. У віленскай, мінскай і іншых семінарыях былі два аддзяленні — ніжэйшае і вышэйшае. На апошняе выкладчыкамі запрашалі толькі прафесараў. У ролі інспектара ўсіх уніяцкіх школ выступаў адзін з высокаадукаваных базылянаў. Апрача традыцыйных "сямі вызваленых мастацтваў" выкладаліся старабеларуская, царкоўнаславянская, лацінская, грэцкая, польская, пазней яшчэ нямецкая, французская і руская мовы, "метафізіка" (асновы філасофіі), паэтыка, права, свяшчэнная гісторыя, асновы тэалогіі і хрысціянская абраду, агульная гісторыя і гісторыя Рэчы Паспалітай (з XIX ст. — гісторыя Расійскай імперыі). У базылянскіх школах вывучалі фізічную і палітычную геаграфію, арыфметыку, алгебру, геаметрыю, заалогію, з канца XVIII ст. — фізіку і астраномію. Школы ордэна прымалі вучняў розных хрысціянскіх канфесіяў, яе выпускнікі (пяць класаў з двухгадовым навучаннем у апошнім) мелі права паступаць ва універсітэты.

На Беларусі ў розныя часы было каля 55 базылянскіх кляштараў, буйнейшыя з іх — Свята-Траецкі (Базылянскія муры ў Вільні), Полацкі, Жыровіцкі, Менскі, Віцебскі, Беразвецкі,

**Барунскі, Быценскі, Антопальскі, Лаўрышаўскі. Апрача школ, яны мелі свае друкарні (у Вільні, Менску, Супраслі, Пачаеве). З 1628 да 1800 года ў іх выдадзена звыш тысячы кніг на старабеларускай, польскай, царкоўнаславянскай, лацінскай мовах, з іх каля 40 працэнтаў складала свецкая літаратура. Яшчэ пры жыцці Я. Руцкага былі заснаваныя жаночыя кляштары базылянак. Напярэдадні закрыцця ордэна, у 1824 годзе, базылянкі мелі дзесяць пансіёнаў для свецкіх дзяўчат. Базылянскую школу прайшла значная частка асветнікаў і творчай інтэлігенцыі Беларусі эпохі барока і класіцызму і адзін з найбуйнейшых яе прадстаўнікоў Сімяон Полацкі.**

**Такім чынам, Я. Руцкаму было наканавана стварыць у Беларусі асновы самабытнай адукацыі. Базылянская школа, бясспрэчна, паўплывала на фармаванне першай плыні беларускага нацыянальнага Адраджэння ў XIX ст., хоць у складаных этнапалітычных канфліктах Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі не здолела пайсці па шляху беларускай культурнай самаідэнтыфікацыі.**

**Арганізацыя Базылянскага ордэна і яго адукацыйна-выхаваўчых структур засведчыла пераход Я. Руцкага ад барацьбы за існаванне уніяцтва (віленскі перыяд — 1605—1613 гг.) да пераважна мірнай, творчасцвярджальнай дзейнасці. Нават рашучыя праціўнікі лідэра Уніяцкай царквы прызнаюць, што ён адмовіўся ад гвалтоўных мер і перайшоў да пераканання любоўю, цярплівасцю і лагоднасцю. Надышоў час публічных вучоных спрэчак паміж праваслаўнымі і уніятамі. На чацвёртым годзе свайго мітрапаліцкага служэння Я. Руцкі апублікаваў у абарону Уніі кнігу ''Абарона Царкоўнага адзінства, альбо довады, якія сведчаць, што Грэцкая царква можа быць з'яднаная з царквою Лацінскаю'' (Вільня, 1617, на польскай мове). Аўтар даказвае, што царкоўнае адзінства ёсць даўняя традыцыя Вялікага княства Літоўскага, і цяперашняя Унія ўводзіцца на законнай падставе[21].**

**Устанаўленню адносна мірнага парытэту паміж праваслаўем і уніяцтвам перашкодзілі бунты праваслаўных месцічаў у Магілёве (1618 г., студзень), Віцебску (1623 г., кастрычнік). У першым выпадку магіляўчане зачынілі гарадскія вароты, выставілі на вежах гарматы і пішчалі і лаянкай прагналі полацкага і магілёўскага архіепіскапа Язафата Кунцэвіча. Тут справа не дайшла да ахвяраў і прысуджаныя да пакарання смерцю кіраўнікі бунту былі памілаваны, на горад накладзены штраф, а цэрквы перададзены пад уладу уніятаў[22]. Віцебская ж змова была крываваю, і сябра Я. Руцкага, гарачы абаронца Уніі Я. Кунцэвіч, стаў яе ахвяраю.**

**Каб пазбегнуць новых трагедый і усталяваць у Княстве царкоўны мір, Я. Руцкі пасля доўгага роздуму выступіў з ідэяй мірнага, брацкага залагоджвання магчымых канфліктаў на агульных уніяцка-праваслаўных кангрэгацыях (саборах), якія ў канчатковым выніку павінны былі прывесці да ўтварэння адзінай Вялікакняскай Царквы на чале з патрыярхам. Спачатку мелася на ўвазе падпарадкаваць новастворанай патрыярхіі ўсе хрысціянскія канфесіі Княства. Аднак з прычыны карэнных разыходжанняў з пратэстантамі ад саюзу з імі прыйшлося адмовіцца. Мэта гэтай смелай ідэі — духоўная кансалідацыя дзяржавы і незалежнасць яе царквы ад Масквы, Канстанцінопаля і Рыма. Сваім планам мітрапаліт падзяліўся спачатку з уніяцкімі епіскапамі на тайнай нарадзе ў сваёй навагрудскай рэзідэнцыі (студзень 1624 г.), а таксама, верагодна, з вялікім князем Жыгімонтам III ды з віленскім ваяводам Львом Сапегам.**

**Праваслаўныя іерархі рашуча адхілілі прапанову уніятаў. Аднак мітрапаліт не здаўся. Праз два гады свае планы ён вынес на вальны Варшаўскі сойм. У выніку ''апостал яднання і веры'', як справядліва назваў Руцкага яго сучасны біёграф І. Саверчанка, атрымаў дазвол караля на скліканне праваслаўна-уніяцкага сабору ў Кобрыне. Аднак праваслаўны бок і на гэты раз адхіліў ідэю сумеснага сабору. Тады Я. Руцкі перайшоў да тактыкі асабістых перамоваў з аўтарытэтнымі і асвечанымі праваслаўнымі іерархамі. Яму ўдалося захапіць ідэяй агульнакняжацкай царкоўнай уніі М. Сматрыцкага, знакамітага тэолага і пісьменніка Кірыла Транквільёна Стаўравецкага ды іншых уплывовых праваслаўных дзеячаў. К. Транквільён паслужыў Уніі ў якасці архімандрыта чарнігаўскіх манастыроў, а М. Сматрыцкі — у якасці яе тэарэтыка, аўтара уніяцкага ''Катэхізіса'', ''Апалогіі'' і трактата ''Аб шасці розніцах у вучэнні ''Усходняй і Заходняй цэркваў'' (1627—1628).**

**Заручыўшыся падтрымкаю уплывовых дзяржаўных асобаў і прыхільнікаў агульнадзяржаўнай уніі з праваслаўнага асяроддзя, Я. Руцкі атрымаў ад Жыгімонта III дазвол на правядзенне 29 кастрычніка 1629 года супольнага з праваслаўнымі іерархамі сабору ў Львове. Аднак пад націскам запарожскіх казакоў і пратэсту кіеўскай шляхты праваслаўныя дэлегаты вырашылі не ўдзельнічаць у гэтай акцыі. Я. Руцкаму прыйшлося адмовіцца ад грандыёзных планаў рэлігійнага яднання і засяродзіцца на ўмацаванні Уніяцкай царквы. Больш таго, пасля смерці караля і вялікага князя Жыгімонта III, на элекцыйным (выбарчым) сойме ў 1632 годзе, праваслаўныя дабіліся ад новага караля Уладзіслава IV вяртання ім некаторых ранейшых прывілеяў.**

**Менш чым за год да смерці, 1 чэрвеня 1636 года Я. Руцкі падпісаў акт на абмен сваёй долі Свіранаў (верагодна, тыя Свіраны Віленскага павета, дзе ў 1840 годзе нарадзіўся Францішак Багушэвіч) на свой родавы фальварак Руту, які, верагодна, раней, у бытнасць Руцкага манахам, быў запісаны за віленскім Свята-Траецкім манастыром. На зыходзе жыцця гэты асветнік і змагар вяртаўся да сваіх родавых вытокаў. Пры гэтым герой уніяцтва не ўтрымаўся ад лірычнага адступлення, зазначыўшы, што якраз у Руце яго, Язэпа Руцкага, які “нарадзіўся ерэтыком” (маецца на ўвазе пратэстанцкая канфесія бацькоў), Бог спадобіў вярнуцца ва ўлонне “святой веры кафалічаскай”[22].**

**Памёр няўрымслівы стваральнік Уніяцкай царквы 5 студзеня 1637 года, пахаваны ў віленскім Свята-Траецкім манастыры, — там, адкуль пачыналіся вытокі Уніі. Яшчэ пры жыцці ён стаў героем гэтага вялікага, хоць у маштабах усяго хрысціянскага свету лакальнага, духоўнага досведу, за якім, магчыма, — будучыня хрысціянства як рэлігіі і тыпу цывілізацыі.**

**На заканчэнне колькі слоў пра Язэпа Руцкага як чалавека, асветніка і рэлігійнага рэфарматара. Дарэвалюцыйныя расійскія, а пазней артадаксальныя савецкія даследчыкі былі ў дачыненні да гэтага чалавека вельмі тэндэнцыйныя, абвінавачвалі яго ў лацінізме ды езуіцтве. Апантаны праціўнік Уніі М. Каяловіч пісаў, што Руцкі “больш за іншых прасунуў унію да лацінства”, быў паслядоўным праваднікам сваіх езуіцкіх настаўнікаў, чалавекам “дакладна выпрацаванай, чыста адгладжанай пасрэднасці”. Урэшце “западнорус” Каяловіч не стрымаўся ад банальнай лаянкі, заявіўшы, быццам Руцкі — адзін з тых “пустых людзей”, якія “робяць часам справы больш важныя, чым людзі разумныя”[23].**

**Аднак нават тэндэнцыйна крывыя партрэты Руцкага “прасвечваюць” для нас зусім іншы вобраз: чалавека добразычлівага, мілажальнага; рыцара ідэі з моцным характарам, часам рэзкага на словах і ў ацэнках, але памяркоўнага на справе, здольнага ісці на значныя кампрамісы дзеля яднання Царквы і Дзяржавы. Гэтыя рысы характару духоўнага лідэра і палітыка дазволілі яму бліскуча рэалізаваць ідэю Уніяцкай царквы на грунце Базылянскага ордэна. Як справядліва адзначала польская “Усеагульная Энцыклапедыя” ў 1866 годзе: “Рагоза аднавіў унію, Пацей — утрымаў, але ўзмацніў, пашырыў і распаўсюдзіў, зрабіў яе Царквою толькі Руцкі”[24].**

**Урэшце яшчэ адзін штрых да партрэта Язэпа Руцкага. Паводле ягонага біёграфа і пераемніка на мітрапаліцкай кафедры Р. Корсака, гэты нястомны змагар і працаўнік на царкоўна-асветніцкай ніве пакутаваў на цяжкую хранічную хваробу. Першы “ўдар” (маецца на ўвазе інсульт) адбыўся на трыццаць пятым годзе жыцця, падчас замаху на жыццё І. Пацея. Праз некалькі гадоў інсульт паўтарыўся, часова паралізаваўшы палову цела пакутніка. Апрача гэтай фатальнай немачы Я. Руцкі пакутаваў на падагру і каменную хваробу[25]. Толькі надзвычайная сіла волі і аскетычны, посніцкі лад жыцця далі яму магчымасць дажыць да адносна сталага веку і здзейсніць гістарычную справу будавання Уніяцкай царквы.**

**Уладзімір КОНАН**

---

[1] Макарій, митрап. История русской церкви. Т.X, С. 362; Чистяков И. Очерк истории западнорусской церкви. Т II. СПб., 1882. С. 19.

[2] Евгеній митрап Описаніе Кіево-Софійскаго Собора и Киевской епархіи. Казань, 1825. С. 153; Коялович М. Литовская церковная унія. Т.II. СПб., 1861 С. 302, примечание.

[3] Саверчанка І. Апостал яднання і веры: Язэп Руцкі. Мн., 1994. С. 10—12.

[4] Мысліцелі і асветнікі Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1995. С. 287

[5] Жукович П.Н. Жизнеописание митрополита Іосифа Вельямина Рутскаго... //Христиіанское чтеніе, 1909, август-сент Т. CCXXXI. Ч. 1

[6] Турук Ф. Уніяцкій митрополит Іосіф Вельямин Рутскій... С. 13.

[7] Жукович П. Жизнеописаніе митр. Иосифа Вельямина Рутскаго... // Христіанское чтеніе, 1909, август—сентябрь. Т. CCXXXI. Ч. 1 С. 1104.

[8] Тамсама. С. 1104—1106.

[9] ТЕЗЕЗ, сиреч Изъвестны предложенія от ученій, еже о Тайнах Церъковныхъ... Іосифомъ Вельямином Рутъским... (Вільня, 1607—1608). Тэзіс 2.

[10] Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографическою Комиссиею. Т II. № 30. С. 49—51

[11] Акты, издаваемые Виленскою Археографическою Комиссией. Т VIII. Вильно, 1875. № 224. С. 563—564.

[12] Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографическою Комиссией. Т II. № 43. С. 68.

[13] Жукович П.Н. Жизнеописание митрополита Иосифа Вельямина Рутского... С. 1098—1099.

[14] Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографическою Комиссией. Т. II. № 44. С. 68—69.

[15] Акты, издаваемые Виленскою Археографическою Комиссией. Т IX: Акты Виленского земского суда. Т IX. Вильня, 1878. № 56. С. 155—157

[16] Тамсама. № I. С. 3—15.

[17] Макарий, митр. История русской церкви. Т 10. СПб., 1881 С. 464.

[18] Пратаколы ўсіх кангрэгацыяў Базылянскага ордэна, у тым ліку першых устаноўчых, іншых матэрыялаў, якія датычыліся вынікаў іх рашэнняў, апублікаваны на польскай мове, часткова па-латыні ў кн.: Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при Управлении Виленского учебного Округа. Т XII. Вильня, 1900. 230 с.

[19] Археографический сборник документов, относящийся к истории Северо-Западной Руси... Т XII. С. 67 90.

[20] Тамсама. С. 177—178.

[21] Спадчына Я. Руцкага і Базылянскага ордэна даследавалася галоўным чынам з вялікарасійска-праваслаўных альбо вялікапольскіх пазіцыяў. Апрача кн. М. Кояловича, гл., напр.. Петров Н.И. Очерк истории Базилянского ордена в бывшей Польше // Труды Киевской Духовной академии за 1870 г (май, август ноябрь), за 1871 г (февраль, май, июнь, июль), за 1872 г (январь, февраль); Крачковский Ю.Ф. Очерки униатской церкви // Чтения в Императорском обществе истории и древностей российских при Московском ун-те. М., 1871 Кн. 1—2. С. 150—282; 1876. Кн. 3—4. С. 283—404. У кантэксце беларускай культуры Я. Руцкаму прысвечана брашура І. Саверчанкі (гл спасылка 3). Гл. таксама: Коялович М. Литовская церковная уния.

[22] Акты, издаваемые Виленскою Археографическою Комиссией. Т IX... № 61 С. 173—175.

[23] Коялович М. Литовская церковная уния. Т II. С. 93—95.

[24] Encyklopedia Powszechna. Т XXII. 1886. С. 562.

[25] Жукович П. Жизнеописание митр. Иосифа Вельямина Рутского // Христианское чтение. 1909. Т CCXXXI. Ч. I. Август—сентябрь. С. 1100.

# АПОСТАЛ ЯДНАННЯ

Светлая постаць Язэпа Вельяміна Руцкага — трэцяга уніяцкага мітрапаліта, бліскучага пісьменніка-палеміста і педагога, тэолага і філосафа, не зважаючы на бег часу, застаецца ў нашай гісторыі не толькі каларытнай, але й пасаблівыму прывабнай. У гэтым чалавеку арганічна спалучалася, здавалася б, неспалучальнае: талент абачлівага, тонкага дыпламата і — бязмежная даверлівасць, адкрытасць; рэдкія здольнасці лідэра, паслядоўнага практыка-рэфарматара і — неўтаймаваная летуценнасць, юнацкая наіўнасць. Сталася так, што якраз з імем Я.-В. Руцкага лучыцца ўмацаванне Уніяцкай царквы Вялікага княства Літоўскага, час яе росквіту і істотнага ўплыву на духоўнае жыццё нашых продкаў.

Нарадзіўся Я. Руцкі ў 1574 г. у родавым маёнтку Рута, што паблізу Навагрудка, у шляхецкай сям'і. Яго бацька Фелікс Руцкі і маці Багуміла Корсак належалі да кальвінскага веравызнання. Праўда, хрысціў іхнага сына чамусьці праваслаўны святар, які даў немаўляці імя Ян.

Пачатковую адукацыю падлетак атрымаў у першай палове 80-х гадоў у навагрудскіх анабаптыстаў. Мусіць, з парады настаўнікаў бацькі Руцкага накіравалі яго ў Віленскую кальвінісцкую школу, дзе ён студыяваў колькі гадоў, старанна вывучаючы класічныя мовы — лаціну, грэцкую і іўрыт. З асаблівай ахвотай юнак слухаў пропаведзі пратэстанцкіх настаўнікаў. Наведваў папулярныя ў тым часе публічныя дыспуты, што праводзіліся між прадстаўнікамі розных канфесіяў дзеля выяўлення "праўдзівай веры". Паводле слоў Р. Корсака, сучасніка і першага біёграфа Руцкага, незабыўнае ўражанне на юнака зрабіла шматдзённая дыскусія айцоў-езуітаў з вядомым праваслаўным багасловам Васілём Астрожскім. Для ўдзелу ў палеміцы Руцкі, вядома, тады яшчэ быў не падрыхтаваны. Ён, аднак, запамінаў кожны з аргументаў, запісваў тое-сёе ў свой нататнік, а вечарам абдумваў пачутае з вуснаў настаўнікаў.

У 16-гадовым веку Руцкі накіроўваецца за мяжу, каб прадоўжыць навучанне. Нейкі час ён слухае лекцыі ў славутым Пражскім Карлавым універсітэце, потым тры гады праводзіць у Нямеччыне і з выдатнымі адзнакамі заканчвае Вюрцбургскі універсітэт. Матэрыяльную падтрымку ў часе навучання за мяжой ён меў ад маці, бо бацька памёр у 1590 годзе, яшчэ да ягонага ад'езду ў Чэхію. Але адданая кальвінізму Багуміла Корсак, неяк дачуўшыся пра сынавы сімпатыі да каталіцтва, пазбавіла яго ўсялякіх сродкаў да існавання.

Разгублены юнак доўга шукаў выйсця, каб прадоўжыць навучанне, і яно неспадзявана знайшлося. Праз Вюрцбург праязджаў пракуратар вялікакняскай і польскай каталіцкіх правінцыяў айцец Бокса, які пазнаёміўся з Руцкім і, даведаўшыся пра яго фінансавыя цяжкасці, параіў юнаку ехаць у Рым і паступіць у Грэцкі калегіум, дзе багаслоўскую адукацыю можна было атрымаць бясплатна. Руцкі так і зрабіў: блізу 1600 года ён быў залічаны ў Грэцкі калегіум у Рыме. Тады ж адбылася вельмі важная ў ягоным жыцці падзея, ён урачыста пакляўся заўсёды трымацца ўсходняга веравызнання, бо гэта было адной з умоваў прыняцця ў калегіум.

Дзесьці ў 1601 годзе Руцкі вярнуўся на радзіму. Сустрэўшыся ў Вільні з мітрапалітам І. Пацеем, асвечаны юнак прапанаваў свае паслугі й веды на карысць Уніяцкай царквы. Але ўладыка стрымана паставіўся да прапазіцыі выхаванца еўрапейскіх універсітэтаў і параіў яму накіравацца ў новае падарожжа па Еўропе з дзецьмі віленскага ваяводы князя Радзівіла. Разгублены і занепакоены няўдачай, Руцкі едзе ў Руту да маці, каб адпачыць і вызначыцца з будучым заняткам.

Час няпэўнасці быў кароткі. У 1602 годзе памёр рэктар Віленскай уніяцкай семінарыі Пётра Федаровіч, і І. Пацей пасля настойлівай просьбы каталіцкага біскупа Бенядзікта Войны згадзіўся прызначыць Руцкага кіраўніком семінарыі. З гэтага моманту пачалася яго сталая дзейнасць.

На пасадзе рэктара, якую Руцкі займаў на працягу трох гадоў, выявіўся яго бліскучы педагагічны талент і здольнасці рэфарматара. Як творчая асоба Руцкі адразу ж ажыццявіў шэраг зменаў у сістэме навучання ў Віленскай семінарыі і падрыхтаваў выдатны паводле свайго зместу навукова-педагагічны трактат пад тытулам "Дыскурсус" (блізу 1605 года), у якім якраз абгрунтаваў неабходнасць карэнных рэформаў у сферы адукацыі і выхавання. Гэтыя рэформы, на яго думку, мусілі істотна змяніць жыццё ўсёй Уніяцкай царквы.

У 1606 годзе, захапіўшыся місіянерскай ідэяй, Руцкі накіроўваецца ў Маскву. Чаму менавіта туды? Хутчэй за ўсё таму, што ён пабачыў магчымасць рэалізаваць сябе ў Масковіі, ажыццявіць свае задумы ўдасканалення Хрыстовай Царквы. На маскоўскім пасадзе на той момант знаходзіўся цар Дзмітрый I (пазней названы Ілжэдзмітрыем), беларус з паходжання, які ў 1605 годзе прывёў у Маскву беларускія і польскія вайсковыя аддзелы. Я. Руцкі, як сведчаць яго біёграфы, меў цесныя стасункі з новым маскоўскім гаспадаром і неаднаразова прапаноўваў яму накіроўваць юнакоў па навуку ў Вялікае княства Літоўскае з тым, каб пасля з іх дапамогай праводзіць дзяржаўныя і царкоўныя пераўтварэнні ў Масковіі. Гэты факт — красамоўнае сведчанне глыбокае захопленасці Руцкага ідэяй рэформаў Хрысціянства.

Але і ў Маскве здзейсніць свае задумы Руцкі не змог, бо ўлада Дзмітрыя I неўзабаве пахіснулася, пачаліся нутраныя забурэнні, у выніку якіх цар быў забіты. У Масковіі надышлі "смутныя часы".

Увесну 1606 года Руцкі, сутыкнуўшыся ў Маскве з неспрыяльнымі для рэформаў умовамі, намерыўся паехаць разам з кармелітам Паўлам у Персію. Праўда, падарожжа на Усход не адбылося. Як апавядае легенда, праз дзень па выездзе місіянераў з Масквы яны раптам зноў апынуліся каля яе сцен, хоць іх і суправаджалі дасведчаныя праваднікі. Руцкі ўспрыняў гэтае здарэнне як Божы знак, адмовіўся ад наведвання Персіі і ў хуткім часе вярнуўся на Беларусь.

У Вільні Руцкі зблізіўся з манахам Свята-Траецкага манастыра Язафатам Кунцэвічам і, мусіць, пад яго ным уплывам 6 верасня 1607 года падаўся ў уніяцкі манастыр. 1 студзеня, па скančэнні тэрміну выпрабавання, адбылося яго пастрыжэнне ў манахі пад імем Язэпа. У тым жа годзе архімандрыт Свята-Траецкага манастыра Самуль Сянчыла пасвяціў Руцкага ў дыяканы, а потым надаў яму сан прэсвітэра. З гэтага моманту жыццё і чыннасць Руцкага становяцца цалкам знітаванымі з Уніяцкай царквою.

Пасля таго як Свята-Траецкі манастыр папоўніўся моладдзю, пераважна шляхецкага паходжання, Я. Руцкаму было даручана яе выхаванне. Ён чытаў навіцыянам лекцыі з багаслоўя, навучаў іх лацінскай і царкоўнаславянскай мовам. Менавіта ў перыяд знаходжання ў Віленскім уніяцкім манастыры, ад 1607 да 1613 года, канчаткова сфармавалася тэалагічная дактрына Я. Руцкага, пра што красамоўна сведчаць ягоныя "Тэзісы", выдадзеныя на старабеларускай і польскай мовах напрыканцы 1607 ці на самым пачатку 1608 года.

Нягледзячы на тое, што Руцкі не займаў нейкіх значных царкоўных пасадаў, ён паступова становіўся сярод віленскіх уніятаў усё больш аўтарытэтнай асобаю. Таму спрыялі ягоныя неаднаразовыя выступы ў часе дыспутаў, паспяховая педагагічная дзейнасць і, несумнеўна, асабістая абаяльнасць. Па-еўрапейску асвечаны чалавек, ён досыць лёгка заваёўваў сімпатыі людзей, без асаблівых цяжкасцяў знаходзіў агульную мову з прадстаўнікамі розных канфесіяў, а таксама дзяржаўнымі дзеячамі Вялікага княства Літоўскага. Невыпадкова мітрапаліт І. Пацей у ліпені 1608 года прызначыў Руцкага сваім намеснікам, хоць гэтую пасаду, паводле традыцыі, мусіў заняць архімандрыт віленскага Свята-Траецкага манастыра. З гэтым прызначэннем на яго плечы лёг увесь цяжар кіраўніцтва Уніяцкаю царквою, бо састарэлы і хворы І. Пацей быў не ў стане штодзённа "даглядаць духоўныя парадкі". Перад Я. Руцкім паўстала найскладанейшая задача: праз рэформы ўмацаваць Царкву — арганізацыйна, і эканамічна, зрабіць яе прыцягальнай для вернікаў, узняць аўтарытэт у вачах хрысціянскага свету. І ён, як паказаў час, змог дасягнуць пастаўленай мэты.

Перш за ўсё Я. Руцкі дамогся канчатковага захавання Траецкага манастыра за уніятамі, бо праваслаўныя, не зважаючы на вырак манарха, у сакавіку 1609 года паспрабавалі сілай авалодаць ім. Архімандрыт 20 сакавіка 1609 года падаў скаргу ў магістрат, патрабуючы пакарання вінаватых. Яго падтрымаў І. Пацей.

30 красавіка 1609 года ў адказ на дзеянні уніятаў Віленскае праваслаўнае брацтва выступіла з заявай, у якой адзначалася, што праваслаўныя ніколі не прызнаюць І. Пацея сваім мітрапалітам. Яны не абмяжоўваліся толькі словамі. Праваслаўны месціч Максім Шэмбель зрабіў замах на жыццё Руцкага, і толькі дзякуючы шчасліваму збегу абставінаў архімандрыт застаўся жывы.

Найважнейшы кірунак дзейнасці Язэпа Руцкага на шляху ўмацавання Уніяцкай царквы — пабудова новых бажніцаў і заснаванне манастыроў, якія сталі грунтам, фундаментам новай Царквы. Руцкаму і яго аднадумцу Кунцэвічу ўдалося схіліць багатага шляхціца Рыгора Трызну да думкі аб будаўніцтве ў Быцені мужчынскага манастыра. Дзякуючы іхным намаганням блізу 1613 года на месцы бажніцы ў Жыровічах таксама быў закладзены уніяцкі манастыр, які з часам стаўся выдатным асяродкам хрысціянскай культуры. Сродкі на яго пабудову ахвяраваў смаленскі кашталян Ян Мялешка. Пад уплывам Руцкага і Кунцэвіча Я. Мялешка схіліўся да уніяцкай веры і з часам стаў адным з найбольш актыўных яе прапагандыстаў сярод шляхты. Плён намаганняў Руцкага і яго манахаў-аднадумцаў — адкрыццё буйнога уніяцкага манастыра ў Навагрудку.

Мітрапаліт І. Пацей, які стаяў ля вытокаў Уніяцкай царквы, высока ацэньваў чыннасць Руцкага і цешыўся з таго, што не памыліўся ў сваім выбары. 16 чэрвеня 1612 года ён выдаў грамату аб узвядзенні архімандрыта Траецкага манастыра на Галіцкую епіскапію і наданні яму сана "надворнага ўладыкі" — кіраўніка ўсёй царкоўнай адміністрацыі. У гэтай мітрапалітавай грамаце яшчэ раз зазначалася, што менавіта Руцкі з'яўляецца яго прамым пераемнікам. Разам з санам епіскапа і надворнага ўладыкі Руцкі атрымаў "на выхаванне" Лаўрышаўскі манастыр, над якім ён з таго моманту стаў галоўным апекуном.

Да найбольш значных заслугаў Я. Руцкага належыць і далучэнне да Уніяцкай царквы менскага Узнясенскага манастыра. Менавіта з яго хадайніцтва Жыгімонт Ваза 30 сакавіка 1613 года выдаў грамату, паводле якой гэты старажытны куток царкоўнай духоўнасці станавіўся уніяцкім. Ён "на вечныя часы" пераходзіў пад уладу галіцкага епіскапа, прычым, як адзначалася ў прывілеі, "з усімі падданымі, што жывуць у Менску і ваколлі,

а таксама з усімі землямі, барамі, сенажацямі, азёрамі і млынамі, з усім дабром і даходамі".

Не на апошнім месцы ў Руцкага быў і клопат пра навучанне моладзі і падрыхтоўку новых пастараў. Ён не толькі стварае ўмовы для засваення навук у школцы пры Траецкім манастыры, але й па дамове з каталіцкімі іерархамі накіроўвае некалькі чалавек у Нясвіжскі, Калішскі і Пултускі езуіцкія калегіумы, дзе падлеткі атрымалі сапраўды еўрапейскую адукацыю.

Пасля некалькіх аўдыенцыяў у вялікага князя Руцкі 31 сакавіка 1613 года дастаў прывілей на заснаванне школаў у Менску, Навагрудку і іншых месцах, дзе была магчымасць, падпарадкаваўшы іх выключна духоўным уладам. У гэтых навучальных установах, паводле прывілея, прадугледжвалася выкладанне пяці моваў — беларускай, польскай, царкоўнаславянскай, грэцкай і лаціны, а таксама цыкла "вызваленых мастацтваў". Да таго ж пазней, у снежні 1615 года, Руцкі дамогся ад папы рымскага пацвярджэння для ўсіх уніяцкіх школаў тых правоў, якія мелі езуіцкія калегіумы.

Новы этап у жыцці Руцкага пачаўся па смерці мітрапаліта І. Пацея, які адышоў у нябыт 8 жніўня 1613 года. Праз некалькі дзён пасля пахавання І. Пацея Жыгімонт Ваза выдаў прывілей, паводле якога новым уніяцкім мітрапалітам прызначаўся менавіта Я. Руцкі. Услед за гэтым Уніяцкая царква без забурэнняў і прыкметных зменаў уступіла ў новы перыяд, які стаўся найбольш значным ва ўсёй яе гісторыі.

Па ўзыходзе на мітраполію Я. Руцкі разгарнуў яшчэ большую дзейнасць дзеля ўмацавання Уніяцкай царквы, якая на той момант улучала пяць буйных царкоўна-адміністрацыйных адзінак — архіепіскапіяў: Полацкую, Уладзімірскую, Пінскую, Холмскую і Смаленскую. Найперш ён пачаў дамагацца палітычных правоў для Уніяцкай царквы, увядзення яе найвышэйшых іерархаў у склад Рады Вялікага Княства. Захаваўся дакумент ад 20 студзеня 1615 года, у якім якраз паведамлялася пра настойлівую просьбу мітрапаліта да дэпутатаў, абраных на Генеральны сойм ад Слоніма, паставіць перад заканадаўчым органам пытанне пра ўлучэнне некалькіх прадстаўнікоў Уніяцкай царквы ў склад Рады. Руцкі звярнуўся і да папы рымскага Паўла V, каб той са свайго боку падтрымаў гэтыя справядлівыя патрабаванні і паўплываў на Жыгімонта Вазу. Нягледзячы на перашкоды і цяжкасці, ён усё ж дамогся свайго і некалькі уніятаў увайшлі ў Раду.

У адрозненне ад свайго папярэдніка Руцкі няспынна наведваў епархіі, манастыры і прыходы, каб ведаць рэальнае становішча і ажыццяўляць кантроль дзейнасці іерархаў. Гэта дазволіла мітрапаліту зрабіць шэраг удалых і своечасовых перамяшчэнняў сярод найвышэйшага і асабліва сярэдняга духавенства. Так, архімандрытам віленскага Траецкага манастыра ён паставіў Льва Крэўзу, а архіепіскапам полацкім зрабіў адданага уніяцкага дзеяча Язафата Кунцэвіча. Руцкі таксама спрабаваў падпарадкаваць Уніяцкай царкве праваслаўныя асяродкі Кіева, найперш славутую Кіева-Пячорскую лаўру. Працяглае змаганне уніятаў за лаўру скончылася, праўда, безвынікова: яна засталася ў руках праваслаўных. Аднак ні супраціў апанентаў, ні нутраныя перашкоды не спынялі Руцкага. Ён пачаў падрыхтоўку да карэнных, глыбокіх рэформаў Царквы, найперш манастырскага жыцця. Найважнейшым крокам на гэтым шляху, паводле яго задумы, было ўтварэнне ордэна, на які ўскладалася б функцыя збіральніка ўсіх духоўных сілаў Царквы. Дзеля гэтага на працягу чатырох гадоў мітрапаліт сустракаўся з аўтарытэтнымі дзеячамі Каталіцкай царквы, вёў перамовы з уплывовымі асобамі Вялікага Княства, перапісваўся з Жыгімонтам Вазаю, манархамі заходнееўрапейскіх дзяржаў, няспынна пераконваў скептыкаў. Адначасова Руцкі рабіў велізарную тэарэтычную працу: вывучаў нутраное жыццё і арганізацыю дзейнасці ўсіх законаў у Хрысціянскай царкве. Пры гэтым мітрапаліт, як ніколі раней, заглыбляўся ў царкоўную гісторыю, грунтоўна перачытваў тэалагічныя трактаты апалагетаў хрысціянства — Васіля Вялікага, Іаана Златавуснага, Кірылы Ерусалімскага, Ераніма, Аўгустына, Грыгорыя Багаслова і многіх іншых. У іх творах, а таксама ў Бібліі ён настойліва шукаў адказу на пытанне, якім мусіць быць новы ордэн, паводле якіх прынцыпаў павінна будавацца яго жыццё.

Вынік шматгадовай падзвіжніцкай працы Руцкага — аб'ёмны рукапісны том "Правілаў манаскага жыцця" (закончаны да 1617 года), дзе дэталёва вызначаліся структура новага ордэна, яго мэты і характар дзейнасці.

Блізу 10 гадоў спатрэбілася Руцкаму, каб дасягнуць пастаўленай мэты. Вытрымаць гэтую велізарную фізічную і духоўную напругу мог толькі чалавек сапраўды выключных здольнасцяў, асаблівай мужнасці і рашучасці.

Як сведчаць гістарычныя крыніцы, афармленне Базыльянскага ордэна і набыццё ім поўнага юрыдычнага статуса адбылося ў часе шасці з'ездаў прадстаўнікоў уніяцкіх манастыроў — у Навагрудку (1617), Лаўрышаве (1621, 1626), Руце (1623), Жыровічах (1629) і Вільні (1636).

Поўнаму трыумфу Уніі на абшарах Вялікага княства Літоўскага перашкодзіла ўзнаўленне ў 1620 г. іерусалімскім патрыярхам Тэафанам праваслаўнай мітраполіі. Мітрапаліт Я. Руцкі, абураны дзеяннямі Тэафана, на найбліжэйшым сойме выступіў з рэзкім пратэстам, у якім назваў патрыярха "парушальнікам спакою", "маскоўскім агентам" і "турэцкім шпіёнам". Ён заклікаў вялікага князя і ўрад любым шляхам спыніць "разбуральную дзейнасць дызунітаў".





У 1621 г. Я. Руцкі распачаў літаратурную палеміку з праваслаўнымі. Ён апублікаваў "Падвойную віну" і "Экзамен абароны", у якіх аргументавана давёў, што ў Беларускім гаспадарстве здаўна існуе закон, паводле якога менавіта манарх прызначае ("прэзентуе") на найвышэйшыя духоўныя пасады ў Княстве, а патрыярх толькі робіць пасвячэнне. Літаратурныя дыскусіі, вядома, не знялі ўсіх пытанняў. Мітрапаліт прыйшоў да высновы, што міжканфесійныя дачыненні ў Княстве можна ўрэгуляваць паспраўднаму і назаўжды толькі праз утварэнне сваёй вялікакняскай патрыярхіі. Галоўныя яе мэты Я. Руцкі слушна бачыў у дасягненні кансалідацыі ўсяго шматканфесійнага ліцвінскага народа, зліквідаванні ўсялякіх падставаў для грамадскага напружання на рэлігійнай глебе, якое, трэба прызнаць, нягледзячы на дзяржаўную палітыку талеранцыі, амаль заўсёды мела месца ў нашай гісторыі.

Я. Руцкі выступіў ініцыятарам заснавання новага цэнтра хрысціянства. Нічога падобнага ў гісторыі Беларусі не было. Нават у часе княжання Вітаўта Вялікага (1392—1430), калі наша старажытная дзяржава знаходзілася ў кульмінацыйнай фазе свайго развіцця, утварэнне Праваслаўнай мітраполіі, незалежнай ад Масквы, але падпарадкаванай Канстанцінопалю, лічылася вяршыняй магчымага. Цяпер жа ставіліся куды больш маштабныя мэты, дасягненне якіх, бясспрэчна, узняло б аўтарытэт Вялікага княства Літоўскага.

На каго ж спадзяваўся Я. Руцкі, з дапамогай якіх сілаў думаў спраўдзіць свой чарговы рэфарматарскі план? Амаль без сумневу можна сцвярджаць, што галоўную надзею ён пакладаў на ордэн базыльянаў, які на той момант уяўляў значную сілу. Мітрапаліт, вядома, планаваў задзейнічаць і ўсе іншыя адгалінаванні падпарадкаванай яму Уніяцкай царквы. Ён разлічваў на дапамогу епіскапаў, усяго белага і чорнага уніяцкага святарства. Руцкі таксама рабіў стаўку на ўплывовых урадоўцаў Вялікага Княства, найперш, на віленскага ваяводу Льва Сапегу, аўтарытэт якога тады быў надзвычай высокі. Папярэднія ўзаемадачыненні мітрапаліта з вялікім князем Жыгімонтам Вазам давалі яму ўсе падставы меркаваць, што той таксама падтрымае ягоны план. Урэшце, Руцкі цешыў сябе надзеяй знайсці паразуменне з праваслаўнымі іерархамі, найперш Іовам Барэцкім, Сільвестрам Косавым, Пётрам Магілаю, Мялетам Смятрыцкім і Андрэем Мужылоўскім. Але перадусім ён разлічваў на самога сябе, свой талент і сваю волю. За ягонымі плячыма быў велізарны досвед, а галоўнае, пасля паспяховага ўтварэння ордэна базыльянаў ён верыў у сваю зорку. Надзеленаму вялікай уладай мітрапаліту здавалася, што цяпер ніхто не зможа перашкодзіць здзейсніць задуманае.

Але сталася інакш. Буйнамаштабны праект Я. Руцкага мог быць рэалізаваны толькі ва ўмовах эканамічнага і палітычнага ўздыму дзяржавы. У 20-х гадах XVII стагоддзя наша краіна з прычыны няспынных войнаў з Маскоўшчынай і Швецыяй, наадварот, уступіла ў фазу глыбокага крызісу, што ў другой палове стагоддзя прывяло да страты амаль трэці насельніцтва, велізарных тэрыторыяў і заняпаду гаспадаркі. У такіх неспрыяльных умовах чакаць актыўнай пазіцыі ўрадоўцаў Вялікага Княства, а таксама шырокай падтрымкі шляхецкіх колаў было цалкам безнадзейнай справай.

Апрача таго, у гэты час пачалі выяўляцца адмоўныя бакі канфедэратыўнага паяднання Княства з Каронаю: арганізм ліцвінскай дзяржавы тачыў чарвяк паланізацыі; манарх, імкнучыся да абсалютызавання сваёй улады на грунце польскасці, аб'ектыўна не быў зацікаўлены ва ўсебаковым умацаванні Княства, ідэя вялікакняскай патрыярхіі не выклікала ягоных сімпатыяў, бо гэта адразу б узняло прэстыж Вялікага Княства сярод краін Еўропы, чаго не хацелася ні манарху з яго прапольскай арыентацыяй, ні тым больш польскім магнатам, якія імкнуліся скарыць ліцвінаў.

Я. Руцкі, магчыма, адчуваў, але не да канца ўсведамляў той факт, што ўтварэнне вялікакняскай патрыярхіі супярэчыць глыбінным інтарэсам не толькі Масквы, але і прызнаных цэнтраў хрысціянства — Канстанцінопаля і Рыма, якія выяўлялі сваё зацікаўленне ягоным праектам настолькі, наколькі гэта адпавядала іх мэтам. Інтарэсы ліцвінскай нацыі, натуральна, стаялі ў іх палітыцы на дзесятым месцы. Таму надзея Я. Руцкага на дапамогу і спрыянне з боку найвышэйшых іерархаў хрысціянскага свету была ад пачатку ілюзорнай. Больш за тое, ёсць падставы гаварыць пра супрацьдзеянне Канстанцінопаля, Масквы і Рыма рэалізацыі ідэяў беларускіх уніятаў. Пазіцыя і ўчынкі польскага каталіцкага кліру і вялікакняскага праваслаўнага духавенства сведчаць, што за іх спінамі стаялі трэція, добра спрактыкаваныя ў такіх гульнях сілы.

Найадукаванейшы чалавек свайго часу, тонкі тактык і дыпламат, Я. Руцкі апынуўся, па сутнасці, у ізаляцыі: аддаленыя гістарычныя перспектывы і велічнае значэнне яго праекта для кансалідацыі беларускага народа ўсвядомілі толькі лічаныя асобы. Жыццё і абставіны сталіся мацнейшыя за яго; ён мусіў адступіць, прызнаць сваю паразу, перажыць крушэнне сваёй, магчыма, найгалоўнейшай мэты жыцця.

Але да апошніх дзён мітрапаліт верыў, што здолее кардынальна змяніць сітуацыю на карысць Уніяцкай царквы. Урэшце, справа, якой ён прысвяціў жыццё, сапраўды перамагла: пасля перамяшчэння ў сярэдзіне XVII стагоддзя цэнтра праваслаўя ў Кіеў Уніяцкая царква на доўгі час стала на нашых землях панавальнай.

Іван САВЕРЧАНКА

# Галіна ДУБЯНЕЦКАЯ



*кветам нярушаным*
*песні над песнямі*
*ява ўцякае*
*ў сны*
*недаснёныя*

# АНАДЫЯМЭНА





*

**веру ў сэнс невыказны**
**і ў хвілях разлітую ласку**
**уваходзячы ў лес**
**і ўсё далей знікаючы ў ім**
**...і сплятае гушчар нада мной**
**непамысную казку**
**асвячоную ў роспачы**
**Імем Тваім**

*

*бацькавай душы*

**святло ва ўсмешцы тваёй**
**і растае неспакой**
**а ўжо анёл над табой**
**схіліў крыло**
**нацяты боль цецівой**
**і рвецца белы сувой**
**і безнадзейны міжбой**
**і змярканне надышло**

**але вяртаецца ў снах**
**наш непражыты працяг**
**і абдымае прасцяг**
**тваё крыло**
**па промнях і камянях**
**па непрыкметных слядах**
**ледзь толькі вывеў на шлях**
**і змярканне надышло**

**на тым баку цішыні**
**свой вольны лёт прыпыні**
**і стуль з гары з вышыні**
**схілі крыло**
**не зднікні не праміні**
**сядай са мной пры агні**
**я больш не плачу зірні**
**і змярканне надышло**

*

аціхла залева
і вецер пагойдвае зрэдку
на кволай сцябліне
вялікую вогкую кветку
абернуты келіх
і больш ні халодна й ні цёпла
слязою на донцы
мігціць недапітая кропля

расстайны не вернецца позірк
далінай замглёнай
стулілася неба наўсцяж
непраніклай заслонай
абернуты келіх
пралітыя точацца спевы
з пялёсткамі бавіцца вецер
заціхла залева

*

...ты глядзіш у смугу дзе кружляюць лісты
безыменна
і адлюстраны зрок
размыкае абрысы акна
з глыбіні краявіду ўзыходзіць
Анадыямэна
беспрытомнаю зоркай
між явы блукаць давідна

...гэта час калі ў прыцемку моляцца
золкія кветкі
і нябачнае мора
варожыць кірунак любы
тут пакінулі срэбную вопратку
сёстры-падлеткі
і цішком падхапілі і знеслі яе
галубы

...адплываюць удалеч
прыстанкі сцяжыны і людзі
суціхае пачуццяў і думак
успуджаны грай





і спасланая ласкаю
музыка весці нас будзе
і нячутна пяройдзены
знікне з вачэй небакрай

... будзе музыка правіць палёт
у празрыстыя зманы
будзе млосць і пустэча
і ледзьве адолены крок
і тады прашапоча мне рэха
што ліст атрыманы
і на косы ўскладзе
залаты дзьмухаўцовы вянок

*

заблукаць і згубіцца ў табе
затануць у жамчужнай затоцы
і не чуць як вецер штомоцы
шкуматае галлё на вярбе

і аб тым не гадаць і не ведаць
што вакол заляглі халады
і замглілася ўлонне вады
і адстала ад выраю лебедзь

колькі выраяў праміне
колькі перлін затояць глыбіні
столькі зім па табе яна стыне
столькі зім ён галосіць па мне

*

гэты няісны свет
раптам адхлыне час
браце маўчы маўчы
падае сэрца ў дол

гэты вар'яцкі дом
сочыць нязгасны зрок
падаюць сэрцы скрозь
іх паглынае плынь

крохкае хвілі скон
мроіцца водгук дзесь
нас нам вяртае плынь
поўнымі нейчых слёз

дзе наш сапраўдны дом
веяў азораны ўзлёт
вымавіцца няўзнак
слоў патаемны сэнс

*

чуеш альшына роніць лісток
веецца сцежкай белы пясок
точыцца знекуль гаркотлівы дым
дыхаю Імем Тваім

*

скуль ты пасланнік горкі
вецер — шчакой прыпасці
стуль дзе прытуляць зоркі
адлучаных ад прычасця

літасць ляза і джала
пройдзе вытокі сэрца
барваю набрынялая
ружа ў вялён спаўецца

доўгі вялён завеяў
пасма няўцямнай руні
там у спалохах веяў
росчырк ляза даруй мне

*

*(bolero)*

... падхапілі падземныя плыні
і злучыліся скалы ўгары





кіравалася — да вяршыні
апынулася — унутры
адгукніся Ўладар Гары

сходы стромыя... бракуе звёнаў
дрогкі светач апрануты ў мрок
па збавенне — прытулак снёны:
цёплы дотык... жывы глыток
я ішла да цябе здалёк

абудзіся пачуй прыпомні
наплываюць мелодый віры
ува мне скрыжаваліся промні
адгукніся Ўладар Гары

гэта — ў зорчыных нетрах блуканне
гэта боль рассвятляецца ў зрок
чую сэрца твае Вулкане
я ішла да цябе здалёк

рытмы роднасці: не скары
анямела мільёнаструнне
адгукніся Ўладар Гары

так сасмягла шукаю выток
так цягнуся балеснаю рунню
я ішла да цябе здалёк

рэха з лісцем зрываюць вятры
адгукніся Ўладар Гары

лісце з пенаю зносіць паток
я ішла да цябе здалёк

*

самотны звон насіўся над вадою
тварыў заклён
душу аблытваў срэбнаю тугою
залётны звон
душу аблытаў горай ад павою
пайшла ў палон
пакаштавала хмельнага напою
начэй і дзён
пакаштавала... быццам за смугою
сасніўся сон

пра хмельнае аблуднае святое
жыццё і скон

*

Даратэя вар'ятка сястрычка
скінем тут на страсе чаравічкі
пусцім ціха ў сябе Сусвет
хай нас поўняць шэпты прасторы
хай пранізваюць промнямі зоры
я гатовая ў шчаснай пакоры
падзяліць твой крылаты сакрэт

не збаюся — о не! — Даратэя
я сама на нябёсы хварэю
колькі трызніўся мне гэты крок
расхінала душа абалонку
і выпроствала ў бездань далоньку
дзе — у цемры пад скураю тонкай —
пульсуе святло як кроў

дай руку Даратэя сястрыца
я табе не дазволю разбіцца
я не ношта твая а крыло
засынаюць пад стрэхамі звадкі
спіць да ранку мянушка в а р ' я т к і
астываюць балючыя згадкі
і Сузор'е наша ўзышло

дык ляцім жа ляцім Даратэя
і растанем калі развіднее
там дзе родзіцца з музыкі час
я ўсё гэтак жа ўпарта не веру
што п а ў с ю л ь пяшчоце й даверу
панаставіў розум б а р ' е р а ў
як тут між людзей у нас

*

месяц люляецца ў люльцы народзінаў
ветах не спіць насупраць
быццам адтуліна ў яву адрозную
нейчая ў свеце прысутнасць





вочы замружу ў тайныя люстры
безданяў-спарышоў
перш чым гукаць адамкнуліся вусны
ясны мне водгук прыйшоў

зрэнка дваістая срэбрам адсвечвае
вёслы вясляр адпусціць
поўняю сноў разліваецца вечная
вечная спеўная сутнасць

лёталі яскі — ўпалі зярнятамі
квет мой збярэш наводдалі
явы жамчужніца — вечкі разнятыя
ўмыюцца хваляй водгулля

ноч выглядае ў прасветліну месяца:
што там за дзень — насупраць?..
Госпад з табою чыя мне праменіцца
блізкая ў свеце прысутнасць

кветам нярушаным
песні над песнямі
ява ўцякае
ў сны
недаснёныя

*

...ноч несвітальная
мроівам чорных пялёсткаў
прыйдзе шапоча зашэптвае
мёртвыя раны
...Дай абудзіцца
й расцепліць кавалачак воску
новаю свечкай гарэць
да Цябе мой абраны

...ведаю: сонца глыбокага ўтоены ўздым
клічацца Імем Тваім

## Мікола КУПРЭЕЎ



*Дзяўчына расчыніла насцеж веснічкі, я ступіў на падворак, зачыніў і зашчапіў іх за сабой быццам іду надоўга. Дзяўчына пайшла паперадзе, азірнулася, матнула галавой белыя косы паляцелі са спіны цераз плячо, яна злавіла іх рукой на грудзях, каб не рассыпаліся, усміхнулася мне, павярнулася, пайшла да ганка. А яйкі? успомніў я. І што я рабіў потым помніцца, бачыцца нібы скрозь туман. Як магія якая, як насланнё! Так, як насланнё, бо я вярнуўся да плота, узяў з пяску пад лапушынай тыя тры яйкі. Дзяўчына стаяла на ганку. У прыцемку, на двары ўжо змерклася, а пад ліпай і зусім сцямнела, яна чакала мяне. Я падышоў да ганка, не ведаючы, што рабіць з тымі чортавымі яйкамі, потым працягнуў руку з імі, кажу:*

*Вазьміце.*

# ІМГНЕННЕ СВЕТЛАЕ

*(Аповесць)*





**Частка першая**

Прачнуўся пад нагамі Уладзіміра Вялікага. За Дняпром, за Дарніцай світала. Мяне трасло ад холаду Туман быў золкі, амаль белы Ён падымаўся ад нябачнага берага, нябачнай з-за туману ракі — падымаўся сюды, наверх, на Уладзімірскую Горку. Я нацягнуў каўнер пінжака на шыю, палажыў на галаву далоні, сціснуўся каленямі Сядзеў на траве пад кустом акацыі. Трава пада мной была крыху ўгрэтая маім целам за ноч, а вакол яна ў расе Нават вачамі чуеш, што раса халодная, сцюдзёная Па дарозе ў Кіеў я на дзень быў заехаў да бабы і дзеда ў Вікаўку, што на Гомельшчыне, таксама ля Дняпра "Чаго ж ты, унучак, за свет едзеш ды ў адным жакецік?" — "Дык жа, баба, яшчэ лета, стану на работу, з`езджу дамоў, адзенуся на восень" — "А ці ты ведаеш, унучак, што на Спаса раніцай халодна-халодна, каляна-каляна? "

Ад дрэваў, кустоў, травы на Горцы веяла сырасцю, ад Дняпра ўсё падымаўся туман, чорны Уладзімір Вялікі стаяў мокры. Я ціха сказаў яму, крануўшыся рукой камення пад ягонымі нагамі

— Халодна й табе, княжа, га?

Князь маўчаў Ён глядзеў па-над туманам за Дняпро, у бок Чарнігава і Карачарава, а можа, і ў бок Масквы Позірк Вялікага князя йшоў крыху спадылба, позірк каменны, цвёрды Гэта ж трэба, яшчэ не так даўно мяне выклікала на ўроку настаўніца расказаць пра гэтага князя, а тут во цяпер мы побач, толькі стаіць ён на п'едэстале, а я скурчыўся пад яго нагамі. Цікава, ці была ў яго барада? У майго ямнаўскага дзеда шырокая, густая барада пахла тытунём і мёдам, і мне, калі я быў малы, а на дварэ стаяў холад, было заўсёды ля той барады цёпла і ўтульна. За падбародак Уладзіміра Вялікага зачапіўся шматок туману, і таму я не ўведаў, ці была ў князя барада Учора, здаецца, яе не было Я ж і ўчора тут начаваў, і заўчора І тут прыйшло ў галаву, як я галіў нядаўна вікоўскага дзеда. Ён, пахмурны, не гледзячы ні на кога ў хаце, пераступіў парог з сенцаў, паставіў у куце на ўслоне пад абразамі лазовы кош з жоўтымі яблыкамі — заўтра Спас — буркнуў мне "Паголіш мяне" Я дастаў з печы гарачай вады ў чыгунку, дзед даў мне памазок, мыла, кубачак, брытву і лязо. Лязо было ўжо даволі ржавае "Бяда будзе", — падумаў я, напраўляючы тое лязо Падумаў, падумаў, узяў дый дастаў з чамаданчыка сваё свежае — "Неву" Шчокі, падбародак дзедавы добра-такі ўшчацінелі. Калі я прайшоў лязом ад скроні ўніз, дзед толькі скрыгатнуў зубамі, але змаўчаў, — ён увогуле вядомы на ўсю вёску маўчун, — калі ж я завінуўся брытвай над яго сківіцай, дзед не сцярпеў, выкінуў, нарэшце, вонкі сваю злосць і крыўду на мяне· "Гэта ж цэлы год правучыўся ў нісцітуце, а валоссе так і рве, так і рве! Навошта кінуў нісцітут?! І валоссе так і рве, так і рве! І наўмысля сваім лязом, каб валоссе на глотцы рваць, так і рваць! Навошта кінуў нісцітут! "

Калі шматок туману раставаў на падбародку князя, мне здалося, аж быццам пачулася, што ён, Уладзімір Вялікі, шапнуў· "Валоссе маё так і рве, так і рве" Мне стала дужа шкада яго Я сцепануўся рукамі, ударыў імі — тыц! тыц! — колькі разоў у паветры, каб сагрэцца, узбадзёрыцца, падышоў да помніка і пагладзіў сваёй камсамольскай далонёй ступню Вялікага князя

Сонца ўжо спраўна стаяла над Дарніцай Туман зусім растаў тут, на барцы, сышоў берагам, сплыў з вадой па Дняпры, ад расы застаўся толькі мокры след на маіх чаравіках, але яшчэ зырка свіцілася яна ў густой траве пад акацыямі, тоненькімі, як нітка, ручаінкамі сцякала з галавы князя — на грудзі, на калені, на п'едэстал Спіна мая страпянулася холадам — мусіць, ужо апошнім, бо надта страпянулася, як ацерушылася ад усяго. ад ночы, ад ранішняга туману, ад мяне самога

Я стаў на схіле Горкі, на белай, камяністай дарожцы Тут пачынаецца Андрэеўскі спуск — ад помніка Уладзіміру Вялікаму, па схіле Горкі, праз плошчу, да Андрэеўскай царквы, што стаіць бліз берага Дняпра Сцены царквы сінія, аконныя рамы белыя, купалы залатыя. Чалавек у чорным і доўгім, як у жаночым, адзенні і чорным высокім

каўпаку з рыжымі валасамі на каўняры і рудой барадою — гэты чалавек лёгка ўзбег па прыступках на высокі ганак і схіліўся над замком Чую, як скрыгатнула жалеза, дзверы расчыніліся насцеж, і чалавек увайшоў у царкву Я толькі паспеў зрабіць колькі крокаў па дарожцы ўніз — і грымнулі проста нада мной званы, ды так, што вушы пазакладала. Але хутка я асвойтаўся з тым громам-звонам, і званы Андрэеўскай царквы ўжо звінелі мне, і рацэ, і плошчы, і ўсяму гораду, звінелі лёгка, весела, радасна.

На плошчы я пайшоў, а потым і пабег ад царквы ўправа берагам ля самае вады, спыніўся пад Дарніцкім мостам, апаласнуў твар сцюдзёнай вадой, прычасаў валасы, абабіў са штаноў пясок, травінкі — пабег назад. За спіною ўжо густа грымела машынамі. Па ўсёй шырыні Дняпра йшлі цеплаходы, катэры — адны або цягнулі за сабой баржы Ля царквы я спыніўся, абышоў яе і пабег зноў Мне стала зусім цёпла. У порт я прыйшоў задыханы, але ўжо ведаў: і гэты дзень я пражыву, адолею.

Там, ля самага берага, стаялі машыны і трактары, а ў кузавах і прычэпах поўна кавуноў і вінаграду Уся зямля — у раздушаным вінаградзе Пераспелыя кавуны палопаліся, і ад іх густа пахла кіслай слодыччу Шаферы, трактарысты, грузчыкі павылазілі з кабінаў і, яшчэ з соннымі вачамі, стаялі, сноўдалі ля кабінаў, ішлі да вады — прамыць зенкі. Мужыкі гэтыя ўжо ведалі мяне — не любілі залішняй культурнасці во лезь, хлопча, ды наядайся Спачатку я залез на машыну з кавунамі, разбіў адзін крамяны, у меру спелы, захлынуўся яго салодкай, сакаўной свежасцю Потым дапаў у другой машыне да скрыначкі з буйным ружовым вінаградам

І казаў я тут сабе во дык жыццё! Сам Кіеў, сам Уладзімір Вялікі, вунь блізка Сафійскі сабор, кавуны, во вінаград — жоўты, ружовы, сіні, а во і сам Дняпро, во гудуць цеплаходы . І ўжо недзе блізка мой цеплаход, ён ідзе з Херсона, на ім я з Кіева паплыву матросам назад на Херсон, міма Канева, там я прывечу рукой Кабзара, прачытаю яму "Запавет" па-беларуску·

*Пахавайце ды ўставайце,*
*Кайданы парвіце!* —

і не буду баяцца, не азірнуся назад, бо словы тыя пісаліся даўно-даўно, болей за сто гадоў таму А потым я прывечу берагі Запарожскай Сечы — бо на гэтыя берагі калісьці йшлі ці ляцелі на конях і мае продкі-рагачоўцы

Цеплаход "Молодая гвардия" чакаю пяць дзён ужо..

Дапамог мужыкам згрузіць у склад-лядоўню кавуны і вінаград. Мне за гэта мужыкі далі дзесяць рублёў Я схадзіў у "ядальню", паеў там таннай, але цёплай ікрыстай мойвы І зноў, ужо трэці раз, пайшоў у аддзел кадраў Кіеўскага рачнога параходства Вузкаплечы намеснік начальніка аддзела круціў за шырокім сталом кончыкі чорных вусоў, а вусы тыя былі ў яго да вушэй Паволі піў з глінянага кубка каву, не зірнуўшы на мяне, пакуль я стаяў ля дзвярэй

— "Молодая гвардия" еще не пришла, — сказаў ён і глынуў кавы Зазвінеў тэлефон Намеснік узяў трубку і павесіў яе на вус. — Ало-о! Оленька? Что получила сегодня? Пятерку по украинскому и тройку по русскому? Ай, как нехорошо! Как нехорошо, Оленька! Ну, ладно. Поешь курятины — глынуў кавы — В буфете шоколад. Мама пошла на вторую смену Мёд. — Я глынуў сліну — Мёд в тумбочке — Намеснік глынуў кавы, я зноў глынуў сліну. — Ну, будь здорова. — Намеснік зняў трубку з вуса і, нарэшце, глянуў спадылба на мяне. — Погуляйте, молодой человек, еще дня два—три, отдохните, успеете матросом . Палуба больша-ая, драить придется в поту. — У мяне перасохла ў роце, я стаміўся стаяць, пераступаў з нагі на нагу і пагладаў на скураную канапу перад сталом — Вы вчера, кажется, были у меня?

— І ўчора, Іван Іванавіч, і пазаўчора.

— А на каком языке, молодой человек, вы говорите?

— Па-беларуску

— Гм.. гм — Намеснік з цікаўнасцю паглядзеў на мае разбітыя чаравікі Я зірнуў пад стол наменікавыя ступакі былі ў пушыстых хатніх тапках, а чорныя, з жоўтымі бліскучымі жалезкамі пантофлі стаялі побач пад сталом — Был я в Белоруссии вашей В сентябре тридцать девятого Под Новогрудком Кулаки вы все там были. Вместо цветов и красных флагов выносили нам хлеб, сало, молоко... Так вы погуляйте денька два – три Пока "Молодая гвардия" в Херсоне на ремонте — І намеснік рашуча ўнурыўся





ў нейкую паперу на стале Зачыняючы за сабой дзверы кабінета, я яшчэ пачуў яго голас: — Оленька! Иду на обед.

Я пайшоў берагам Дняпра супраць цячэння, у бок Сафійскага сабора. На варотах у двор сабора вісеў вялізны замок. З-за варотаў, з-за высокае агароджы на мяне дыхнула сырой зямлёй

Усё, я ўжо ведаў· у аддзел кадраў больш не пайду Ідучы назад, на шырокай бруднай тумбе прачытаў аб'яву· у саўгас "Пірагова" Кіева-Святашынскага раёна патрабуюцца рабочыя

Асалавела сунуся доўгай Брэст-Літоўскай вуліцай у бок чыгуначнага вакзала. Во кінатэатр На шчыце — вялізнымі літарамі. "Олеся" У Брэсце гэты шведскі фільм ужо йшоў, але я не змог яго паглядзець. Студэнты былі ў захапленні ад Алесі — Марыны Уладзі. Сёння ў мяне ў кішэні яшчэ мулялі нейкія капейкі, я купіў білет на семнаццаць гадзін і пайшоў уверх той жа Брэст-Літоўскай Зайшоў у кнігарню Неўспадзеў наткнуўся вачыма на тоненькае, таннае выданне "Олеси" Купрына, узяў. "А, — сказаў я сабе, — заўтра ў Пірагове накормяць", — і купіў яшчэ кніжачку Някрасава "В одном городе" "Надта ўжо ўеўся ў кавуны ды вінаград, — кпіў я з сябе — Во, схавай за пазуху духоўны харч" "Олесю" я паклаў за пазуху, а Някрасаў улез у кішэню пінжака. Абодвум будзе цёпла, ноччу не замерзнуць. На вуліцы пахне паранай кукурузай Яе прадаюць жанчыны праз кожныя дзесяць—дваццаць метраў Кукуруза жоўтая, цёплая, патрэсканая ад спеласці, яна ў вёдрах, кошыках, кашолках, ахутаных ватоўкамі Помню, пасля вайны, калі быў малы, я жадна чакаў, пакуль цётка Маня зварыць у вялізным чыгуне, які яна ставіла на цагліны ў дварэ, кукурузу разам з фасоляй у зялёных стручках. Кукуруза ў вікоўцаў расла ў гародах — высокія крэпкія сцябліны Яе ў нас завуць кіеўкамі — ад Кіева ці ад кія?

Сяджу на траве пад нагамі Уладзіміра Вялікага. На Дняпры аціхаюць маторы Яшчэ светла, але над Дарніцай ужо стаіць перадвячэрняя смуга. З ракі паціху з лёгкім ветрыкам наплывае сюды, на Горку, прахалода Ветрык пахне пераспелым кавуном, крыху рыбай і аддае нафтай Але ўсе гэтыя пахі перабівае пах вялай травы вакол мяне, ля самых ног маіх — ружовай канюшыны і дзяцельніку .

А фільм быў цікавы Белавалосая, статная Марына Уладзі. Тыя валасы яе па плячах і па спіне — сапраўды як у вядзьмаркі Гартаю першыя старонкі аповесці Купрына Знайшоў· " голос, свежий, звонкий и сильный, пел, приближаясь к хате" Такі ж голас і ў Марыны Уладзі Але — "тонкие черныя брови", "темные глаза", "темные волосы" А ў Марыны — блакітныя вочы І "хатка на курыных ножках" здымалася не ў пінскіх і не ў ровенскіх лясах. Што ж, рэжысёр рабіў свой фільм пра высокае і дзікунскае каханне ў нетрах Валынска-Пінскага Палесся — рабіў для ўсіх: і для шведаў, і для іспанцаў, і для туркаў

У той, што ў гэтыя апошнія дні жніўня прыехала ўжо ці збіраецца прыехаць у студэнцкі інтэрнат у Брэсце, таксама белыя-белыя, як у Марыны, валасы і цёмныя, як у кніжнай Алесі, бровы Ці яна свае бровы мажа чорным чым? У адрозненне ад Алесі яна ўмее чытаць і пісаць. Яна член "усяго" — камсамольскага і прафсаюзнага камітэтаў, студэнцкага савета Шмат ведае на памяць з Ахматавай і Блока. Аднойчы, вясной, мы дамовіліся з ёй прыйсці як мага раней у інстытут Я падняўся на другі паверх — яна ўжо стаяла ў канцы доўгага і цёмнага калідора, ля тарцовага акна і глядзела ў скверык. Я ціха-ціха, каб напалохаць, падышоў да яе Ніводная маснічына не рыпнула Стаіў дыханне за яе спіной Па спіне, па сіняй сукенцы сплывала хваля белых валасоў Яны пахлі духамі-ружай Шаптала нешта Я падумаў· чытае сабе, можа, Блока ці маю ўчарашнюю запіску А як прыслухаўся — пачуў· яна шэпча на памяць урывак з артыкула Леніна "Два крокі ўперад, крок назад" Сёння ў нас першай парай — семінар па гісторыі КПСС, а яна ж — выдатніца Мне стала крыўдна, прыкра — і за яе, і за сябе учора вечарам я пераплываў Буг, каб нарваць ёй лугавых кветак, а яна ў той час, як я ледзь не захлынуўся хваляй ля самага берага, высока трымаючы левай рукой кветкі над вадой, — яна ў той час вучыла на памяць артыкул Леніна ці, няхай, урыўкі з яго, каб сёння, можа, ашаламіць усіх на семінары (а можа, ад якой душэўнай патрэбы? )

Яна пачула мяне спіной і, не павярнуўшы галавы, спытала з-за пляча. "К семинару подготовился?"

Я маўчаў Я забыўся на ўсё. на семінар, на Леніна, на яе самую, на гэты цёмны

калідор. Я быў здзіўлены, зачараваны ранішнім травеньскім святлом за акном і гэтай хваляй белых, мяккіх, бліскучых валасоў на яе спіне — ажно да тоненькага стану, і валасы пахлі ружай

І раптам я зразумеў· ружа гэтых валасоў ніколі не будзе маёй На развітанне асцярожна палажыў далонь на яе валасы і лёгка пагладзіў іх. Яна рашуча адкінула іх рукой сабе на грудзі і зноў спытала. "К семинару подготовился?" — "Не!" — сказаў я, павярнуўся і пайшоў па калідоры. Маснічыны рыпелі Зайшоў у аўдыторыю, сеў за свой стол, абшчапіў галаву рукамі. Падумалася. сёння другой парай — "Историческая грамматика русского языка". З-за кафедры будзе нудліва даносіцца "Ю-ус большой ю-ус малый " Трэцяй парай будзе "История древнерусской литературы", і бабуля, кандыдат філалагічных навук, па-мудраму палажыўшы далонь на маршчакаваты лобік, будзе ціха казаць, як паведамляць якую таямніцу· "А теперь, молодые люди, запишите мою первую мысль: "Симеон Полоцкий жил в Полоцке" А теперь запишите мою вторую мысль. "Потом он переехал в Москву " Пасля заняткаў, у інстытуцкім пакоі, я з`ем жоўтага дамашняга сала, зап`ю яго кефірам, пайду на кухню, спаласну бутэльку, вярнуся ў пакой, сяду за абшарпаны стол, разгарну, каб адысці душой, томік Багдановіча, і тут ціха адчыняцца дзверы, да стала падыдзе Сурма, стараваты ўжо студэнт, былы ваенкаматаўскі афіцэр, цяпер — старшыня студэнцкага савета, і скажа: "Говорят, вы тут все в комнате читаете запрещенную литературу? Кстати, что у вас в руках?" — "Максім Багдановіч" — "А—а, это который написал про мушку-зеленушку?" — "Ага, пра мушку-зелянушку І яшчэ напісаў "Пагоню" — "Про погоню? Ай-яй-яй! И кто там за кем гонится?" — "Ды проста беларускія хлопцы селі на коней і за кімсьці пагналіся " — "Ай-яй-яй! И чего они погнались? Дурачьё Ну, ладно, я пошел Но вы, ребята, осторожно, знаете . " Потым я пайду ў чытальную залу і буду да вечара чытаць тое, што знайду там цікавага для сябе. А потым Потым я больш не буду чакаць у змрочным вестыбюлі інтэрната павольнага яе сыходу зверху па прыступках.

Я ўзяў старэнькі (бацькаў, настаўніцкі), рыжы партфель з канспектамі, кніжкамі, выйшаў з аўдыторыі, у дзвярах азірнуўся на свой стол, бяздумна пагладзіў даланёй ручку дзвярэй і пайшоў, пайшоў, пайшоў — уніз, на першы паверх, на двор, на вуліцу Міцкевіча, з яе звярнуў на Пушкінскую, перасек вуліцу Маякоўскага, бульвар Гогаля і, як ачмураны, "прыпылены", па Карла Маркса выйшаў на Ленінскую — да інтэрната.. Потым усё-такі, хоць і праз дзень-два, хадзіў на лекцыі, чамусьці паспяхова здаў летнюю сесію Дома адзін зямляк сказаў, што ў Кіеўскім рачным параходстве асабліва прывячаюць спрытных, паслухмяных беларусаў-палешукоў

На Горцы ўжо добра ўвечарэла. З-за дрэў і кустоўя не відаць агнёў Кіева, а Дарніца перада мной, за ракой, уся гарэла. Глыбока ў вадзе справа мітусіліся промні ад фараў машын, што ляцелі па Дарніцкім мосце Сцішыліся ля порта — ішлі на спачын апошнія катэры Пакуль зусім не сцямнела, можна яшчэ схадзіць за кавуном і вінаградам Купалы Андрэеўскай царквы свяціліся яшчэ цёплым золатам Раса на траве выспела ранняя, буйная Ноч будзе халодная

На развітанне я махнуў Уладзіміру Вялікаму рукой, прайшоў праз парк на Горцы, выйшаў на голы высокі бераг. Было ўжо цёмна, але шырокая сцежка жаўцела пад чыстым месяцам І я пабег, спачатку ціха, потым хутчэй, хутчэй Звярнуў са сцежкі ўправа ў нейкі завулак, ён выштурхнуў мяне на асветленую ліхтарамі вуліцу, яна ўжо была аціхлая, бязлюдная, і таму я бег пасярэдзіне яе, спатыкаючыся аб камяні, бег і бег — у паўднёвым кірунку, праз Карчаватае, і калі пайшлі ў цемнаце простыя ўскраінныя хаткі, з садкамі і палісаднікамі, з якіх свяціліся жоўтыя вяргіні, — я збочыў на тратуар, знайшоў лавачку пад плотам, сеў на яе і аддыхаўся Стала лёгка-лёгка — ад нядаўняга бегу, ад начной свежасці

Ад горада іду шырокай дарогай, якая ўсё далей забірае ад Дняпра ўбок. Блішчыць пад месяцам каменне, на гары яго менее, пайшла дубовая града, пахне распаранай за дзень карой. Азіраюся назад. горад у рэдкіх начных агнях, святло ад іх падымаецца ўверх, і таму зорак над Кіевам не відаць. Зоркі ж на паўднёвым небе сінія, буйныя, як заусёды ў канцы жніўня. Недзе там Пірагова

Раптам чую· нехта за мною бяжыць, гулка б'е нагамі ў цвёрдую дарогу Азіраюся· бяжыць мужчына з мяшком на плячы. Абмінуў мяне, нават не глянуў А неўзабаве дарога загрымела ад мноства ног. Беглі нават збоч дарогі — мужчыны, падлеткі, жанчыны,





малыя дзеці цяжка дыхалі, саплі, мацюкаліся, пераскоквалі цераз нізкія кусцікі, камяні, спатыкаліся, падалі, — падымаліся з зямлі і ўсё беглі і беглі ў цёмную ноч на поўдзень. У кожнага на плячы матляўся мяшок. Пабег з імі і я.

Так бег я за людзьмі гадзіны дзве — пад зорным украінскім небам, па горах і лагчынах, між старажытных дубоў, па кустоўі, па мяккім пяску і каменні І за мною таксама беглі людзі, цяжка дыхаючы мне ў спіну

Нарэшце месяц высвеціў ля дарогі белы слуп з кавалкам бляхі, на якой чарнелі вялізныя літары "Пирогово" І раптам дарога, якая вось-вось павінна стаць вулічнай, перада мной, за мной і з бакоў аціхла. Я азірнуўся вакол· людзей няма, яны як расталі перад сялом, толькі чорныя здані таўкліся недзе па-за хатамі, за садамі, у полі

Адзінока ішоў я соннай доўгай вуліцай Неба на ўсходзе ўжо святлела Дзесьці пасярэдзіне сяла знайшоў кантору саўгаса — радгоспу, — дзверы ў сенцы былі незамкнёныя, я сеў у кутку на лаўку і толькі тады ўбачыў насупраць сябе, таксама на лаўцы, чалавека ў кажусе і шапцы-вушанцы, ён лыпнуў на мяне显 соннымі вачыма, нічога мне не сказаў, зноў палажыў галаву на плячо. Канешне, вартаўнік. Хто ж яшчэ можа пры розных канторах спаць, як не вартаўнік.

. .Дырэктар саўгаса патрымаў у руках мой пашпарт і сказаў, што я буду з паўмесяца, пакуль не ўправяцца з уборкай, начным вартаўніком на кукурузным полі, харчавацца буду ў саўгаснай сталоўцы, даў мне запіску, каб занёс яе ў сталоўку, дняваць буду ў клубе Чарнавалосы, кучаравы дырэктар, у зялёным кіцелі, падняўся з-за стала і сказаў· "Та йіж, скількі ўлізэ, віноград. Цэ ж у вас у Білорусі одна бульба. Тому ўсі там такі зморапы А діло твое такэ· гнаты ніччу городчуків з кукурузы Там вас будэ п`ятэро чоловіків сторожуваты. Тількі нэ звязуйся ў клубові со студэнткамі А то забрюхачае котора — біда мэні: давай машыну до Кыіва. "

Клуб з абабітай тынкоўкай, з разбітымі вокнамі, стаіць паводшыбе за сялом, на гары, за ім — вінаграднікі, далей — вокам не акінуць, да гарызонта кукурузнае поле Аграном паказаў мне маё жытло — невялічкі кабінет загадчыка клуба, падлога ў ім усцелена пшанічнай саломай, сухім лісцем кукурузы, далі мне байкавую коўдру, падушку "Д`ябальшчына, — сказаў я сабе. — Прыйшла ў маё жыццё эпоха кукурузы Добра, што хоць Беларусь не хварэе на кукурузу .."

Я адчыніў дзверы ў залу і — жахнуўся. На падлозе, на саломе і кукурузным лісці, адны пад коўдрамі, іншыя галяком, у адных трусах ды бюстгальтарах, покатам ляжалі-спалі дзяўчаты, як сказаў аграном — студэнткі Кіеўскай сельскагаспадарчай акадэміі Адна з іх, ля самых дзвярэй, здзіўлена, са сну, лыпнула на мяне вачыма, нацягнула на загарэлыя сцёгны чырвоную коўдру і крыкнула "Дівчата! Дывытэся! Якый парубок!"

Я хуценька зачыніў дзверы, ажно дыхаць перастаў, стаяў за імі, як слуп, і пачуў· падлога ў зале паднялася, загаманіла, завішчала: "Шчо? Хто? Дэ?" — рушыла да дзвярэй Тут я ачомаўся і куляй вылецеў праз разбітае акно ў двор. "Шчо? Хто? Дэ?" — неслася ўжо з майго кабінета. А я, угнуўшы голаў, ляцеў па вінаградніку Наўздагон мне праз акно і з ганка ляцела весела і звонка. "Га-га-га! Дывытэся! Гэць-гэць! Бачітэ голорву? Вэрны-ыся! Вэрны-ыся! Нычого мы тобі нэ зробымо! Вэрны-ыся!"

Я спатыкнуўся, упаў, прыціхнуў на зямлі Ззаду падазрона сціхла І я папоўз між вінаградных кустоў За шырокім, густым кустом схаваўся, сеў, сэрца калацілася. Я глянуў адным вокам з-за куста. настойліва і ўпэўнена добрая сотня студэнтак высока падымала ногі — бегла ў мой бок, але, на маё шчасце, міма мяне Ззаду за імі, як за табуном палавецкіх кабыліц, падымаецца і паволі апускаецца шэры пыл Вось яны ўжо непадалёк у спадніцах, сукенках, плаўках, купальніках, некаторыя з голымі грудзямі. Я ўжо нават бачу, як тыя грудзі, каторыя маленькія, дробна трасуцца, каторыя вялікія — калышуцца. Тупат нарастаў, і зноў я прынік да зямлі Адна са студэнтак усё вярнула ў мой бок. Яна крыкнула. "Дэ ты? Білорус! Покаж своє білорускэ начіння! О-эй! Дэ ты?"

Я скурчыўся, сціснуўся пад кустом Госпадзе! Можа, пранясе? Голас, што набліжаўся да мяне, быў, як пісаў Куприн у аповесці пра Алесю, "свежий, звонкий и сильный". І яшчэ Куприн пісаў· "рослая, смеющаяся девушка", "высокая брюнетка", "держалась легко и стройно" Я зірнуў з-за куста. дзяўчына стаяла перада мной У чырвоным купальніку ". .держалась легко и стройно" Я заглядзеўся на яе, забыўшыся на небяспеку Яна, мабыць, чакала сяброўку — тая ўжо бегла да яе Пыл за табуном кабыліц стаяў крыху ўбаку "О-эй! — яшчэ раз крыкнула "мая" — Дэ ты?" І, як пісаў Куприн, "ее тонкие черные

брови недовольно сдвинулись” Сяброўка, у тонкай блакітнай сукенцы, спынілася ля яе, аддыхалася Цераз плечы ў іх віселі ручнікі, у руках яны трымалі мыла, зубныя пасту, шчоткі і грабянцы “Э-э, — падумаў я, — дык усе яны бягуць кудысьці да вады Тая, што ў сукенцы, сказала гэтай “маёй”, што ў чырвоным купальніку· “Лэся! Як тобі нэ соромно!” Голас, “свежий, звонкий и сильный”, адказаў· “А якога він хрэна тікае ” Яны прайшлі ля самага майго носа Я зірнуў з-пад куста і паспеў убачыць у паўметры ад сябе тоненькія чорныя валаскі на крэпкіх загарэлых ікрах Лэсі “Молодая, здоровая грудь”, ужо, здаецца, супакоеная, і блакітная сукенка паціху зніклі ў вінаградніку. Пыл асеў, дзявочыя галасы чуліся ўжо дзесьці далекавата. Я крыху яшчэ прапоўз убок, потым устаў з зямлі і, прысядаючы долу, каб не вытыркалася галава, хуценька пайшоў па вінаградніку на горку, там прыхінуўся ўспацелай спіной да шурпатага ствала старой таполі “Божа мой! Што робіцца! — казаў я таполі і сабе — Хрушчоў даў волю Пры Сталіне дзеўкі не бегалі з голымі цыцкамі ”

У сталоўку я пайшоў, калі ўжо там паснедалі студэнткі На ганку сустрэўся з аграномам, пагаварылі крыху, ён аказаўся беларусам і, як амаль кожны беларус з Магілёўшчыны, лёгка асіміляваўся на Украіне, але “дзеканне” і “цеканне” засталіся пры ім Аграном сказаў·

— Сяводня дзевушкі переезжають у другое аддзяленіе Пачаму ў срадзіне аўгуста прыбылі з акадземіі? Да так начынаецца ў іх пракціка — з уборкі ўражая А рабята гдзе-то яшчо на стройке ў Сібіры Адна прыбалела што-та. Пусць атдахнёць у клубе А вы не сцясняйцеся, прасіце на кухне дабаўкі Ваш участак блізка, за горкай, за топалем Вы там ноч’ю большэ і громка кашляйце Яны із горада прыбегаюць з мешкамі пад утра. Но бываець і ў полнач

Аграном быў добры і прастадушны чалавек.

Увесь дзень я праседзеў, чытаючы “Олесю”, пад таполяй, высокай, магутнай, голле, якое цягнулася ўверх, пачыналася далёка ад камля Вузкая пірамідальная таполя, такія таполі растуць на Беларусі на поўдні Брэсцкага Палесся Калісьці, у маленстве, я жыў пад шырокай густой, разгалістай таполяй ля брамы ў Чорных Пясках.

Дзяўчат, нарэшце, машынамі павезлі ў другое аддзяленне саўгаса Я схадзіў у сталоўку, павячэраў, вярнуўся ў свой кабінет Надта карцела — і я ціхенька прыадчыніў дзверы ў залу У кутку, на саломе, сядзела, накрыўшы ногі коўдрай, хворая студэнтка На каленях яна трымала разгорнутую кнігу Спадылба глядзела на прыадчыненыя дзверы, чакала, мусіць, што дзверы расхінуцца шырэй Я глядзеў на яе праз шчыліну, яна — на мяне, але мяне, я ўпэўнены, не бачыла Гэта была яна — тая самая, што гналася за мной па вінаградніку, Лэся “Што ж з табой, даражэнькая, здарылася? — прашаптаў я дзвярам — Захварэла? І сур`ёзна?”

Лэся апусціла вялікія, бліскучыя, цёмныя вочы на кнігу Я прычыніў дзверы У кабінеце сеў на салому і разгарнуў “Олесю” на той старонцы, дзе Купрын малюе сваю вядзьмарку-паляшучку·

“Просторная белая рубаха свободно и красиво обвивала ее молодую, здоровую грудь. Прелесть его (твару — *М К* ) заключалась в этих больших, блестящих, темных глазах, которым тонкие, надломленные посредине брови придавали неуловимый оттенок лукавства, властности и наивности ” — усё, як у Лэсі. Я зноў пайшоў да дзвярэй у залу і яшчэ цішэй, чым раней, крышачку прыадчыніў іх, яны нават не рыпнулі Лэся чытала кнігу на раскінутых пад чырвонай коўдрай крэпкіх каленях, передвячэрняе святло з акна блішчэла на цёмных валасах. Та-ак, яна не ў “белай рубахе”, а ўсё ў тым жа чырвоным, цеснаватым для яе “молодой, здоровой груди” купальніку Мне добра ўбачыліся, убіліся ў мае вочы скура яе рук, грудзей, шыі, твару, запомніў яе губы

І ўсё-такі, калі я прычыняў дзверы, Лэся рашуча ўскінула галаву, гэтак жа рашуча закінула рукой валасы з пляча на спіну і стрэльнула нядобрым позіркам у дзверы Я пабег ад дзвярэй у кабінет, лёг на салому, чытаю далей сказ пра Алесю

“ в смугло-розовом тоне кожи, в своевольном изгибе губ, из которых нижняя, несколько более полная, выдавалась вперед с решительным и капризным видом”

Нейкае дзіва дзіўнае! Гэтая Лэся на саломе, у кутку Пірагоўскага клуба, — як двайнік той Алесі, Купрынскай, у хатцы на курыных ножках, што стаяла ў забалочаным, глухім лесе Як прывід нейкі А можа, я “звіхнуўся” ужо? Я ўзяў са стала аскалёпак люстэрка, паглядзеўся ў яго. не, здаецца, вочы мае нармальныя, пустыя, не ачмурэлыя





Ну, трэба збірацца на работу. Я зняў з цвіка прынесеную аграномам старую ватоўку, апрануў яе, надзеў на галаву падраную шапку-аблавушку і ўжо быў узяўся за ручку дзвярэй, як.

Спачатку з-за падаконніка расчыненага насцеж акна паказаліся рыжыя валасы, потым — нізенькі лоб, пасля — прыжмураныя вочы, нарэшце — кірпаты нос, потым на падаконнік чалавек палажыў мясістую, сінюю ніжнюю губу, гэтая губа цяжка прыўзнялася, і я пачуў·

— Дядько!

Перада мной паўстаў твар хлопца гадоў шаснаццаці—семнаццаці

— Што?

— Дядько! Ты ніччу пійдэш?

— Куды?

— До тэе, што ў клубові ночуватымэ? До Лэсі?

— Не!

— Цэ добрэ То я пійду

Я ўзяў у кутку анучу, якую тут некалі пакінула прыбіральшчыца, падаў яе хлопцу за акном Ён недаўменна ўзяў яе

— Вытры пад носам і йдзі хоць зараз. Вытры, вытры

Хлопец паслухмяна выцер далонню смаркаты нос і сказаў·

— Дякуй, дядько А то, знаеш, нэтэрпячка

Я зачыніў акно, а дакладней — раму акна, шыбы ў якой былі выбітыя. Адышоў па дарозе ад клуба ўжо, можа, на паўсотню метраў і пачуў ззаду, на ганку, нейкі стук-грук. Азірнуўся хлопец трымае ў руках расперазаныя штаны і хапае ротам паветра З дзвярэй размахнулася доўгая, загарэлая нага і, мабыць, прутка ўдарыла хлопца пад зад, пад “нэтэрпячку” Лэся бразнула ў сенцах клямкай, хлопец раскарачана стаяў на ганку і тужыўся нацягнуць штаны на белы азадак.

Маё кукурузнае поле пачыналася адразу за таполяй, за горкай На ўскрайку поля, ля высокай, густой кукурузы стаяў невялікі буданчык, сплецены з кукурузных сцяблін Я гучна кашлянуў Цішыня І ў гэтай цішыні чутно, як шалясціць пад лёгкім і цёплым ветрыкам сухое лісце кукурузы. Раблю азнаямляльны абход свайго ўчастка Сустрэў суседа-вартаўніка Гэта быў старэнькі, сухенькі дзядок. Левай рукой ён абапіраўся на кій, у правай трымаў чорны, цацачны пісталет Мы перакінуліся словам-другім, закурылі і разышліся..

Сцямнела. Я сядзеў на кучы сухіх кукурузных сцяблін ля буданчыка і глядзеў перад сабой у неба Там, у паўночным небе, прамяніліся сінія зоркі Яны гарэлі над далёкай маёй Беларуссю Вунь тая яркая зорка, мусіць, стаіць проста над хатай майго вікоўскага дзеда, а тая, побач, таксама яркая, — над хатай майго ямнаўскага дзеда

І тут пачуўся тупат ног — на гары, з боку Кіева Цені сноўдалі па кукурузным полі, за плячыма ў іх матляліся пустыя мяшкі Я кашлянуў Недзе збоку слабенька пачулася хрыплівае “кхе-кхе” — дзядок-вартаўнік не меў сілы добра кашлянуць. Але цені не зважалі на маё кашлянне і дзедава кхеканне Яны расплываліся, зніклі ў высокай густой кукурузе, было чуваць толькі патрэскванне ды шалясценне Я пайшоў краем поля У баку ад яго было цёмна-цёмна, але сцябліны, высахлае лісце, тоўстыя, поўныя пачаткі кукурузы жаўцелі Ад мяне, з краю ў кукурузную нетру, хіснулася некалькі ценяў з мяшкамі ў руках. Я пагрозліва і бадзёра кашлянуў

— Может, таблетку от кашля дать? — пачуў я з кукурузы

— Не трэба, — адказаў я, наколькі змог — басам — Зараз страляць буду

— А-а, Белоруссия родная, Украина золотая! А с чего ты стрелять будешь?

— З пісталета Калашнікава

У кукурузе, нябачныя, зарагаталі мужчыны, і ўсё тым жа голасам нехта там скрозь смех сказаў·

— Хорошо Только б не с автомата Калашникова

Да мяне выйшлі пяцёра-шасцёра мужчын у шараварах і ватоўках, паставілі ля ног бухматыя мяшкі Адзін з іх, з кароткай і тоўстай шыяй, сказаў·

— Иди-ка ты, парень, в свой терем спать, — і паднёс да носа шырокі кулак.

Яны ўзялі ў рукі свае мяшкі і спакойна пайшлі назад у кукурузу

Што мне рабіць? Біцца з імі не выпадае, крычаць на ўсё горла — сорамна, не па-

мужчынску Ай, кукуруза — украінская, людзі гэтыя жывуць у сталіцы Украіны, а я тут хто і адкуль?

Я ўвайшоў у кукурузны зараснік і сказаў·

— Толькі не тапчыце

Але кіяўляне, мусіць, былі ўжо далёка ў полі і мяне не чулі..

Раніцай аграном прынёс Лэсі — я бачыў праз акно — харчы ў вядры, з вядра ішла пара, у другой руцэ ён нёс ладны тэрмас. Потым аграном зайшоў да мяне. Я расказаў яму пра сваё першае дзяжурства і пра намер звольніцца з "пасады". Аграном рассмяяўся і чыста па-магілёўску, нават па-быхаўску, сказаў·

— Не дурыця Усё будзя добра. Хай яны лезуць у сярэдзіну Абы па краях кукуруза глядзелася А то начальства як паедзя са Святошына ці з Кіева. Панімаецця?

— Угу

— Бывайця здаровыя

Увесь дзень я чытаў Някрасава. Самотная кніжка. Відаць, пісаў яе такі ж самотны чалавек. Паранены франтавік вяртаецца дамоў у свой родны горад, але і тут ён адчувае адзіноту Стала так шкада чалавека — героя аповесці дый самога самотнага аўтара, што й мне зрабілася самотна ды жаласліва, як і пасля прачытання трагедыйнай аповесці Купрына Фільм пра каханне "вядзьмаркі" Алесі і заезджага чыноўніка не так развярэдзіў мне душу, бо рабіўся ён не на Палессі, не ў тых лясах і балотах, куды кінуўся, дзе блукаў журботны Купрын у пошуках "хаткі на курыных ножках", дзе ён мог сустрэць "вядзьмарак" — старую, злую, але мудрую Мануйліху і яе прыгажуню-ўнучку, разумную і добрую ад прыроды Алеся жыла, дыхала, кахала ўнутры гэтай нерушнай прыроды

І мне стала дзіўна з самога сябе што я ў свае васемнаццаць гадоў ужо магу так думаць. І шкада, што ўжо так думаць магу ..

На другую ноч я не спяшаўся на кукурузнае поле Кіеўскія кукурузнікі прыбягаюць сюды позняй ноччу Таму, хаця над Украінай стаяў вечар, я то сядзеў на саломе ў кабінеце, то на ганку, то хадзіў, так сабе, вакол клуба. У зале было цёмна Можа, з Лэсяй дрэнна што? Я ўключыў у калідоры святло, шырока расчыніў дзверы ў залу Лэся ляжала на баку, тварам да сцяны пад нацягнутай да шыі коўдрай Пад ёй віднеўся край квятастага матраца, пасмы цёмных валасоў раскіданы па белай падушцы. Мабыць, аграном паклапаціўся На тумбачцы стаяла некранутая вячэра. Я пайшоў да Лэсі ў яе куток. Як ні стараўся ступаць асцярожна, усё ж салома і сухое лісце кукурузы шамацелі пад маімі нагамі Ды студэнтка, напэўна, моцна спала Я падышоў бліжэй, схіліўся над Лэсяй Яна дыхала то роўна і глыбока, то перарывіста, captionsпахапкам Мусіць, тэмпературыла Святло з калідора добра высвечвала яе твар Я стаў перад ёй на калені Мне хацелася дакрануцца даланёй да яе лба — ці гарачы ён? Але тады яна прачнецца і невядома, чым можа кончыцца мая спагада. Я ж помню той дзікунскі крык у вінаградніку і небяспечна высокі ўзлёт яе нагі на ганку. Можа, Лэся проста помсціць за нешта мужчынам, здзекуецца з іх за нейкае, прычыненае ёй зло? А можа, проста жартуе?

Доўга-доўга падымаю ўверх з саломы сваю правую руку, паволі вяду яе да Лэсіных валасоў, ціха-ціха апускаю далонь на падушку, на валасы, не дыхаю Потым асцярожна гладжу даланёю яе валасы Яны мяккія, густыя, свежыя і пахнуць, здаецца, пераспелым вінаградам ці нейкай травой

Раптам Лэся стаіла дыханне, павяла плячом, выцягнула голую руку, адхінула коўдру з пляча да грудзей, павярнулася ўся, не расплюшчваючы вачэй, на спіну, палажыла сваю далонь на маю руку і зашаптала.

— Мілый мій ты выбачай ты выбачай, мілый мій, за мої слова, за мій крік у виноградникові Цэ я просто так собі ты прабачай . А рука твоя горяча. а моя холодна? Так? То ты согрій, согрій

І я кажу ёй:

— Лэся, ты хворая? Дужа хворая? Можа хуткую дапамогу? .

— Та ні, мілый мій Мэні так добрэ стало.

Яна расплюшчыла вочы, глянула ў цёмнае акно насупраць.

— Подывись, яка зіронька ясна світыть з нэба ў акно

Я падзівіўся ў акно· сапраўды, высока і далёка ў звечарэлым небе свяцілася зорка, але свяцілася яна не дужа каб ясна, нібы скрозь густы туман

Павярнуўся да Лэсі, нахіліўся нізка над яе губамі, ад іх сыходзіў тонкі прыцягальны





водар Яны торгнуліся, крышачку раскрыліся, як чагосьці просячы, і я прыпаў да іх сваімі губамі. Лэсіны губы былі неспакойныя, гарачыя і трапяткія Потым крэпкай рукой яна абняла мяне за шыю, нешта хацела сказаць ці шапнуць і не магла — бо вусны яе былі заняволеныя маімі

Нарэшце мы адклеіліся, адхінуліся. Лэся зноў расплюшчыла цёмныя, вялікія вочы і глядзела, глядзела на мяне, глядзела здзіўлена, глядзела ці доўга, ці коратка — не помню Раптам яна падняла галаву з падушкі, села, нацягнула коўдру на вострыя, крэпкія грудзі пад купальнікам, сказала·

— Як будэш колы йіхаты на свою Білорусь чі з Білорусі біля Чорнобыля. літом то заідь в цэй Чорнобыль. . там знойдэш мэнэ .. там у нас чудові край, найкращчэ місцэ на зэмлі . Сыне, тыха, чіста, Прыпять блызько . Заідь. А зарэ! . А зарэ я тобі ось шчо зроблю!

І Лэся шырока адвяла сваю руку і пляснула мне па шчацэ І яшчэ раз пляснула па другой

— А зарэ — вон! — крыкнула Лэся І вялікія, чорныя вочы яе гарэлі нянавісцю, злосцю, бліснулі слязой Яна прутка і рашуча выкінула перад сабой загарэлую руку, паказала ёю на дзверы — Вон!

Раніцай, ідучы з кукурузнага поля, я спыніўся перад клубам, у вінаградніку Ля ганка стаяла жоўтая легкавушка. Малады мужчына выйшаў з калідора з чамаданчыкам, за ім, у спартыўным сінім касцюме, ступіла праз парог на ганак Лэся Яны селі ў машыну, матор загудзеў, машына кранулася з месца, звярнула на дарогу, што на Кіеў Лэся азірнулася праз акно ў машыне на вінаграднік, убачыла, напэўна, мяне — ці проста адчула? — і махнула мне ці вінаградніку? — рукой, як на развітанне

Я пайшоў у кантору саўгаса, знайшоў там агранома і сказаў яму, што — усё, работу ў Пірагове кончыў

***

Сяджу зноў пад нагамі Уладзіміра Вялікага. Паўдзённае сонца недзе высока над Каневам, але трава і зямля ўжо даволі халодныя — пачаўся верасень. Яшчэ йдуць у порт машыны з апошнім вінаградам Але найбольш — і машынамі, і трактарамі — пайшла ў порт, а з яго на доўгія баржы кукуруза

Ноччу па Андрэеўскім спуску, Крашчаціку, Брэст-Літоўскай вуліцы, па завулках будуць тупацець падэшвамі кіяўляне — каб раніцай вынесці на тратуары цёплыя, параныя кіеўкі Чуў я ў порце ад грузчыкаў, што Хрушчоў заказаў сабе на падмаскоўную дачу вагон кукурузы з Украіны

Залатыя купалы царквы гойдаюцца глыбока на дне Дняпра, гудуць на абед высокія трубы Дарніцы, святар у чорным адзенні ўзыходзіць па прыступках на ганак царквы, стаіць ля сініх дзвярэй, адмыкае, расчыняе дзверы насцеж, і я бачу· у цёмным нутры царквы сцяна блішчыць золатам На нос Уладзіміра Вялікага сеў шэры верабейка і зверху капнуў мне на галаву. Мне стала хораша на душы ад такога простага і шчырага яднання з жывой прыродай. Я глядзеў на верабейку, чакаў, што ён яшчэ нешта добрае зробіць, але той пакруціўся, пакруціўся на княжым носе, пырхнуў з Горкі ў бок Дняпра, і ўбачыў я, як ён камячком пракінуўся праз раку наўскос, растаў у бок Чарнігава, у бок Масквы — над старавечнымі дарогамі між горкага палыну, лясоў, балотаў і палёў, па якіх ішлі калісьці ў маскоўскі Крэмль да цара чалабітнікі ад Багдана Хмяльніцкага

Можа, мне трэба сысці ў порт і зарабіць там на разгрузцы-пагрузцы колькі рублёў на дарогу? А пакуль што дастаю з-за пазухі "Олесю", разгортваю кніжку абы-дзе і перачытваю яе месцамі і дзіўлюся з Горкі ўніз, дзіўлюся, дзіўлюся доўга і, нарэшце, бачу· чалавек ідзе плошчай перад царквой, на ўгнутай шырокай спіне, на кароткай, мускулістай шыі нясе некалькі поўных мяшкоў, а паверх іх — некалькі цяжкіх скрынак, падышоў да берага, ступіў на шырокі дашчаны трап, які захістаўся, прайшоў да баржы, скінуў за борт груз, потым узяў адной рукой ланцуг, вырваў з дна якар, закінуў яго за борт. штурхнуў нагой баржу, і тая паціху пайшла на сярэдзіну Дняпра і паплыла, паплыла ў Чорнае мора Чалавек выйшаў з вады на бераг, зняў з сябе і выкруціў чорныя, у белую палоску,

шляхотныя штаны, надзеў іх зноў, узяў у рукі вастраносыя чаравікі, засунуў у іх белыя шкарпэткі, паправіў на шырокіх грудзях, пад чорнай камізэлькай гальштук-"бабочку", падышоў да царквы, адной рукой прыўзняў яе за вугал, крыху патрос, з царквы на ганак выскачыў перапуджаны манах і, прасціраючы ў бок чалавека худыя рукі, залямантаваў: "Александр Иванович! Александр Иванович, дорогой! Вы снова с утра успели! Вас ждут на Черном море листригоны, да и Мануйлиха с Олесей, говорят, вернулись в свою избушку у Перебродов. Ах, Александр Иванович! "

На плошчу, з боку Крашчаціка, па Андрэеўскім спуску прыляцеў малады, стрункі белы конь з вершнікам, чалавек схапіў каня за грыву, спыніў, твар вершніка быў пасечаны шабляй, чалавек махнуў камусьці на Уладзімірскай Горцы рукой, і ля мяне прайшоў слабымі нагамі, схуднелы, з пакутлівымі вачыма, з лагернай біркаю на грудзях: "Васіль Стус" — спатыкаючыся, спусціўся на плошчу, чалавек узяў яго на рукі, пасадзіў на каня за спіною вершніка, пацалаваў каня ў вусны, пляснуў даланёй па белым азадку, і зранены ў баях з палякамі, туркамі і маскалямі, даўно ссівелы Дарашэнка нацягнуў павады, паставіў каня дыба, зняў з галавы аўчынную шапку, пакланіўся купалам і званам Андрэеўскай царквы, Стус абшчапіў рукамі яго паясніцу, чалавек сказаў: "В Запорожскую Сечь!" — і конь заднімі нагамі адштурхнуўся ад плошчы і паляцеў высокім, крутым берагам Дняпра на поўдзень. І данеслася сюды — на плошчу, да Андрэеўскай царквы, да Сафійскага сабора, да Уладзіміра Вялікага на Горцы — данеслася ўжо аднекуль здаля і звысоку, як з неба, песня· "Попэрэдзі Дорошэнко " Чалавек з чаравікамі ў руках стаў падымацца сцежкай на Горку, убачыў мяне на траве ля Вялікага князя, сеў на лаўку паблізу, абуўся, паклікаў пальцам да сябе

Ён доўга, з-пад нахмураных цёмных броваў глядзіць на мяне Вузкі, як ва ўсходніх азіятаў, разрэз вачэй, кароткі, з шырокімі ноздрамі нос. Ад чалавека пахне старым, выпітым у пачатку стагоддзя вінам

— Господин Купреев! — Куприн палажыў мне на плячо руку — Сегодня я таскал мешки и ящики так себе, шутя, вспомнив молодость, проверял — на что еще способен потомок татарских князей Кулунчаковых. А когда-то, в молодости, я здесь бегал в поисках бульварного материала для "Киевлянина" и был грузчиком в порту А перед тем служил поручиком в полку на Подоле, но ушел в отставку от казарменной жизни и от казарменной любви Потом из Киева убежал на волынское Полесье

Я дастаў з-за пазухі "Олесю". Ён бярэ ў мяне кнігу, нецярпліва разгортвае яе, чытае, голас яго ўсхваляваны

— "Полесье глушь. лоно природы. простые нравы... первобытные натуры " Да, так писал я почти шестьдесят лет назад. — Ён палажыў кнігу сабе на калені, задумаўся, нешта далёкае ўспамінаючы, у вачах спынілася сляза — Полгода здоровой жизни в глуши .. Был лесным объездчиком, управляющим имением, лечил полешукам зубы, при этом вот читайте я писал "В моем распоряжении были касторовое масло, карболка, борная кислота, йод. " И знал биографию каждого дерева в лесу И так любил я там красиво — Ён сціснуў рукамі пасівелыя скроні — Ах, когда-то встретил я там чистое-чистое! Но испугался этого чистого светлого мгновения, испугался нашей с ней любви Потому в повести и спрятался под другим именем Дикая сила диких людей оказалась сильнее моей любви . Господин Купреев! Вот вам деньги, пойдете в магазин, возьмете водки Что-то грустно стало .

Купрын узяў мяне пад руку, дапамог устаць з лаўкі, крыху правёў ля Уладзіміра Вялікага, злегку штурхнуў у плячо, і я пайшоў

.. Я дастаю з чамаданчыка вінаград, і мы п'ём пакрыху з "горла" Я расказваю яму пра свае прыгоды ў Пірагове

— Господин Купреев! — Купрын зноў кладзе мне на плячо руку. — Прошу вас: едьте на Полесье Там вы, возможно, встретите то, что и я когда-то . Ах, когда-то было встретил!

На Горку, на Уладзіміра Вялікага, на нас з Купрыным ужо сышоў вечар Вялае лісце кустоў, трава, спіна князя заблішчэлі сіняй расой Купалы Андрэеўскай царквы адбіліся золатам на дне ракі

Нехта ў лёгкім светлым плашчы сцяжынай узышоў на Горку, убачыў нас, падышоў, сеў ля Купрына на лаўку. У яго былі густыя, чорныя, як не расчасаныя валасы, ссівелыя на скронях. Худы, маршчакаваты твар з даўгаватым, крыху падобным на яўрэйскі, носам, з глыбокімі блакітнымі вачамі І вочы тыя былі тужлівыя-тужлівыя Ён маўчаў Купрын даў яму гарэлкі Чалавек крыху адпіў, закашляўся, дастаў з кішэні плашча пачак "Беломорканала", запаліў

Купрын глядзеў, глядзеў на чалавека, а потым рашуча падняўся з лаўкі, бутэлька ўпала на зямлю, з яе пралілася бліскучым цуркам гарэлка, Купрын стаў перад чалавекам, той таксама падняўся з лаўкі, і Купрын ціха, але цвёрда сказаў яму·

— Господин Некрасов! Русская классическая литература не даст вас обидеть У нее сильные руки Держитесь. — Потым павярнуўся да мяне — А вы едьте на Полесье Но мою Олесю не ищите

І яны пайшлі ўдвух, побач, па сцяжыне ўніз, па Андрэеўскім спуску, па плошчы ля высокай царквы, у бок Крашчаціка Я пайшоў следам за імі. Яны звярнулі з Крашчаціка ў завулак, потым яшчэ ў адзін завулак Някрасаў спыніўся перад домам, паказаў рукой на акно ў доме, сказаў·

— Мое окно

Насупраць таго дома, таго акна, на другім баку завулка спынілася пяцёра-шасцёра чалавек у аднолькавых чорных плашчах і чорных капелюшах, адзін з іх дастаў з кішэні плашча камень і кінуў у акно Някрасава, разбітае шкло звонка ўпала на тратуар пад сцяной, і ўсе яны пабеглі назад, па завулку, у цемру

Купрын і Някрасаў доўга стаялі пад разбітым акном, потым пайшлі і пайшлі Адзін з іх навечна вярнуўся з Парыжа, другі — навечна паедзе ў Парыж.

Я расплюшчыў вочы Была ўжо ноч На лаўцы мне стала холадна. Я падняўся і пайшоў пад ногі Уладзіміра Вялікага, — можа там будзе цяплей Трэба дачакацца раніцы, каб неяк паехаць, паехаць.

А ўглыб Палесся закінуў мяне лёс толькі праз шэсць гадоў

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

Восенню збіраўся чарговы з'езд КПСС, і наша школа да дня адкрыцця з'езда павінна была выбраць цукровыя буракі з поля, на якім вырошчвала буракі звяно дэлегаткі з'езда

Імжыць халодны дождж. Зямля глiністая, каляная, рукі ў дзяцей і настаўнікаў зябнуць, сінеюць. Пасярод поля стаяць брыгадзір і звеннявая Звеннявая ў час з'езда ці пасля павінна стаць Героем Сацыялістычнай Працы Заўтра яна едзе ў Маскву, а ўбіраць буракоў яшчэ нямала Адна за адной ідуць полем машыны, трактары з прычэпамі Шасцёра, што вярнуліся з буракапрыёмнага пункта, пaціху кажуць нам, настаўнікам, што гектар дае па дваццаць тры — дваццаць пяць цэнтнераў буракоў А прэса — раённая, абласная, рэспубліканская — і радыё ўрачыста паведамляюць, што звяно атрымала па пяцьдзесят цэнтнераў буракоў з гектара Што ж, у раёне, па разнарадцы зверху, не хапае Героя Мы, настаўнікі, гэта разумеем і маўчым Але вось падышоў да нас адзінаццацікласнік і пытаецца ў дырэктара школы

— Васіль Іванавіч! Як гэта разумець. дваццаць пяць і пяцьдзесят?

Іван Васільевіч, стараваты ўжо, сівавалосы, былы сакратар ЦК камсамола Заходняй Беларусі і былы лесаруб у Молатаўскай вобласці, кажа хлопцу·

— Валя! Ты сакратар камсамольскай арганізацыі школы — таму не задавай такіх пытанняў

— Добра, Іван Васільевіч, не буду

Юны сакратар падышоў да аднакласнікаў, нешта сказаў ім, і яны ўсе яшчэ дружней узяліся за буракі

Я падышоў да брыгадзіра, кажу яму·

— Дземчанка на Украіне бярэ па трыццаць — трыццаць пяць цэнтнераў, а ў вас ажно пяцьдзесят Ды тут можна адразу даць двойчы Героя

Брыгадзір змаўчаў, нядобра глянуў на мяне спадылба

Па абедзе на поле прыехаў першы сакратар райкома партыі Падлескі, агледзеў пад халодным дождыкам поле, па ім дзеці дзе-нідзе параскідалі бацвінне Сакратар падышоў да нас, настаўнікаў, што стаялі купкай Быў ён ружовашчокі, маларослы і

поўненькі, як лепшы бурачок з гэтага поля, кажа нам (старшакласнікі працуюць блізка — і ўсё чуюць, я стаю блізка да сакратара, таму пырскі яго сліны ўпалі мне на нос)

— Усё поле ў бацвінні! Абзавяліся свіннямі, каровамі! Нічога не чытаеце! Вучэбна-выхаваўчую работу ў школе запусцілі! Паразганяць вас трэба! Мы праверым вас!

І важна, хоць і малы, сакратар пайшоў на край поля, да чорнай "Волгі".

Старшакласнікі спачувальна пазіраюць на нас.

Пад вечар, ідучы з поля, змучаныя, як ніколі да гэтага, адной небяспекай, мы, настаўнікі, дамовіліся· ідзём усе разам у школу і пішам Хрушчову — усё роўна губляць нам ужо няма чаго

Я пішу ліст Хрушчову — спачатку прашу прабачэння за тое, што турбуем, потым расказваю пра буракі дэлегаткі з'езда і першага сакратара райкома, якія вырасцілі гэткі нечуваны ўраджай, у канцы зноў прашу прабачэння, жадаю дарагому Мікіту Сяргеевічу здароўя, і мы ўсе падпісваемся Толькі дырэктар школы, якому даліся ў косці за пятнаццаць гадоў маразы ў лясах Молатаўскай вобласці, з поля адразу пайшоў дахаты, але нам нічога не казаў, зрабіў выгляд, што нічога не ведае

Падпісалася і мая суседка, маладая настаўніца з цёмнымі валасамі і чорнымі брывамі, ужо з год, як мы з ёй пяшчотна паглядаем адзін аднаму ў вочы

Ноччу з настаўнікам фізкультуры месім керзавымі ботамі гразь да чыгуначнага прыпынку, едзем у суседні раён у Баранавічы, здаём там раніцай на пошце заказны ліст з паведамленнем

Праз тры-чатыры дні — з'езд ужо йшоў — у кантору калгаса прыязджаў другі сакратар Шосцік, нешта там, у канторы, уладкоўваў з "бураковымі" дакументамі Напрыканцы з'езда газеты яшчэ паспелі даць канчатковую лічбу: трыццаць дзевяць цэнтнераў з гектара

Нас, школу, восенню і зімой ніхто не трывожыў, а ў красавіку наехала камісія — з райкома і райана Хадзілі на ўрокі, на класныя гадзіны, глядзелі нашыя планы, задавалі пытанні вучням і настаўнікам па палітыцы партыі, у маім восьмым класе далі дыктоўку па рускай мове, але прысутнічала на ўроку ў мяне інспектар райана — добрая, спагадлівая жанчына, якая, правяраючы ў вучнёўскіх сшытках дыктоўку, дала толькі трох двоечнікаў з дваццаці пяці ў класе вучняў

Пасля ўрокаў настаўнікаў сабралі на сход, на якім інструктар райкома і загадчык райана ў ветлівай форме даводзілі нам, што трэба пастаянна займацца палітычнай самаадукацыяй, але ў канцы сваіх выступленняў намякалі нам маўляў, можа быць і горш з намі

Летам дырэктара школы знялі з пасады — "за развал вучэбна-выхаваўчай работы ў школе", мяне перавялі ў другую школу, ажно за сто кіламетраў, на Палессе, але не ў самую яго глыбінку — з берагоў Шчары на берагі Лані Праз год я адчуў· трэба мне і адсюль, ужо самому, падавацца далей, далей — можа ўглыб Палесся Тым больш, што мая чорнавалосая і чарнабровая не захацела быць жонкай новаспечанага "дзекабрыста" .

На берагах Лані я атрымаў ліст ад свайго інстытуцкага таварыша Вуліча Івана Ён пісаў мне Вось як я ўявіў сабе ягоную гісторыю.

Вуліч у чэрвені павёў свой пяты клас у двухдзённы паход з начоўкай у адной з пінскіх школ Раніцай другога дня ён павінен быў завесці дзяцей у Пінскі краязнаўчы музей Але ні ў Пінску, ні ў музеі Вуліч з дзецьмі не быў У першы ж дзень паходу ён ля моста праз Ясельду звярнуў са сваімі вучнямі з шашы на бераг ракі Вада была такая цёплая, з блакітным небам у ёй і белымі аблокамі, трава на беразе была такая зялёная і мяккая, так ціха шапацелі чараты ля нізкага берага, ружавелі гонкія ракіты, бялелі ствалы маладзенькіх бярозак, маўчалі кусты крушыны, так пахла мёдам ад плоймы, у траве, жоўтых дзьмухаўцоў, белага па ўзгорачках дзяцельніку і сіняга чабару, пахла прывялым свежым сенам у капіцах, так лёгка скакалі ў паветры матылькі — белыя, чырвоныя, жоўтыя, трымцелі пазалочанымі крылцамі стракозы, і так задуменна стаяў на адной назе бусел ля капіцы, і ва ўсім гэтым і над усім гэтым ціўкала, спявала птаства, і было тут так прыгожа, хораша і здорава, як, ведаў Вуліч, нідзе ў свеце, — што ён спыніўся на беразе Ясельды, спыніліся дзеці, і ён сказаў·

— Нікуды адсюль далей не пойдзем

Вечарам дзеці з настаўнікам развярнулі капіцы і соладка заснулі на цёплым свежым сене, прыкрыўшыся ім Раніцай сабралі сена ў капіцы, нават начапілі на іх звязанага вецця, памыліся ў чыстай Ясельдзе, паснедалі і пайшлі, пайшлі далёка берагам. Другім вечарам вярнуліся дадому Дырэктар школы, ажно ўспацелы ад перажыванняў, спаткаў іх перад вёскай і сказаў Вуліч:

— Сваім загадам па школе я вынес вам вымову за зрыў краязнаўчай работы А заўтра паедзеце ў райана

У райана гарачы Вуліч пасварыўся з загадчыкам, забраў сваю працоўную кніжку, пайшоў у буфет ля прыстані, напіўся таннага "Днепро-Бугского" віна, свайго, здавалася б, самага роднага віна — бо Днепра-Бугскі канал пралягае бліз яго вёскі і ўваходзіць у Піну, тут жа ў буфеце, а потым і на беразе Піны цалаваўся з давыд-гарадоцкімі прыгажунямі І тыя давыд-гарадоцкія цыганы вывезлі чорнавалосага і смуглявага, як самі, п'янага настаўніка геаграфіі аўтобусам за горад, на шашы злавілі спадарожную машыну, закінулі Вуліча ў кузаў і самі туды перакуліліся цераз борт Ім пашанцавала машына ішла на Валынь, за Любяшоў, куды ім усім і трэба. Цыганы і Вуліч таўкліся ў кузаве, адрываліся ад бартоў і падалі на дно кузава, калі машына скакала па выбоінах на дарозе або крута паварочвала ўлева-ўправа У кузаве было ветрана і свежа ад хуткасці, але ўсё-такі пах разагрэтай смалы набягаў на іх з прыдарожных бароў, асабліва за Махром і Каленам — бліжэй да Украіны Вуліч пляснуўся на дно кузава, калі машына рэзка тармазнула — дарогу павольна, лена пераходзіў статак кароў Цыганы зарагаталі, паднялі Вуліча і пасадзілі ў пярэднім кутку, далі яму яшчэ выпіць "з горла" і яшчэ далі яму ў руку ліվернай каўбасы. Ён спаў, прачынаўся, лыпаў вачыма, зноў засынаў, але за Стаходам бадзёра ўстаў у кузаве і далей ужо цвёрда стаяў ля кабіны, больш не піў, хоць цыганы і пхалі яму пляшку ў рот, — уперадзе Вуліча чакала важная падзея ў яго жыцці· цыганы везлі яго на адзін валынскі хутар жаніцца, у прымы Над імі, над машынай высока ў небе, за аблокамі праляцеў у французскай "Каравеле" ў бок Масквы прэзідэнт Алжыра Герой Савецкага Саюза Бэн Бэла. Памочнік прэзідэнта па пытаннях нацыянальнай бяспекі глянуў у ілюмінатар, убачыў глыбока ўнізе, скрозь разрыў у аблоках, стужку дарогі, на ёй чорную кропку машыны, за машынай — хвост белага пылу і шапнуў на вуха прэзідэнту, што ён, пан прэзідэнт, пралятае над тымі лясамі і балотамі, дзе ў другую сусветную вайну дзейнічала партызанская армія двойчы Героя Савецкага Саюза Фёдарава Бэн Бэла глянуў у ілюмінатар, незадаволена пацмокаў языком і сказаў· што, Масква можа даць не толькі Героя, але й двойчы Героя? Памочнік заўважыў· не толькі двойчы, але й тройчы і нават пяць разоў. Прэзідэнт сказаў· добра ім

Цыганы і Вуліч пачулі далёкі гул у небе, задралі чорнавалосыя галовы ўгору і падумалі добра, калі падаеш тут, унізе, а калі зверху? Цыганы яшчэ выпілі і спявалі "По полю, по полю, по полю цыганская тройка летит " Вуліч падпяваў і весела рагатаў нарэшце, ён адчуваў сябе шчаслівa і вольна

На лясны валынскі хутар яны прыйшлі позним вечарам. Дзверы ў хату ім адчыніла жанчына, яна паставіла на белую, чыстую сурвэтку на стале, што ў куце пад абразамі, трохлітровы слоік самагонкі, паліваны тазік з напіханай каўбасой. Пілі, елі, спявалі. Раніцай Вуліч прачнуўся ў ложку і здзівіўся побач ляжала голая жанчына і паглядала на яго збоку напаўрасплюшчаным вокам. Цыганы на кухні ўжо звінелі шклянкамі і спявалі Потым яны сабраліся і пайшлі праз лес на дарогу

Вуліч застаўся на хутары ў Любы, на працу ў школу яго не ўзялі, і ён уладкаваўся ў калгасную будаўнічую брыгаду Пісаў мне, што жыве куды як добра, весела і вольна, яму там уежна і ўлежна, і запрашае мяне ў госці і ўвогуле на Валынь.

.За густым ельнікам-сасоннікам, на ўтравелым дварэ, ля калодзежа мяне сустрэла рыжавалосая, у гадах, жанчына, яна трымала ў руцэ поўнае вядро, сказала

— Цэ вы — Мыкола? То заходьтэ ў хату, гостём будэтэ

Вуліч спаў на канапе ў сенцах, ён быў п'яны. Люба разбудзіла яго, ён доўга лыпаў на мяне вачыма, потым спахапіўся, кінуўся з канапы да мяне — мы абняліся, пацалаваліся

— Ой, як добра, Мікола, што ты прыехаў Заўтра пойдзем у балота касіць

Пасля пачастунку за сталом пад старой шырокай грушай-дзічкай Вуліч павёў мяне вакол хутара. Блізка за лесам паказаў сваё з Любай поле, яшчэ бліжэй, ля двара, — грады, на іх буялі-зелянелі боб, гарох, гуркі, кроп, салата, морква, жаўцеў сланечнік. У полі, у баразнах, на бульбе набіралі моцы жаўтабокія гарбузы Ад хутара, праз лес, ішла вузкая, у калдобінах, поўных вады пасля нядаўняй навальніцы, дарога Збоч яе

густа раслі ажыннік, крушына, высокая папараць, пахла сырым мохам За соснамі прагалак, жаўцеў пясок па краях шырокага і доўгага кар'ера — там быў школьны ціp. Мы абышлі поле, бульба ўжо цвіла белым, ружова-сінім цветам, увайшлі ў малады бярэзнік-асіннік, там назбіралі ў кошык абабкаў і краснюкоў, павіталіся ля трухлявага пянька з вужакай, паслухалі птушынае шчабятанне, пасядзелі, хоць і макравата было, на беражку лясного чыстага ручая, асвяжылі ў ім ногі, апаласнулі твары, вада пахла смалой і чарніцамі

— Добра мне тут, — кажа Вуліч — Ціха, спакойна, здарова.. І Люба мая зацяжарала.

Яшчэ давідна Люба разбудзіла нас, дала напіцца свежае смятаны, Вуліч вынес з пуні накляпаныя з вечара косы, жонка дала яму ў рукі важкую торбу з ядой і парай бутэлек самагонкі

— Ёванэ, — кінула наўздагон з парога Люба — Ты ж дывысь, позаўтрі прібэжі дохаты.

Вуліч скасавурыўся на мяне, усміхнуўся, падміргнуў· маўляў, баба ёсць баба

Мы абуліся ў гумовыя боты і пайшлі, са складзенымі косамі на плячах, сцежкай праз цёмны лес. Папараць і кустоўе палівалі нас расой, але ад яе не было холадна — было толькі свежа і нават па-ранішняму светла У лесе ўжо прачыналіся птушкі і ўзляталі вышэй на яліны і бярозы.

Мы ішлі на дні чатыры, з начоўкай Сцежка скончылася на ўзлессі, пачалося купіністае балота Ногі ў ботах коўзаліся з хісткіх купінаў у чорную ваду, у гразь. Па балоце пракідаліся чэзлыя, крывыя бярозкі і хваінкі Праз гадзіны дзве, як ужо добра пасвятлела, мы ступілі з балота на грудок, парослы альховымі кустамі, дробным бярэзнікам, крушынай, ажынай і папараццю. На грудку стаяў даўні ўжо, учарнелы будан, з леташнім сухім сенам у ім, з бярэмцам смалячкоў і вядром у кутку Вуліч паправіў з бакоў будан, мы пасядзелі ў ім, пакурылі і пайшлі з грудка ў мокрую, забалочаную лугавіну, знялі там з плячэй косы, памянташылі іх, ад мянташак і косаў высока і шырока пайшоў звон, мы махнулі косамі шырока, бадзёра, прутка са здаровым і радасным уздыхам "Гэх! Гэх!" — як заўсёды першай раніцай сенавання

Вечарам Вуліч узяў вядро ў будане і сказаў·

— Пайду па ваду Да Казлючыхі З паўкіламетра Там у яе на гары смачная вада ў калодзежы Казлючыха? Старэнькая ўжо Была настаўніцай украінскай мовы. З-за вашага Васіля Быкава .. — Вуліч запнуўся, але тут жа папраўіўся — Нашага З-за нашага Васіля Быкава пацярпела яна, сышла з сяла. Купіла хатку на хутары, на гары, хатка тая пуставала .

Я нецярпліва перабіў Вуліча.

— А пры чым тут Быкаў?

— А не схацела весці свой клас на экскурсію ў музей Фёдарава Музей тут недалёка. Музей партызанскай славы.

— Валя! Але ж пры чым тут Быкаў?

— А Фёдараў пабіў Быкава ў "Огоньке" за "Круглянскі мост" Дык Казлючыха паслала ў "Огонёк" гнеўнае пісьмо Пісала, што, маўляў, сама была партызанкай і што ўсякай брыды хапала ў партызанцы І яшчэ пісала, што народ пакутаваў і ад немцаў, і ад бандэраўцаў, і ад партызанаў-фёдараўцаў .. Мужык загінуў пад Кёнігсбергам. Дачку яе згвалтаваў фёдараўскі разведчык. Дачка памерла пасля вайны зусім маладой Пакінула ад таго разведчыка дзевачку, унучку Казлючысе. Дык во, па тым пісьме і па той гісторыі з музеем у школу нахлынула камісія Сабралі педсавет А Казлючыха вазьмі дый скажы на тым педсавеце чаму ж гэта вы, даражэнькія начальнічкі, на Украіне ды ў украінскай сельскай школе не па-ўкраінску гаворыце? І пайшло-паехала. Па рабоце Казлючыху так прыціснулі, соткі абрэзалі, паўсаду выкарчавалі, як пракладвалі электралінію, медаля ўнучцы не далі — зрэзалі па рускім сачыненні Казлючыха неяк дацягнула да пенсіі ў вячэрняй школе Хадзіла на работу ўжо з хутара Дасталося жанчыне Было, што на кожным сходзе і ў школе, і ў калгасе, і на раённых настаўніцкіх нарадах усё білі і білі яе Дык яна нарэшце схавалася з унучкай на тым хутары І там да яе чапляліся, але потым неяк прыціхлі Бо даўно й сама яна прыціхла — ат, не чапаю я вас, не чапайце й вы мяне Унучка нікуды вучыцца не паступала — трэба ж старую дагледзець, трымае на сабе гаспадарку — свінні, козы, куры, гусі Збірае грыбы, ягады Што-небудзь прададуць на базары, ну й бабіна нейкая пенсія — жывуць сяк-так. Дзяўчына сена козам накосіць. Добра яшчэ, што ляснік нейкі далёкі сваяк, дык каня дае А так ні ў кога нічога не просяць. У сяло дзеўка толькі ў краму сходзіць па хлеб і цукар ды на пошту А Казлючыха туды — ні нагой Ну, я пайшоў па ваду





***

Надышоў спякотны поўдзень. Касцы ў такі час або цягнуцца паспаць у будане, або закасваюць штаны і апускаюць ногі з беражка ў канаву Вуліч паскакаў па купінах на лес, на сцежку да свайго двара, а мне сказаў·

— Ну, калі ўжо так хочаш, то во — глядзі гэтай сцежкай з грудка ідзі, ідзі, нідзе не зварочвай і прыйдзеш на ўскраіну сяла, выйдзеш на гравійку і пойдзеш па ёй ад сяла ў лясок.

Скрозь сосны бялеюць сцены мураванай будыніны — гэта, мабыць, і ёсць Музей партызанскай славы, "музей Фёдарава" З гравійкі зварочваю па дарожцы ў лес. Сапраўды — лясок. Ад яго ж, ад лесу адно чарнеюць з моху спарахнелыя пні, як порхаўкі. У маладым сасонніку — зробленыя нядаўна, можа колькі гадоў таму, зямлянкі — як знадворныя экспанаты для музея Зямлянкі зверху ўсцеленыя высахлым дзёрнам, на які метр ад зямлі — сцены з бярвення Дзверы ў зямлянках паадчыняныя Уваходжу ў першую У задняй сцэнцы яе — невялікае разбітае акенца Асколкі шкла блішчаць на сухіх яловых лапках, уздоўж бакавых сценак — нары, на іх — таксама яловыя лапкі, сухое сена, салома-пацяруха. У зямлянцы стаіць — хоць і акенца разбітае, і дзверы насцеж — смурод. на падлозе, ля ўвахода, — кучкі счарнелых, ссохлых і нядаўніх экскрэментаў Я выскачыў з зямлянкі, заціснуўшы рукой нос, выбег з лесу на дарогу У музей я не пайшоў Што мне там глядзець, калі тутэйшая дзятва ці, можа, экскурсанты гэтак адносяцца да партызанскай гісторыі?

Калі я збочыў з гравійкі на сцежку і прайшоў ужо з паўкіламетра па алешніку, бярэзніку, то раптам сцяміў· не той, што мне трэба, сцежкай іду Але вяртацца назад не схацелася, і я вырашыў· ісці і ісці

Сцежка-дарожка прывяла мяне на невысокую гару Па схіле той гары раслі колькі старых, крывых яблынь, высокія вішні, між імі зелянелі грады з жоўтым, круглым цветам сланечніку А на самай гары, з шырокім голлем амаль па-над усёй гарой, густа зелянела таўстастволая яліна. Гэта ад яе на мяне, калі я выйшаў з кустоўя, дыхнула ранні сёлета мёдам — вось-вось расшчодрыцца юны ліпень.

І блізка за ліпай, за калодзежам, — хатка з пабеленымі сценамі і зялёнымі аканіцамі, пад дахам з чырвонай чарапіцы. З аднаго боку ад хаткі — нізкі хлеў з расчыненымі насцеж варотамі, з другога, амаль на схіле, — пуня, таксама нізкая, пад дахам з пашарэлага чароту Стаю перад садам і раптам чую нешта цёплае, мяккае і мокрае дакранулася да пальцаў рукі Я ўздрыгнуў, гляджу· беленькая козачка стаіць ля маіх ног, схіліла на бок галоўку, задуменна зіркае знізу на мяне маўляў, я ведаю, чаго я тут, а ты — чаго?

Па абскубеным схіле, знізу, ад кустоўя, подбегам набліжаецца да мяне ўжо цэлы статак коз — белых і чорных, старых і маладых. Падбягаюць і становяцца зусім блізка вакол мяне і бляюць — як смяюцца. Стары з сівою доўгай барадой казёл прыгнуў галаву долу, паставіў на мяне рогі Ды ну цябе! Я ж цябе паважаю, стары ты казёл! Паважаю не меней, чым Хрушчова Вось толькі твайго яйкагаловага земляка Шэлеста — не вельмі Нешта ён тут у вас навыдумляў-накруціў з нейкім нацыяналізмам..

Я абышоў — а козы за мной следам — сад, спыніўся перад веснічкамі ў плоце Пад плотам серабрыцца густы, высокі палын, ад яго ідзе горыч А за плотам, за веснічкамі — утравелы падворак, пасярод яго — счарнелы драўляны зруб калодзежа, пад ім сцішана вісіць шост з цабэркам, пагойдваецца — мусіць, зусім нядаўна даставалі з калодзежа ваду Ля калодзежа, на дубовых камлях, ляжыць патрэсканае карыта Гусі, гергечучы, цягнуць доўгія шыі ў карыта, п'юць ваду На тым баку куры ля ганка дзяўбуць нешта на зямлі. Белы парсючок чухае бок аб вугал хлява Пад вокнамі расцвілі мальвы, растуць кусцікі вяргіняў Жоўты ліпавы цвет гудзе пчоламі

Я адчыніў веснічкі Гусі выцягнулі шыі ўгору, загагаталі, куры, квохчучы, разбегліся па надворку

Усё тут, на гары між балотаў і лясоў, як недзе і ў нас, на Беларускім Палессі, адно што сцены хаты пабеленыя, як у Пірагове ля Кіева

Дзверы з сенцаў не адчыніліся, на ганак ніхто не выйшаў

На двор я не ступіў, зачыніў веснічкі, як былі, пастаяў перад плотам, пайшоў сцежкай назад, па схіле І ўжо ў самым нізе гары спыніўся, азірнуўся і паспеў убачыць: нехта ў хаце хіснуў белую фіранку — нехта мне ўслед глядзеў..

Ішоў сцежкай у бок, здаецца, Вулічавай лугавіны і ўсё думаў

А што б я сказаў, калі б зайшоў, у той хаце? Хто я, адкуль і чаго?.. Стала б у той хаце каму лягчэй ад мяне? Прынёс бы туды якую нечакана-радасную ўзрушанасць? І што б падумала старая Казлючыха? І самае неўразумелае для мяне: якія б першыя словы я сказаў у той хаце? Ну, быў бы я такі адчайны, як той Іван Цімафеевіч (ці ж не сам Куприн?!) у аповесці "Олеся" А можа, такія па-купрынску адчайныя людзі жывуць толькі ў літаратуры?

І я павярнуў назад, пабег па сцежцы назад на Гару

Бег і думаў, а думалася абы-што а можа, я заблудзіўся? Можа, не той сцежкай ішоў на Вулічаў сенакос? І можа, не той сцежкай бягу назад на Гару? А калі з ганка, з сенцаў увайду ў хату — што я скажу?

" .Около печки что-то зашевелилось..

Все черты бабы-яги, как ее изображает народный эпос.

. — Здравствуй, бабка!.. Тебя уж не Мануйлихой ли зовут?

. — Ну, бабушка, не ласковая же ты до гостей.

.. — Иди, иди . Иди, молодец, своей дорогой Нечего тут тебе делать..."

Я спатыкнуўся на нейкім карэнні, калі сцежка за альховым кустом павярнула ўбок, ледзь не ўпаў, але ўтрымаўся на нагах і далей не бег ужо — ішоў паціху

" .Чей-то женский голос, свежий, звонкий и сильный, пел, приближаясь к хате

.И в просвете быстро растворившейся двери показалась рослая смеющаяся девушка.

.. — Покажи мне, пожалуйста, дорогу ..

— Идите по ней все прямо "

Нешта ж доўга я йду гэтай сцежкай Можа, зноў не тая?

"— Неужели вы не боитесь жить в такой глуши?

— .. Волки сюда не заходят

..Красивое лицо сделалось светлым, застенчивым, детским

— ..Как тебя зовут-то?

— По-здешнему — Олеся"

Я доўга, пакуль не вярнуўся Вуліч, ляжаў тварам у неба, ляжаў, закінуўшы рукі пад галаў, заплюшчыўшы вочы, і ўсё ўспамінаў, успамінаў і не мог успомніць, не мог зразумець. як, якімі сцежкамі я ўсё-такі знайшоў Вулічаў будан?

Расказаў Вулічу, дзе быў, што бачыў Калі сказаў пра зямлянку, ён скрыгатнуў зубамі Калі ж я загаварыў пра двор Казлючыхі, ён адразу было зарагатаў, але раптам сціх, як асекся, збоку глядзеў на мяне, потым голасам купрынскага Ярмолы — глуха-глуха, быццам з-пад зямлі — сказаў·

— Туды больш не хадзі. Скажу табе праўду І Казлючыха была ў партызанах, і муж яе быў у партызанах, але мужаў брат быў бандэраўцам І вось тая гісторыя з Быкавым і Фёдаравым Гэта толькі здаецца, што ад яе адчапіліся Адным вокам, але пільным вокам —назіраюць. То вады хто зойдзе напіцца ў хату, то яек купіць, то яшчэ чаго То быццам жаніх — паглядзець на дзяўчыну Ну, і прызнаюся табе Толькі ты — нікому нідзе ні-ні Бо й я паабяцаў, што — ні-ні Летась, пасля сенакосу, прыязджаў на хутар да мяне . У цывільным, але з "корачкамі" . Ведае, што па ваду хаджу да Казлючыхі. А такі гаваркі, а так умее смяяцца, а такі анекдот расказаў і так спадабаўся маёй Любе, што яна й стол пад грушай вышываным абрусам заслала, і яешню і самагонку паставіла. . Піў ён і не п`янеў, а я добра тады ўпіўся, — бо так мне Люба не дае І пра ўсё распытваў у мяне — адкуль я, хто мой бацька, хто мой дзядзька . А я ўпіўся — дык ён падказвае мне, адкуль я і чаго я тут аказаўся на гэтым хутары, на Валыні . Я запяваю пра цыганку Азу — а ён мне пра дзядзьку майго . Во чаму я ўчора вечарам як пайшоў да Казлючыхі па ваду, дык знарок, у адкрытую, і вядром аб зямлю бразнуў, і запаліў ля калодзежа, і ў хату не зайшоў падзякаваць за ваду Хаця, праўда, чаго заходзіць, калі ў вокнах цёмна Нацягаюцца абедзве за дзень. То ты, браце, не хадзі. не хадзі .





***

Але я пайшоў на тую Гару да Казлючыхі на другі ж дзень. Вуліч, калі ўжо добра прыпарыла, уторкнуў касільна між купінаў, сам сеў на купіну, сцягнуў гумовыя боты, паставіў ногі ў чорную ваду А я касіў, касіў, абліваўся потам, адбіваўся рукамі ад аваднёў і слепакоў, але касіў. Вуліч выцягнуў з балота касу, падаўся да будана і клікаў мяне, здзіўлена азіраўся і клікаў.

Так я зарабіў перад Вулічам права на вольны надвячорак. Сказаў яму, што хай ён, браток, дарue мне, хай пакосіць адзін — а трава пад вечар, ужо з расічкай, мяккая, косіцца лёгка, — а я, кажу, прайдуся крышку па Валыні, пашукаю, каб дзе заснаваць сабе тут хутарок — на гэткай волі, у гэткай цішыні, убаку ад шумнага, тлумнага свету

— Ах, — уздыхнуў Вуліч, — якая ўжо тут цішыня. Вунь, чуеш, як у сяле транзістары грымяць. Якая воля? Электрыкі прыходзілі, казалі грушу трэба спілаваць, будуць праводзіць лінію — дык груша праваdам будзе замінаць. Дый апошнія хутары будуць, чытаў я, выкарчоўваць, нават маленькія сёлы зносіць, бо яны, чытаў я, нейкія неперспектыўныя Якая ж, братка, воля Дык ты . тое самае не йдзі туды. не йдзі на Гару

Але я пайшоў

Толькі-толькі пачало змяркацца. Цішыня на падворку Пчолы ўжо не гудуць у ліпе Гусі стаяць ля карыта, напіўшыся, выцягнуўшы шыі ў неба. Чырвоны певень ударыў быў шпорамі ля аднае курачкі, але перадумаў, абмяк, грэбень упаў на галаву, курачка нездаволена квахтанула, мерылася нават дзеўбануць яго, але таксама перадумала Па той бок плота, блізка ад мяне, як з-пад ног, з густога лапушыння выскачыла і пабегла па надворку курыца. Я няўзнак глянуў уніз цераз плот і ўбачыў пад шырокай лапушынай, у пяску, белыя яйкі

Нядоўга стаяў я перад веснічкамі Недзе за пуняй бразнула клямка, і з-за вугла выйшла дзяўчына — у светлым доўгім сарафане, адной рукой трымала граблі цераз плячо, другой — тапкі, паставіла граблі да сцяны пуні, пад страхой, ідзе да ганка і пакуль што не бачыць мяне Але, во, яна рэзка ўскінула галавой — доўгія светлыя валасы ўпалі з грудзей на спіну, убачыла мяне ля веснічкаў, узняла да вачэй руку — як бы дзівілася. ці не здань за веснічкамі, рашуча скінула руку ўніз, нахілілася, паставіла тапкі на ганку, бразнула клямкай, прыадчыніла дзверы ў сенцы, нешта некаму туды ціха сказала, сышла з ганка, пайшла сцежкай да веснічак, да мяне, спынілася за крокаў пяць-шэсць да плота, за акном у хаце прыадсунулася фіранка, дзяўчына стаяла перада мной, прасторны светлы сарафан абвіваў яе маладыя, прыгожыя грудзі, яна глядзела на мяне вялікімі, бліскучымі вачамі, тонкія, цёмныя, падломаныя пасярэдзіне бровы незадаволена ўзварухнуліся і, нарэшце, дзяўчына ціха і нечакана ветліва, але чамусьці па-руску сказала

— Добрый вечер Что ж вы стоите? Заходите Открывайте калитку Или . — яна падышла да плота — Сама открою

Я, калі яна з таго боку адсоўвала тонкай загарэлай рукой зашчапку, сказаў па-свойму — па-беларуску·

— Добры вечар Прабачце, што стаю няпрошаны ля вашых веснічак. — Яна шырока адкрытымі вачыма, то на імгненне даверліва, то на якое імгненне з нейкай бояззю глядзела мне ў вочы — з-за адшчэпленых, але пакуль што не адчыненых веснічак. — Прабачце Во тут у вас у лапушынні кура яйкі знесла.

Яна з таго боку плота рассмяялася Фіранку ў хаце нябачная рука зашмаргнула Дзяўчына хацела ўжо ўстрымацца ад смеху, нават рот далонню прыкрыла, але і з-пад далоні смех прарываўся, ажно вочы яе сталі мокрымі, блішчэлі вясёлай слязой

А калі нарэшце сціхла, то выцерла далонню вочы і ўжо сказала па-валынску·

— Дзе? Вы сказалі — у лапушынні? Вы беларус?

— Во там, пад тым лістом. — паказваю рукой цераз плот — Тры яйкі

Яна зноў ледзь не рассмяялася, але стрымалася:

— Ой, ой! Аж тры! Заходзьце ж. — Дзяўчына расчыніла насцеж веснічкі, я ступіў на падворак, зачыніў і зашчапіў іх за сабой — быццам іду надоўга. Дзяўчына пайшла паперадзе, азірнулася, матнула галавой — белыя косы паляцелі са спіны цераз плячо, яна злавіла іх рукой на грудзях, каб не рассыпаліся, усміхнулася мне, павярнулася,

пайшла да ганка А яйкі? — успомніў я І што я рабіў потым — помніцца, бачыцца нібы скрозь туман Як магія якая, як насланнё! Так, як насланнё, бо я вярнуўся да плота, узяў з пяску пад лапушынай тыя тры яйкі. Дзяўчына стаяла на ганку. У прыцемку, на дварэ ўжо змерклася, а пад ліпай і зусім сцямнела, — яна чакала мяне Я падышоў да ганка, не ведаючы, што рабіць з тымі чортавымі яйкамі, потым працягнуў руку з імі, кажу·

— Вазьміце

Яна (трымаючыся рукой за клямку і — нібы здзекуючыся з мяне)

— Нясіце ў хату .. заходзьце ж.

Пераступаю парог . Мільганула думка. пакуль што ўсё нечакана добра і таямніча-прыгожа, але — як сустрэне мяне ў хаце Казлючыха? Няўжо, як Мануйліха? Як Мануйліха, потым скажа " Иди, иди . Иди, молодец, своей дорогой Нечего тут тебе делать. "

Дзяўчына адчыніла дзверы ў хату, прапусціла мяне Я ступіў на высокі парог і плячом праз тонкую тканіну кашулі на імгненне даткнуўся да пруткіх і цёплых грудзей Яна, здаецца, торгнулася усім целам, хіснулася назад — спіной да дзвярэй А ўжо другая мая нага пераступіла парог, і дзяўчына з сенцаў сказала ў хату·

— Бабуся! Сустракай чалавека! Ён нам будзе яйкі ад нашых курэй збіраць.

Голас — аднекуль з цёмнага кутка·

— Не гавары дурное! Праходзьце, праходзьце, чалавеча, госцем будзеце

"Около печки что-то зашевелилось. все черты бабы-яги, как ее изображает народный эпос. "

З кутка, з-за печы выйшла мне насустрач старая Казлючыха Калі б не была крыху прыгорбленая — была б высокая, як унучка. З-пад белай хусціны выбіліся на скронях сівыя валасы, і бровы ў Казлючыхі былі сівыя, яна, ідучы, выцірала рукі аб квятасты фартух, стала ля комінка

Дзяўчына працягнула ў мой бок руку, вывернула яе далонню ўверх — на згібе ў локці, вышэй і ніжэй локця скура была белая, не загарэлая, а на самім згібе, бачыў я, торгнулася ружовая, тоненькая жылка Яна, мусіць, заўважыла мой позір, бо апусціла руку, паказала вачыма на стол, сказала.

— Палажыце .. толькі каб не пакаціліся а, давайце я сама

Я аддаў ёй яйкі Гэтыя чортавыя! Але ў душы, унутрана ўстрапянуўся, сабраўся сам з сабою і сказаў Казлючысе

— Добры вечар

— Здравствуйте — Казлючыха села на крэсла каля печы, палажыла сухія, зморшчаныя рукі на калені. — З чім добрім до нас, чоловічэ?

— Ды проста ішоў, ішоў, бачу — хата Я тут блізка з Вулічам кашу

— Білорус пріїхаў до білоруса Цэ добрэ Людям трэба знатыся адно з адным Можэ, молока поп'етэ?

— Не, бабуля Дзякуй

— Ну, як хочетэ.

Дзяўчына паднесла мне крэсла, запрасіла сесці. І сама села на ўслончык ля стала Сядзім і ўсе маўчым Я акінуў позіркам хату· яна з аднаго вялікага пакоя, во тут, побач, печ, у кутку ля дзвярэй — вёдры, цабэркі, акно на ліпу ў дварэ, стол. за якім сядзіць дзяўчына (яна паставіла локаць на стол, палажыла шчаку на далонь, задуменна глядзіць на сваю бабусю, я здзівіўся нядаўна ж так ад душы ў дварэ смяялася і хітравата, як шчырая паляшучка, жартавала ), за сталом, уздоўж сцяны, абклеенай ружаватымі шпалерамі, канапа, засланая зялёнай капай, зноў акно, столік у кутку, у тарцовай сцяне — два акны на палісаднік і ля бакавой сцяны, за печчу, — два высокія ложкі, адзін металічны, другі драўляны, акуратна засланыя, і на іх — раскошна ўзбітыя падушкі, падлога не пафарбаваная — вымытая, вышараваная, да жоўтага, ды яшчэ між канапай і столікам — этажэрка з кнігамі, а над канапай — зашклёная рамачка з фотаздымкамі, са столі, на сярэдзіну хаты, вісіць лямпа-газнічка з круглай пабеленай бляхай

Маўчанне парушыла Казлючыха — спытала хто я, адкуль, пра бацькоў Я сказаў, што — настаўнік і бацька — настаўнік, а маці загінула ў вайну Сказаў, што да Вуліча прыехаў, каб пабачыць Валынь. Старой, мабыць, прыйшлася да душы мая кароткая біяграфія, яна ажывілася вачамі, сказала, што зваць яе Ганнай Маркаўнай, што гэта "дужэ добрэ" — памагчы накасіць сена. Унучка яе выйшла з хаты, я чуў· з двара загнала нанач гусей і курэй





У хаце сцямнела Дзяўчына захіснула фіранкі, запаліла лямпу. Паверх фіранкі я ўбачыў, як святло з хаты пазалаціла ліпу

Ганна Маркаўна сказала можа, пап'ю малака свежага? Я падзякаваў — не хачу. Дзяўчына, я заўважыў з боку, мірганула бабулі· чалавек, можа, ніколі не піў казінага малака. Тады я, каб не пакрыўдзіць Ганну Маркаўну, сваю нашмат старэйшую каляжанку, сказаў, што яно і можна — папіць на дарогу малака. Маладая Казлючыха (так я чамусьці, з нейкай маладой гарэзлівасці назваў дзяўчыну для самога сябе) расхінула белую фіранку на паліцы, што была прыбітая да сцяны над вёдрамі, узяла там паліваны гладыш, наліла з верхам у кубачак малака, і яно, калі падавала мне, крыху пралілося на падлогу — а можа, і не таму пралілося, што было налітае з верхам, а таму, што рука яе з кубачкам нечага здрыганулася .

— Мо шчэ! — спытала дзяўчына.

— Не, дзякуй

Я глянуў ёй у вочы, і мне падалося, што яны здзекліва ўсміхнуліся Казлючыха абаперлася рукой на палічку, паднялася з крэсла, ступіла да мяне бліжэй, нахіліла галаву нада мной (я сядзеў ля стала) і ціха сказала — чамусьці па-руску·

— Все это хорошо. то, что вы рассказали о себе. А, может, вы совсем не тот А?

Імгненна мне ўдарылі ў галаву словы купрынскай Мануйліхі "Иди, молодец, своей дорогой Хорош гость в гостинец. ."

Што я мог ёй адказаць? Я сядзеў і маўчаў

— Ба-бу-ся — прашаптала ўнучка

— Усяго вам добрага! — Я рашуча падняўся, пайшоў да дзвярэй, узяўся за клямку, павярнуўся да іх абедзвюх і яшчэ раз сказаў· — Усяго вам добрага!

— Бувай з богом, — сказала мне ўслед Казлючыха.

Дзяўчына выйшла за мной у сенцы, на ганак, на цёмны падворак. Я спыніўся перад веснічкамі, яна стаяла блізка перада мной, рукі яе былі апушчаныя Я адчуваў цёплае дыханне, сарафан на грудзях яе злёгку прыўздымаўся, яна сказала

— Пробачайтэ Бабуся моя стільки горя від людэй зазнала. Пробачайтэ

І сама адчыніла веснічкі.

— Бачітэ стэжіну? Бачітэ?

— Бачу А скажыце як вас зваць?

— По-народному — Оксана

— Бывайце, Аксана! — я ступіў за плотам на сцежку і хутка пайшоў па схіле гары ўніз, у цемнату кустоўя

***

Яшчэ два дні мы з Вулічам білі косамі балота, дыгалі, як буслы, з купіны на купіну, правальваліся ў чорную твань, выціралі з ілбоў пот, махалі рукамі на аваднёў і слепакоў Надвячоркам пырснулі на скошанае балота Любінай самагонкай, сабралі сенакосны рыштунак і пад вясёлы посвіст Вуліча рушылі на яго хутар У будане пакінулі-павесілі ўверсе на суку — давэнджвацца каўбасу, паджаўцицца — сала, палажылі на папараць цыбулю

Адыходзячы, я азірнуўся на сцежку ад будана на кустоўе — у бок Гары з ліпай. Вуліч злавіў мой позірк, усміхнуўся сабе, сказаў·

— Што? Стрэмкай засела?

Тады, у той позні вечар, калі я вярнуўся ў будан з Гары, я пра ўсё расказаў Вулічу — пра тое, як смяялася Аксана ў дварэ з тых яек, як сустрэла мяне ў хаце Казлючыха, як сказала " ..может, вы совсем не тот? Бувай з богом" — і як падалося, што вочы Аксаны здзекліва пасміхнуліся

***

Была субота. Наталка з суседняга хутара прывяла на вяроўчыне — за заднюю нагу — белую свінку Люба выгнала на двор з хлява чорнага маладога кныра Ён рыў лычом

зямлю пад плотам, падымаў галаву, нюхаў паветра і рохкаў. Люба пазачыняла ўсе варотцы і веснічкі з двара Мы з Вулічам сядзелі за сталом пад грушай

— Сховайтэся, — сказала нам Люба, — цэ нэ чоловіково підглядванне

Мы пайшлі ў хату Вуліч паклікаў мяне да акна

— Паглядзі, што зараз бабы будуць рабіць.

Наталка ў двары выпусціла з рукі вяроўчыну, свінка стаяла на месцы і знізу, ад зямлі, глядзела на кныра Той пад плотам кінуў лычом уверх зямлю, убачыў свінку і здзіўлена ўтаропіўся на жанчын у двары маўляў, а вы тут чаго?.. Так яны доўга стаялі — кныр пад плотам, свінка пасярэдзіне двара. Гэткае стаянне, мусіць, надакучыла жанчынам, і яны пайшлі — адна да кныра, другая да свінкі, упёрліся рукамі ім у азадкі, сталі папіхаць — уперад. Свінка, было, пайшла насустрач, але кныр заўпарціўся, упёрся капытамі ў зямлю Тады свінка завішчала на ўвесь хутар, а кныр, як спудзіўшыся, пабег у расчынены хлеў Люба хапала яго за вушы, за ногі, але не дала рады. Наталка папіхвала свінку да хлява, тая крыху паддалася, але раптам стала на месцы і болей не пайшла Тады абедзве жанчыны ўсё-ткі разам неяк выпхнулі кныра з хлява, сталі штурхаць у бок свінкі і нешта белае, пакручастае лавіць сваімі рукамі ў яго пад жыватом. Кныр стаў агрызацца на жанчын, мерыўся схапіць каторую за руку, а яны і рагаталі, і злаваліся, і неяк, нарэшце, загналі і кныра, і свінку ў хлеў, закрылі вароты ў ім, сталі выціраць фартухамі пот з твараў, пайшлі пад грушу, палажылі на стол стомленыя рукі Люба крыкнула Вулічу·

— Еванэ-э! Нэсы горілку! Під столом у слоікові!

— Гэта ж так хавае ад мяне — пад стол, у кутку, ды шчэ й анучамі закідае

Вуліч палез пад стол і адтуль, з-пад стала, казаў:

— Наталка Бедная маладзічка. Двух мужыкоў змяніла — і ніяк не можа радзіць. А хоча радзіць. Дык калі пачула ад Любы, што ты прыехаў, — то можа, сама сказала, каб ты можа, з табой удасца.

— А каб на вас з Любай і з той Наталкай! — крыкнуў я Вулічу пад стол Ён ужо вылазіў адтуль, і ад яго з рота несла самагонкай — А каб на вас! Паеду! Сёння ж паеду!

— Нікуды ты не паедзеш, — спакойна сказаў Вуліч — Пабудзь яшчэ .

Мы з Вулічам выйшлі пад грушу Люба сказала, паказаўшы вачыма на хлеў·

— Хай робляць там шчо хочуть.

А ў хляве то рохкала, то вішчала, то сціхала

Люба прынесла на стол закускі, пасадзіла мяне на ўслон ля Наталкі. Наталка пад сталом загаліла калена Пасля першых чарак мы ўсе павесялелі, Люба з Наталкай заспявалі.

*У суботу Янка*
*Ехаў ля ракі.*
*На рацэ Алёна*
*Мыла ручнікі, —*

заспявалі гэтак высока і зладжана, што ажно кныр са свінкай сціхлі ў хляве Кончылі спяваць. Люба падміргнула Вулічу, і яны пайшлі ў пуню — туды ўжо было ўкінута крыху свежага, накошанага вакол двара, сена Наталка пад сталом падцягнула спадніцу вышэй, я зрабіў выгляд, што нічога не бачу, яна ўздыхнула, паднялася з-за стала, пайшла да хлява, адчыніла там вароты, ухапілася рукамі за вяроўчыну, вывалакла свінку ў двор, падняла з зямлі дубец, сцебанула ім свінку, пагнала яе з двара

Сонца ўсе дні паліла спраўна, дождж ні разу не пырснуў, і мы — Вуліч, Люба, я — пайшлі павярнуць траву У абед павярнулі, праз пару гадзін яшчэ паварушылі, але скласці сена ў капіцы не паспелі — звечарэла, выпала раса Назаўтра пад поўдзень зноў пайшлі на балацявіну, паставілі капіцы і нават адзін ладны стажок — на даўні, счарнелы сценжар, з якога, калі Вуліч яго крыху падчапіў, выпаўзлі вужакі Сценжар, можа, яшчэ з часоў Рэчы Паспалітай або з "тых Саветаў" Але вужакі, напэўна ж, былі ўжо хрушчоўскія — шыпелі ды не кусаліся

Вуліч, калі мы кончылі з сенам ды йшлі з ім удвух да будана, сказаў·

— Аксана ад душы смяялася? Гэтым яна хацела сказаць незнаёмцу· во якія мы тут адкрытыя, няма чаго таіцца — таму і смяёмся ў адкрытую, ад душы . А потым яна стала сама сабой — сумнай, здзеклівай Ну, а Казлючыха — тая ўжо нікога не баіцца, старая,





хіба што асцярожнічае з-за ўнучкі. Хочаш застацца ў будане на суткі? Так і быць. Што з табой зробіш. Есці ў будане табе будзе што...

Вуліч з Любай пайшлі на свой хутар, расталі ў балотнай надвячоркавай імжы

***

Была ціхая раніца Птушкі падалі зверху ўніз, з галінкі на галінку, па-ранішняму бадзёра ціўкалі, на дзюбках у іх яшчэ стаяла раса. На падыходзе да Гары, скрозь рэдкае кустоўе, яснелася невялічкая палянка Адтуль я пачуў шорганне касы Я сышоў са сцежкі, развінуў вецце, раса ўпала мне на твар і на рукі На тым баку палянкі касіла Аксана. Падзьмуў ветрык, светлая квятастая спаднічка ўстрапянулася на дзеўчыных нагах, загарнулася ў яе між каленяў Аксана ўдарала рукой у падол спадніцы, нейкая птушка пада мной запела. Аксана паставіла касу, трымала кассё плячом, прыслухалася — птушка спявала ўжо бліжэй да яе Я апусціў галінку алешыны, ступіў крок назад, Аксана нешта пачула, птушка сціхла, дзяўчына аглядзелася вакол, яшчэ раз ударыла рукой у падол — бо вецер крапчэй падзьмуў на яе Аксана ўзняла руку далонню над вачыма, бо сонца свяціла ў твар Вялікія вочы яе былі шырока раскрытыя Я ведаў, што яны ў яе блакітныя. Вецер збоку кінуў светлыя, амаль жоўтыя, косы ёй на плячо Яна стаяла прада мной і не бачыла мяне "Так нядобра", — сказаў я сабе і рашуча выйшаў з-за алешыны на палянку

Аксана не кранулася з месца, не зварухнулася, быццам нават ніколькі не здзівілася, толькі апусціла руку з-над вачэй Я падышоў да яе, узяў касу ў рукі, сказаў·

— Аксана, вы, калі ласка, пасядзіце вунь на тым пні

Яна паціснула плячамі, усміхнулася, але ўсміхнулася ветліва, не здзекліва, як тады ў сваёй хаце, моўчкі пайшла на край палянкі, села на стары шырокі пень, шчыльна паставіла ногі, нацягнуўшы на іх, колькі можна, спадніцу, глядзела спадылба ў мой бок.

"А мы ж і павітацца забыліся, — успомніў я — Каб жа хоць прыгожа, шырока, захопна зрабіць першы кос..." Ды як на тое першы замах мой быў няўдалы — дзюбка касы ўтыркнулася ў карэнне травы На лбе выступіў пот Я азірнуўся на Аксану· яна нягучна смяялася сабе ў далонь. Потым адняла далонь ад вуснаў — і смяялася ўжо звонка, залівіста, ажно вочы заплюшчыла, нават галаў крыху адкінула назад, але й сціхла раптоўна, выцерла вочы рукой Ды касіў я далей спраўна — па-ранішняму ахвотна і вольна, я й кашулю скінуў на ўкос. Аксана ўзяла кашулю, павесіла на куст — а то, сказала яна, вужакі завернуцца кашуляй

— Ага, — сказаў я, — вужакі — народ хітры, як тыя змеі падкалодныя

— Так, так, — сказала Аксана і села зноў на пень.

Хутка ўся палянка была выкашана, я ўбіў кассё ў зямлю і стаяў у канцы апошняга пракоса Аксана сядзела па той бок палянкі Яна ўстала з пня, прайшла краем палянкі, спынілася ў пачатку майго апошняга пракоса. Мы стаялі насупраць адно аднаго Нам не заставалася нічога іншага, як пайсці насустрач Але Аксане было лягчэй гэта зрабіць. яна трымала ў руцэ маю кашулю, і гэтую кашулю трэба ж было мне падаць. А я? Не панясу ж я касу насустрач жанчыне Але трэба ісці — і я пайшоў

Мы сустрэліся пасярэдзіне пракоса. Аксана, мусіць, забылася, што ў яе ў руцэ мая кашуля, потым успомніла, працягнула яе мне, і я не ведаў, што мне з ёй рабіць — надзяваць? І я перакінуў яе цераз плячо

— Дзякуй за сіно, — сказала Аксана — Заходьтэ, як будэтэ мандріваты біля Горы

— Баюся вашае бабулі

— Ні, вона добра Вона добра, моя бабуся

Дзяўчына, нарэшце, успомніла, што ў яе блузцы — глыбокі выраз на грудзях, і мітусліва прыкрыла яго далонню

— Ну, я пійшла.

— Пачакайце, Аксана. Я вас правяду да вашае Гары

— Ні А як вас зваты?

— Мікола.

— Ні, Мыкола Мэні якось. нэўдобно І шчо люды скажуть?

— А якія ж тут людзі? Вакол — нікога.

Яна ўсміхнулася і сказала, што птушкі ўсё бачаць і ўсё чуюць — то яны і разнясуць. Я сказаў· птушкі ж толькі спяваюць. Яна то песняй і раскажуць. Я: вы, Аксана, зараз так гаворыце — як песню спяваеце Яна: ну, што вы! Проста тут у нас такая цішыня, так тут хараша на нашай Гары таму, можа, і гаворыцца не так, як там, у вашых гарадах і сёлах. я неяк летась была заехала ў ваш Пінск — божа! Што там робіцца! Ля вакзала людзі душацца, п'яныя хлопцы лаюцца, прыстаюць, міліцыя быццам не бачыць іх, півам кіслым ля бочкі смярдзіць, у гарадскі аўтобус людзі як напхнуліся — адзін на аднаго, дзядок з кійком і ўпаў, а яны па ім у аўтобус лезуць, нехта грошы з кішэні ўкраў Потым была ўпершыню ў нашым Луцку — тое самае і зараклася болей нікуды не паеду, нам з бабуляй тут гэтак хараша каб толькі ніхто не трывожыў. здаецца, толькі б і слухала тут птушку ды пчалу, ды дождж, што ў лісці шапоча ну, хай, можа, над Гарой загрыміць гром, бліснe маланка, а калі і снегам хату замяце але ж як вясною снег ручайкамі з гары сплывае. Вы ўсяго гэтага не бачыце, не чуеце

Я не, чаму ж — і бачыў, і чуў. . толькі далёка адсюль і даўно, так даўно, што ўжо і напаўзабылася нешта.

Яна а трэба ж помніць.

Я: здаецца, тут, сярод вашых лясоў, кустоў, балотаў, травы і вады я пачынаю ўспамінаць. праўда, сярод такога ж і на нашым, беларускім, Палессі . але тут, можа, крыху іначай тут таксама Палессе, але ж — Валынскае, і паветра — Валынскае .

Яна то ж паветра — адно

Я так, канешне, і ўсё-ткі

Яна. ой, нешта я застаялася з вамі, бабуся занепакоіцца, "бувайтэ"

Я: бывайце, Аксана Да сустрэчы, Аксана?

Яна ой, я й не ведаю нават .

Мы разышліся яна — пракосам на той бок палянкі, я — тым жа пракосам на свой край Аднак сышлі мы на адну і тую ж сцежку, толькі Аксана — на сваю Гару, я — на Вулічаў будан Падумалася. Гара — яе, будан — Вулічаў, у мяне ж — нічога тут свайго І самотна стала на душы Але калі я ішоў і ішоў гэтай сцежкай, рабілася мне ўсё святлей і лягчэй

***

Праз два дні я прыбег на палянку — хацелася зрабіць так: павярнуць, паварушыць дый занесці бярэмцамі тое сена на Казлючышыну Гару Але палянка была пустая ўжо. Тады я абышоў наваколле Гары і ўбачыў· сям-там, на грудках сярод балотцаў, і на палянках між кустоўя стаяць нізкія капічкі — ужо ладна аселыя

Я стаяў ля крушыны, понізу запозненым белым кветам цвілі кусцікі ажыны, ля шырокага струхнелага пня варушыўся высокі мурашнік, ад яго, між травы, шарэлі на зямлі голыя сцежачкі — на іх мітусіліся мурашкі, за адной я стаў сачыць. мурашка ўпарта штурхала сваіх суродзічаў і бегла, бегла сцежачкай у бок Гары На ажынавы квет упала зверху пчала, закапашылася ў пялёстках, загудзела, скокнула ўверх — паляцела на Гару, да ліпы. Я паглядзеў туды — на ліпу, на калодзежны журавель — і ўбачыў· па схіле, да пуні, ідуць дзве жанчыны і валакуць на спінах дзяружкі з сенам Яны скінулі ношкі ля варотаў пуні, стаялі, аддыхваліся, Казлючыха рукавом выцірала пот з твару, Аксана падняла высока прыпол спадніцы, нахіліла галаў, крыху сагнулася ў паясніцы і выцірала пад вачамі. Раптам яна таропка апусціла прыпол на калені, выпрасталася, паглядзела ў мой бок, але хутка супакоілася — нікога там, куды глядзела, не ўбачыўшы, — зноў нахілілася долу, нешта страсаючы рукой з нагі — мусіць, мурашку Можа, тую, маю, за якой я сачыў? Але ж тая мурашка яшчэ не павінна б ускараскацца на Гару? — А можа й паспела. Аксана падняла руку да вачэй і з-пад далоні — бо сонца ў вочы — глядзіць зноў у мой бок. І раптам мне прымроілася быццам то не Аксана ўжо, а — Алеся, толькі валасы пабяліла, каб не знайшлі, не пазналі яе тыя ачмурэлыя перабродцы, што білі, здзекаваліся з яе ля царквы. Дык во куды, — трызнілася мне, — уцяклі даўно-даўно Мануйліха з Алесяй

Але яна не ўбачыла мяне — можа, з-за крушыны, а можа, з-за сонца Тады я рашуча пайшоў на Гару, стаў перад жанчынамі Ад маёй рашучасці і гэткай для іх нечаканасці яны быццам спалохаліся — таму першыя сказалі "Добрій дэнь", а я амаль крыкнуў·

— Дзе ваш сахор?





Аксана пайшла да пуні, узяла там — стаяў ля сцяны — сахор, падала мне

З сахаром на плячы я збег з Гары, ля кустоўя сцежкай выйшаў на балота Яно даўно ўжо было сухое, купіны не хісталіся, калі я праз адну-дзве ступаў на іх, жабы скакалі ў бакі, бусел з-за капіцы паказаў чырвоную дзюбу, падскочыў, узмахнуў крыламі, узляцеў нізка над балотам, зноў апусціўся на купіны за самай далёкай крайняй капіцай І я пайшоў туды Бусел махнуў на мяне крыламі і паляцеў далей Я ўдарыў сахаром па вяршку капіцы, націснуў на канец сахарышча, павярнуў ім туды-сюды, пацягнуў ладны пласт сена на сябе, натужыўся, закінуў сахор з сенам за плячо на спіну і пайшоў між купін Казлючыха і Аксана клалі сена на расцеленыя дзяружкі, адступіліся, даючы мне дарогу, неяк добра глянулі мне ў вочы, нічога не сказалі.

Я знізу падчапіў нагою вароты пуні, адчыніў іх, пераступіў праз дубовае палена і кінуў сена ў цёмны кут Гэтак я хадзіў з Гары і на Гару, кідаў сена ў пуню, таптаў яго там нагамі Казлючыха з Аксанай насілі яго дзяружкамі Яны, я бачыў, ужо стаміліся Нарэшце ўсе капіцы былі знесены на Гару Казлючыха сказала. яна пойдзе ў хату гатаваць вячэру Аксана раптам пляснула ў далоні, засмяялася· ой, гэта ж трэба — на самую блізкую і маленечкую капічку і забыліся

Мы сышлі з ёй з Гары, яна расхінала рукамі вецце алешніку і асцярожна трымала яго — каб яно, выпушчанае з рукі, не ўдарыла мне па твары, я браў тое вецце з яе рукі, і, нарэшце, нашыя рукі сустрэліся, сашчапіліся Аксана стала, павярнулася да мяне, здзіўлена паглядзела на сашчэпленыя нашыя рукі Я ціха прыцягнуў яе да сябе — яна не супраціўлялася, набліжалася да мяне ўсёй сабою вачамі, целам, губамі, — і ўжо калі адчуў цёплае яе дыханне, пачуў трапятанне гарачых губ, яна шапнула. не трэба, не трэба, прашу, не трэба .

***

На дварэ даўно ўжо было цёмна, мы сядзелі за сталом у хаце, лямпа пад столлю свяціла слаба — і гэта было добра, было неяк утульней, быццам пацішэла і паўтульнела на ўсім свеце На стале было поўна яды Казлючыха паставіла на стол бутэльку віна, сказала, што гэта — сваё, з ажыны, наліла мне поўную чарку, Аксане і сабе — патрошку на дно Аксана сядзела насупраць мяне, глядзела перад сабой у белы палатняны абрус, локцем абаперлася на стол, далонню прыкрыла вочы, другую руку палажыла на чырвоную кветку, што была вышыта на абрусе, за ўсю вячэру не сказала ні слова Хацелася маўчаць і мне, бо было так добра, так светла і па-шчасліваму ўстрывожана на душы, як ніколі яшчэ ў маім жыцці Але трэба было падняць чаркі, нешта сказаць старой, калі тая падзякавала за дапамогу, — і я сказаў· "Няма за што, Ганна Маркаўна", — і трэба было сустрэцца чаркамі над сталом Калі мая і Аксаніна чаркі празвінелі, ціха празвінелі, яна, Аксана, імгненна і трывожна глянула мне ў вочы з-пад далоні, вейкі яе ціха ўздрыгнулі, апусціліся, яна выпіла сваё віно, паставіла чарку на абрус і на нейкі момант забылася адняць руку ад чаркі, нават прыўзняла яе крыху, ціха стукнула дном па стале Казлючыха здзіўлена глянула на Аксану, на яе рукі, кінула позірк збоку на мяне Я ўзяў на відэлец цёплую аладку, закусіў Закусіла й старая Аксана не дакранулася да яды Казлючыха наліла мне зноў поўную чарку, кропнула на дно ў Аксаніну, але Аксана рашуча нахіліла горлачка бутэлькі ў бабінай руцэ і наліла сабе поўную і адразу выпіла, палажыла чарку бокам на абрус. Казлючыха яшчэ больш здзіўлена, чым раней, паглядзела на Аксану, а потым спадылба і зноў збоку і даўжэй паглядзела на мяне, нічога не сказала і наліла сабе — таксама поўную чарку, махнула рукой убок — невядома на каго, і мы выпілі, да дна.

Потым Казлючыха разгаварылася — пра тое, як добра сёлета сохла сена, як добра ўладкаваліся з ім, адна бяда — той каларадскі жук на бульбе, але добра, што ляснік і абараў іхнюю бульбу, і даў нейкае атруты на таго жука, казала, што вось паспелі ў лесе чарніцы і што трэба паклікаць лесніка, каб паглядзеў мёд у вулеі, і што вось-вось пойдуць дажджы — чуюць яе ногі Распытвала ў мяне пра маю школу, ці хочуць вучыцца ў нас дзеці, ці чытаюць нашыя дзеці кніжкі . Аксана глядзела на мяне з-пад далоні — глядзела не вачамі, а слязьмі з вачэй І я зразумеў· большага, чым было сёння, шчасця ў нас не будзе, большага шчасця ніколі не будзе

Я глянуў у акно У дварэ, з цемры на кволае святло з хаты, лёгка, амаль не дакранаючыся нагамі да зямлі, наплываў прывід – дзяўчына з доўгімі цёмнымі косамі, у белай сукенцы, яна стала перад акном, перакінула рукой косы з грудзей за плячо, сумна ўсміхнулася і прашаптала — але не мне, а некаму, паўз мяне ці паверх мяне “Сегодня наш день, и никто у нас его не отнимет ..” Я яшчэ раз глянуў у акно — але прывід знік...

“. будешь обо мне думать... легко и радостно. ”

З трызнення вывела мяне Казлючыха — яна казала. што вы за беларусы такія — не можаце самі абараніць свайго Быкава? То ў Маскве за яго заступяцца, то ў валынскіх балотах. а самі не можаце

Аксана ўстала з услончыка, пайшла ў змрок хаты да акна, перакінула рукой светлыя косы з грудзей за плячо, стаяла там, глядзела ў цёмны двор . Як мне хацелася, як хацелася падысці да яе, абняць за плечы, патануць тварам у той светлай хвалі!

Я сказаў Казлючысе (голас мой, я гэта ведаў, быў усхваляваны)

— Ганна Маркаўна, а свайго Сасюру тут у вас абаранілі? А свайго Сіманенку тут у вас уратавалі?

Старая маўчала, мне падалося, нават доўга маўчала Я падняўся з-за стала, падзякаваў за вячэру і сказаў, што ўжо трэба ісці Аксана ў змроку, ля акна, азірнулася на мяне — у вачах бліснулі слёзы

Яна выйшла за мной у сенцы Казлючыха сказала з-за дзвярэй

— Оксана! Іды ў хату!

Мы сустрэліся дыханнем — коратка, глыбока. Яна палажыла мне рукі на плечы і — блізка, горача — прашаптала-выдыхнула.

— Іды

— Оксана! — зноў паклікала Казлючыха з хаты і бразнула клямкай

Я выйшаў на ганак, зачыніў за сабой дзверы, ступіў у цёмны двор Але дзверы сенцаў за мной расчыніліся насцеж, і Казлючыха гукнула мяне, я спыніўся на сцежцы пад ліпай, старая падышла, узяла маю руку, сціснула яе ў сваіх сухіх руках і сказала дужа прашу вас не прыходзьце болей да нас, “выбачайтэ”, але не прыходзьце болей, прашу вас, “бувайтэ, добрій чоловічэ”

Я пайшоў да веснічак, зашчапіў іх за сабой і пабег з Гары ўніз па сцежцы Сцежка крыху віднелася пад чыстым месяцам. Ля кустоўя азірнуўся на Гару, і ў тое ж імгненне святло ў хаце патухла.

***

Яснай, сцішанай раніцай я прыйшоў з будана на Вулічаў двор, сеў на лаўку пад грушай і ўбачыў перад варотцамі ў двор стаіць чорны матацыкл, і пачуў Вуліч у хаце гучна некаму нешта даказваў Раптам дзверы сенцаў з грукатам расчыніліся, Вуліч трымаўся за клямку, ён быў узбуджаны, па-цыганску раскудлачаны і некаму сказаў

— Вон адсюль!

З сенцаў на ганак ступіў і важна сышоў у двор мажны, шыракаплечы, лысы і кірпаносы чалавек у касцюме, пад гальштукам, лыпнуў на мяне злоснымі вачыма, пальцам паклікаў мяне ісці за ім — што ж, я пайшоў За варотцамі ён азірнуўся на ўскудлачанага Вуліча, завёў матацыкл, насунуў на галаву чырвоны шлем і сказаў мне гучна на вуха — гучна, каб перакрычаць трэск матацыкла

— Я тоже учитель! Но теперь я секретарь партийной организации! Здесь! Секретарь! И нам . мне стало известно, что вы, как гость Вулича, стали частым гостем и в доме Козлюк Анны Марковны! Не советую, коллега! Не советую! Счастливой дороги домой!

Сакратар сеў на матацыкл Я сказаў яму Ён не пачуў з-за трэску матацыкла, прыўзняў шлем над вухам, і я ў тое вуха паўтарыў

— Хай жыве дружба паміж савецкімі народамі!

Сакратар згодна кіўнуў галавой, паддаў газу — чамусьці няўпэўнена адштурхнуўся нагой ад зямлі .

Водпуск мой канчаўся, я пакінуў гасцінны хутар, паехаў, уладкаваўся на працу ў “глыбі Палесся” (“палескай глушы” ўжо даўно няма), на Піншчыне, наняў кватэру — пакойчык — у хаце ў канцы вуліцы, якая цягнулася па доўгай выспе і амаль упіралася ў бераг Прыпяці, другім канцом вуліца сыходзіла ў балота — неабсяжнае, парослае кустоўем, бярозкамі і хвойкамі Непадалёк акна гнуліся пад ветрам кусты лазы, а пад самым акном рыпела ўдзень і ўноч старая крывая вярба. Яшчэ стаяў жнівень, было цёпла, я расчыніў акно насцеж, і ў пакой з Прыпяці наплываў пах руды — з баржаў, якія павольна-цяжка цягнулі за сабой катэры, — лёгка пралятали белыя “Стрэлы”, за дзвярмі або ў дварэ гучна гаварылі мае састарэлыя гаспадар і гаспадыня

Я падоўгу стаяў ля расчыненага акна або на белай выспачцы на беразе ракі Прыпяць тут, як нідзе вышэй і ніжэй, была неспакойная, пагойдвалася разам, здавалася, з берагамі, бо зусім блізка ў яе ўліваўся шматводны Стаход. Хвалі яго з недалёкай Валыні трывожылі мяне, мне хацелася адвярнуцца ад іх, пайсці назад у хату, зачыніцца ў ёй наглуха. Вада тая ішла з боку Гары .. Я ступаў па белым, сыпучым пяску з берага, апускаў далоні ў ваду яна ўжо халадала..

Што ж рабіць, мілая, што рабіць?

Аднак дні яшчэ былі цёплыя, у канцы верасня лазняк на беразе Прыпяці спавіўся белым павуціннем, бабіна лета Шматкі павуціны то падымаліся ўгору і стаялі ў паветры, то падалі на сінюю, хвалістую плынь ракі У такія дні вёска высыпала на соткі па загуменнях ці па выспах сярод балотаў — капаць бульбу І як толькі людзі і калгас выкапалі бульбу, звезлі з палеткаў сцірты саломы, а з балотаў — сена, тады неяк адразу, аднойчы з самае раніцы, ваколіцы былі ўзарваны грукатам бульдозераў, экскаватараў Пачалася крамлёўска-хрушчоўская асушка Палесся, вялікая асушка стагоддзя Дырэктар школы на педсавеце паставіў перад настаўнікамі задачу кожны з нас на сваім уроку павінен дапамагаць асушцы — выхоўваць у вучняў пачуццё гонару за палітыку партыі ў сельскай гаспадарцы, у сацыялістычным пераўтварэнні Палесся. Біёлагу, географу, хіміку тут лягчэй А моваведу? Аказваецца — вельмі проста пішы на дошцы сказы пра асушку, чытай на ўроку з раённай газеты вершы пра асушку Сачыненні на вольную тэму — пра асушэнне

І я павёў свой пяты клас на экскурсію — за вёску, на балота. Стаім, глядзім бульдозер угрызаецца цяжкім вострым нажом пад карэнне кустоў і дрэўцаў, напружваецца, агрызаецца дзікім зверам, уздрыгвае і прэ перад сабой чорную зямлю з вырванымі кустамі і дрэўцамі — уперад, у высокі валок. Тое самае робіць побач другі бульдозер, трэці Потым бульдозеры разраўноўваюць чорную глебу. А ўпоперак на ўчастку, з боку, ужо ўгрызаецца ў зямлю зубатым каўшом экскаватар — капае канаву, разам з чорнай, тарфяністай зямлёй дастае з глыбіняў белыя пясчаныя слаі Канава хутка, услед за каўшом, набрыньвае, напаўняецца чорнай вадой Тая вада канавай сплыве ў Прыпяць, у Дняпро, у Чорнае мора

У класе я кажу дзецям на асушаных балотах, як пішацца ў газетах і гаворыцца па радыё, будуць збірацца высокія ўраджаі пшаніцы, бульбы, цукровых буракоў Хлопчык з пярэдняй парты падказвае не будзе вужакаў, жабаў, аваднёў. Другі, з задняй, працягвае і буслоў Трэці супакойвае нічога, буслам і ў Афрыцы меса хопіць. Я маўчу Маўчу таму, што ведаю пра лёс Палесся больш, чым дзеці Я, як і тысячы маіх суайчыннікаў, ведаю, чым кончыцца жалезная грызня чалавека з прыродай

Але найбольш тады мяне трывожыла адно як там Гара? Як там ёй сярод сваіх балотаў? І што там, што там будзе?

Дырэктар школы, добры стары чалавек, пусціў мяне з работы на восеньскіх вакацыях, і я дзе пяшком, дзе аўтобусам, дзе спадарожнай машынай хутка, як ашалелы, — праз Пінск, Янаў, Любяшоў — дабраўся на Вулічаў хутар Я звярнуў з дарогі на сцежку, на Вулічаў двор Хата была замкнутая Я сеў за стол пад грушай. Зямля вакол дрэва была ўсыпана счарнелымі гнілушкамі, жоўтым лісцем — і вакол пахла ціхай позняй восенню У хляве замыкала цяля Вогненна-чырвоны певень прыйшоў пад грушу, стаў, кінуў набок грэбень і паглядзеў на мяне

Я выйшаў з двара на дарожку праз лес. Дрэвы, кусты, паніклая долу жоўтая трава былі ціхія Восень задумалася перад сваім вечарам Але недзе далекавата, як у небе, натужна, з прыдыхам, раўлі маторы Гэта мяне насцярожыла, бо штосьці падобнае я ўжо чуў З лесу выйшаў да балота, і тут наляцеў вецер — з пахам тарфяніку, застоенай балотнай вады, прэлага альховага лісця Вецер наблізіў роў матораў, бо наляцеў ён адтуль, з таго боку

Там, дзесьці над нябачнай Гарой, стаяў высока чорны пыл — як чорнае воблака, і там

раўлі маторы. У Вулічавым будане я крыху перавёў дых. Сядзеў на абярэмку сена, і прадчуванне нядобрага халадзіла мяне Каму я цяпер там, на Гары, скажу тыя словы, якія трымаў у душы ўжо столькі часу? Гэтыя словы "Аксана, паедзем да мяне"

Маю сцежку перарвала свежая канава Праз яе хтосьці паклаў жэрдкі, і я ступіў на іх, прайшоў, раскінуўшы рукі, на той бок, выскачыў на топкае тарфянішча. Перад Гарой — града ссунутага балота з перавернутымі на ёй і па баках, карэннем уверх, кустамі і дрэўцамі ..

Узышоў на Гару — да хаты да ліпы — па счарнелай, падгнілай траве Падзьмуў вецер, шост — без вядра — хіснуўся над калодзежам З ліпы паляцела на мяне, пад ногі, зжаўцелае, запыленае лісце — апошняе. Веснічкі ляжалі пад плотам

За Гарой, перад чорным валам, стаялі два бульдозеры, а крыху воддаль ад іх — экскаватар з апушчаным долу каўшом Меліяратары сядзелі на бервяне ля пуні, абедалі, ля іх ног стаяла бутэлька Хлопцы ўбачылі мяне — чалавека ў новым асеннім паліце, пад гальштукам — адзін з іх заткнуў бутэльку за пояс, яны наспех закусілі, выцерлі губы рукавамі куфаек, усталі, пашлі да сваіх машын Зноў падзьмуў моцны вецер, ад тарфянішча чорны пыл падняўся ўверх, насунуўся на Гару і, калі вецер адразу сціх, апаў на ліпу, на хату, на калодзеж, на мяне

На дзвярах хаты вісеў замок. Акно, якое ад дзвярэй, было разбітае Я зазірнуў у хату· там было пуста, толькі стары ўслончык, на якім некалі, у той вечар, сядзела за сталом Аксана, стаяў у кутку ля печы Я доўга стаяў ля разбітага акна і раптам пачуў спіной нехта падышоў да мяне Азірнуўся — зусім малады хлопец, высокі, чарнавусы, павітаўся са мной Ён быў адзін з тых, што сядзелі на бервяне ля пуні Хлопец сказаў, што бацька яго — ляснік, той, які дапамагаў Казлючысе, што бацька купіў гэтую хату на хлеў, што Ганна Маркаўна і Аксана рана выкапалі сваю бульбу, лясніцтва дало ім машыну з прычэпам, і яны з усім сваім дабром з'ехалі адсюль "дэсь під Львів" — да Казлючышынай стрыечнай сястры І сказаў яшчэ хлопец, што Вулічава жонка ўчора нарадзіла сына — то, мабыць, Вуліч паехаў у Любяшоў, у раддом .

Мы развіталіся з хлопцам, і ён пайшоў з Гары да свайго бульдозера.

Я ўзышоў на ганак і доўга трымаў у руцэ халодны, цяжкі замок. І раптам убачыў· высока, у куточку, у шчыліне між дзвярмі і вушаком, ледзьве прыкметна тырчыць белы акраек паперы Я дастаў яе, разгарнуў Прыгожым почыркам, чырвоным стрыжнем было напісана па-ўкраінску· "Прійшов шчэ раз? Все життя буду пом`ятаті тебе світло"

На Гары ўжо густа звечарэла Даўно сціхлі маторы Сашчапіўшы далонямі скроні, я сядзеў на ганку Лісце падала на мяне, на зямлю на Аксану Яна аднекуль, апранутая па-летняму — у сарафане — басанож ішла ад упалых веснічак, ішла лёгка, ледзь кранаючыся голымі нагамі халоднай зямлі — быццам не ішла, а плыла, але не да мяне — плыла ў цемры да ганка, і мілыя рукі лавілі белыя косы на грудзях, адкідваючы іх за плячо Я расплюшчыў вочы — Аксана знікла.

Яшчэ доўга сядзеў я на ганку, сашчапіўшы далонямі скроні І нехта палажыў мне руку на плячо і ціха сказаў·

— Господин Купреев! Уже сто лет я ищу ушедшую от людей и от меня Олесю, ушедшую неизвестно куда Пойдемте в мои Переброды Это не очень далеко от Горы, на меже с вашей Пинщиной Я покажу вам окаменевшее бревнышко от хатки в глухом, среди болот, Ириновском лесу

— Аляксандр Іванавіч! А вы ўпэўненыя — тыя вашыя балоты яшчэ жывуць?

— Господин Купреев! — Куприн сціснуў мне плячо — Но мы-то с вами живем?

— На жаль, Аляксандр Іванавіч, пакуль яшчэ жывём І, на жаль, кароткае і светлае імгненне жыве

— Ну, почему же — "на жаль"? В Москве я плакал не оттого, что вернулся из Парижа домой, и не оттого, что меня приветствовала красная кавалерия, а оттого плакал, что вспомнил Олесю в глухом Ириновском лесу Давайте выпьем.

Я расплюшчыў вочы. яго нідзе не было На Гары — ціха, цёмна, ветрана

*6 сакавіка — 6 красавіка 1996 г*

*Вярховічы*



# Зміцер ЦЕХАНОВІЧ

**Я маю твор...**



## СПАКУСА

Ты рэжаш яблык
Усалодкім соку
ўмываецца халоднае лязо
Табе так хочацца той сок
злізнуць з ляза.
Ды толькі гастрыня нажа,
бы тая згубная мяжа,
якую сочыць
ваўкавата
вока

ТЫ

# Раіса БАРАВІКОВА

*На Беларусі ціха плачуць кані,*
*Гудуць над канюшынаю чмялі.*
*Паслухайце, якая з мяне пані,*
*Напэўна, не за тую прынялі...*

*.Прабач, прабач, гасцінная краіна,*
*Прывольна і ў тваіх палях чмялю.*
*Ды толькі я вясноваю калінай*
*Глыбока урасла ў сваю зямлю!*

## ВЕРШЫ







*З Табою:*

# З Раісай Баравіковай гутараць супрацоўнікі часопіса “Крыніца”

**— Многія сёння пішуць ледзь не са страху: абы нешта напісаць, надрукавацца, абазначыць сваю прысутнасць. Каб не забыліся, што ты ёсць, кукарэкаеш, бярэш удзел у працэсе. Для Баравіковай абазначэнне прысутнасці нечага вартае, ці староннее вока тут гэтак жа без неабходнасці, як у інтымных адносінах?** *(Някляеў )*

— Нават не ведаю, як падступіцца да адказу, з чаго пачаць? Прысутнічаць у літаратуры можна адным вершам, нават страфою, і адсутнічаць можна, маючы вялікую кніжку вершаў Да “прысутнасці” ў так званым працэсе, напэўна, прывучалі мінулыя дзесяцігоддзі. Калі на розных літаратурных пленумах рабіліся даклады, у якіх ішоў бясконцы пералік “абоймаў”, зала заціхала: назавуць — не назавуць?! Ішла нейкая “рассарціроўка” У мяне ёсць сяброўка, мастачка Ірына Кузняцова. Колькі яе помню, яна ўсё пісала вершы, праўда, на рускай мове. Ніколі нідзе не друкавалася і не імкнулася да гэтага. Але вось нашым часам прадала некалькі сваіх карцін і за свой кошт выдала томік вершаў І ні пра які літаратурны працэс яна не думае, ні пра якую прысутнасць. Гэта ўсё вельмі асабістае. Паэт з пэўным літаратурным вопытам можа ў любы момант сесці і напісаць верш, проста зарыфмаваць нейкую думку Але гэты верш можа не мець ніякага дачынення да паэзіі. У друку шмат такіх вершаў Скажам, рускі пісьменнік Іван Бунін з яго літаратурным вопытам мог бы ўкінуцца ў напісанне доўгіх раманаў і яны “з елі б” Буніна. Ён бы расплыўся ў іх. Калі паэт пачынае думаць пра сваю абавязковую прысутнасць і ўкручваецца ў графаманію — бясконцае напісанне вершаў, гэта пачатак адсутнасці. Па вялікаму рахунку прысутнасць кожнага з нас вызначыць толькі будучыня. Калі мне не пішацца, я не пішу Пісаць вершы “на тэму” не ўмею. Але я вельмі добра ведаю, пры якім стане душы ў мяне пішуцца вершы І часам гэтым карыстаюся. Мне абавязкова трэба быць трошкі закаханай, і я прыдумваю сабе куміра, укручваюся ў фантазію пачуццяў І ўжо пасля двух-трох вершаў гэты “кумір” для мяне можа нічога не значыць. Мне трэба мець нейкую салодкую тугу па нечым нязбытным. Не ведаю, як будзе далей, але пакуль я не адчуваю свайго

# РАІСА БАРАВІКОВА ЯК СЕКС-СІМВАЛ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

**Іншы раз здаецца, што чалавек дваццатага стагоддзя комплексуе з нагоды сваёй аднавіднасці: чалавек разумны — і ўсё. Незалежна ад колеру скуры і краніяцэфальнага паказчыка, мы аднолькава нараджаемся, дыхаем і кахаем, хоць з апошнім сцвярджэннем рамантычная частка чалавецтва відавочна не пагодзіцца.**

**Нерамантычны рускі філосаф пачатку XX ст. В. Розанаў выдаў цікавую кнігу “Людзі месяцавага святла: метафізіка хрысціянства”, дзе спрабаваў давесці, што мы не толькі кахаем па-рознаму, але і ўвогуле адрозніваемся адзін ад аднаго па гэтай прыкмеце — здольнасці кахаць.**

**Праца нездарма носіць падзагаловак “Метафізіка хрысціянства”: у сваёй кнізе В. Розанаў пераканаўча гаворыць аб тым, што сексуальнасць і рэлігійнасць — два бакі аднаго медаля, і з`яднаны як касмалагічнароднаснае, метафізічнатоеснае. У аснову класіфікацыі філосаф паклаў звесткі аб старажытных культах Месяца і Сонца, увасобіўшы ў гэтых**

ўзросту, думаю, што для паэта гэта важна. Праўда, наступную сваю кніжку хачу назваць "Ружы апошніх пацалункаў" Магчыма, яна завершыць мой паэтычны творчы шлях. Усё часцей хочацца зазіраць у суседнія жанры.

**— Спадарыня Раіса, вы заўсёды лагодна ўсміхаецеся і заўсёды нешта прыемнае гаворыце кожнаму свайму субяседніку. Вы любіце хваліць людзей. Шчырасць, разуменне, спагада вам уласцівыя гэтак жа, як, скажам, высакародныя фантазіі паэзіі. Упэўнены: злой вы не бываеце ніколі. Але таксама ўпэўнены, што неаднойчы вы былі заложніцай сваёй дабрыні: ваша дабрыня вас мучыла, і ці здараліся хвіліны, калі вы праклінałі свой залаты характар?** *(Дранько-Майсюк.)*

— Прыемны камплімент наконт залатога характару, які я ніколі не праклінала. Характар ёсць характар. Ён у мяне ад бацькі. У мамы іншы склад душы. Злавацца на свет, на людзей асаблівых падстаў не было. І, што да злосці, гэта праўда: не ўмею быць злой. Прырода чамусьці не дала мне гэтага пачуцця, што называецца, абдзяліла. Нават, бывае, калі закіплю эмацыянальна, вельмі хутка адыходжу. Наконт астатняга, напрыклад, усмешлівасці, яна, як нейкая абарона. А ўвогуле, я вялікі фантазёр і гэта мяне неаднойчы падводзіла. Але не расчароўвала. Калі чарговая мая жыццёвая фантазія разбіваецца ўшчэнт, я адразу ж прыдумваю сабе новую. Такім чынам, у любой сітуацыі знаходжу суцяшэнне. І гэта таксама рыса характару Не ведаю, наколькі я добры чалавек, але маю нейкую залішнюю мяккасць і ад гэтага часам пакутую. Ад няўмення сказаць "не" там, дзе трэба. А, увогуле, жыццё мяне зводзіла з харошымі, мудрымі людзьмі. Многаму навучыла бабуля Галена. Дагэтуль помню яе "хай лепш тваё прападзе". Было добрай жыццёвай школай і сяброўства з рускім пісьменнікам Уладзімірам Максімавым. Ён быў чалавек веруючы і часта гаварыў мне: "Усё тваё — вяртаецца да цябе" Рана ці позна. Гэта з Бібліі. Помню, Валодзя прынёс нечы верш, у якім быў радок " .и сердце девочки всерёдке". Сказаў, што гэта пра мяне. Калі б цяпер, у Баравіковай, амаль пяцідзесяцігадовай жанчыны, білася ўсё тое ж "сердце девочки", я была б непамерна шчаслівай жанчынай. Не люблю канфліктных сітуацый. Але было б смешна думаць, што Баравікова, нейкі такі пушысты, вечна ўсмешлівы, прастадушны камячок, "Божы дзьмухавец" Па гараскопу я — Бык, гэтым многае сказана. Кожны творца заўсёды трошкі ігрок, ён не жыве, а творыць. Сябе таксама.

**— У чым рознасць, на вашу думку, і ў чым ідэнтычнасць мужчынскай і жаночай паэзіі? Ці паэзія — гэта той біблейскі гад, які загаворвае і спакушае Еву з'есці яблык, каб яна пасля спакусіла мужчыну? І ў такім выпадку чалавек ужо не творца, а толькі вытворца?** *(Галубовіч.)*

— Я думаю, што такога паняцця, як "жаночая" паэзія, увогуле, не існуе. Яго прыдумалі мужчыны. Ёсць проста паэзія і розныя яе выканаўцы. Ну, хіба мы песню дзелім на мужчынскую і жаночую?! Але было б дзіўна, каб спявачка выйшла і праспявала песню ад мужчынскай асобы. Ну, вядома, яна бярэ той рэпертуар, які адпавядае яе жаночай сутнасці.

Мужчыны ўвогуле дзіўны народ. Скажам, многім з іх я проста забараніла б пісаць вершы. Ім здаецца, што праз паэзію яны вырашаюць нейкія вялікія праблемы, а нярэдка атрымліваецца — кан'юнктура. У мужчыны больш развіта логіка, у жанчыны — інтуіцыя. Таму яна бліжэй да паэзіі. Астатняе, справа майстэрства. А гэта ўжо праца. І тут мужчына фізічна дужэйшы. Але не заўсёды паэзія паддаецца сіле.

А наконт Евы, біблейскага гада і яблыка. Чаму, раптам, узнікла такое пытанне да мяне? Відаць таму, што я пішу любоўную лірыку За даўнім часам, у ранняй маладосці, калі я прыйшла ў творчы семінар Льва Озерава, спрабавала пісаць розныя вершы. Але гэта было нешта мёртвае. Леў Адольфавіч быў вялікі прыхільнік паэзіі Ганны Ахматавай. Але сама Ахматава многае ўзяла ад Шэкспіра, яго санетаў Аднак справа не ў гэтым. Ёсць Сапфо, ёсць Ахматава, чаму б не быць Баравіковай у беларускай паэзіі?

А наконт творцы і вытворцы Апошняга можна навучыць вязаць шкарпэткі, будаваць дом, вырабляць нейкую прадукцыю. Паэзіі навучыць нельга. Яна альбо ёсць, альбо яе няма. Можа, і ад маёй паэзіі нічога не застанецца, але, мне здаецца, што ў любоўнай лірыцы я яе чую. Яна не ў думках, і нават не ў пачуццях, а ў нечым няўлоўным. У нейкім водары слоў Радок павінен быць водарным. Ён трымаецца на нечым невытлумачальным. Пра гэта вельмі дакладна сказаў Блок. Пасля сарака гадоў ён перастаў чуць музыку, — радка, слова. Вось гэтая музыка і ёсць той самы водар.

Цярпець не магу, калі пра паэзію гавораць "грамадзянская", "сацыяльная" і заклікаюць да такой паэзіі. Гэта так проста — азірнуцца назад і пабачыць, што застаецца. Петрарка, Шэкспір, Багдановіч, Цютчаў, Ахматава. Гэта паэты, якія пакінулі адзін-два томікі вершаў А ёсць жа яшчэ і Пушкін, ёсць Купала. Але я, напэўна, адышла ад вашага пытання. І ўсё-ткі наконт біблейскага гада. Не кожны мужчына прыхільнік паэзіі. Жанчына павінна спакушаць мужчыну нечым іншым

**— Каханне — з'ява абсалютная. Кахаць і пісаць пра каханне можна пры любой уладзе (чырвонай, бел-чырвона-белай, чырвона-зялёнай). Ці ўплывае "колер часу" на сутнасць самога кахання і на пісанне вершаў пра каханне? Хто (умоўна) мог бы стаць рыцарам вашай закаханасці з усіх палітычных лідэраў перажытага вамі часу?** *(Разанаў )*

— Хм-м З палітычнымі лідэрамі вельмі складана. У Рэмбранта ёсць палатно "Аўтапартрэт з Саскіяй на каленях" Але Саскія была ягонай юнаю жонкай. Не думаю, што мастак адважыўся б пасадзіць на свае калені каралеву З закаханасцю таксама няпроста. Каб закахацца, з чалавекам трэба хоць бы раз сутыкнуцца. Я ўжо даўно выйшла з узросту школьніцы, якая захапляецца партрэтам любімага актора на паштоўцы. З палітычнымі лідэрамі мяне не зводзіла жыццё. Я заўсёды была па-за палітыкай. Сама па сабе. Але, калі ўмоўна. Ранейшыя ўсе адпадаюць. І не таму, што яны былі камуністамі. У рускіх людзей ёсць прымаўка: "Любовь зла. " Проста сярод іх не было таго тыпу мужчын, які для мяне быў бы прыцягальным. Цяпер у палітыку прыйшло шмат маладых людзей. Многія з іх і прывабныя, і абаяльныя, калі не хлусіць тэлевізар. Не па тэлевізары я толькі бачыла Біла Клінтана, калі ён прыязджаў у час сваёй перадвыбарчай кампаніі ў Чыкага, а я якраз была там Бачыла Зянона Пазняка і Карпенку Хай ніхто не крыўдзіцца, але з гэтых трох да ідэалу майго мужчыны больш набліжаецца Біл Клінтан. У яго я магла б закахацца, чалавек вялікай абаяльнасці. Адна ўсмешка чаго вартая. Увогуле, усё: міміка, рухі, ззянне вачэй, нейкая пастаянная смяшынка ў іх. Паслухаўшы тады яго, я была ў той жа дзень перакананна, што ён стане

**нябесных целах адпаведна духоўны і плоцкі пачатак.**

**Аднак нават без гістарычных экскурсаў аўтара нельга не пагадзіцца з наступным метафізічным вытлумачэннем сімвалаў: "Сонца — шлюб (спарванне), сонца — факт, рэчаіснасць. Месяц — заўсёднае "абяцанне", мара, пакута, чаканне, надзея: нешта зусім супрацьлеглае рэчаіснаму, і вельмі спірытуальнае!" У адпаведнасці з такім вызначэннем увесь род людскі знаходзіцца ў безупыннай вандроўцы ад пяшчотнага, дамавітага, пладавітага, сексуальнага (у Розанава было б "самачнага") Сонца да Месяца, за якім палавое ўтрыманне, аскетызм, духоўнасць, культура.**

**Безумоўна, самай сонечнай паэткай Беларусі была і застаецца дагэтуль Ра-іса Баравікова, імя якой абяцае рай і нагадвае аб старажытнаегіпецкім богу сонца Ра.**

*З будзённасці шэрай, нібыта з туману,*
*Расінкай празрыстай імкнуся да сонца, –*

**так вызначае сябе паэтка ў сваёй першай кнізе "Рамонкавы бераг" (1974), кнізе самай шчырай, адкрытай, сутнаснай. Кнізе, сагрэтай сонечным святлом, выгадаванай ім, выпешчанай, бо вершы Баравіковай гэта не літаратурныя т в о р ы, не плод штучнай разумовасці, не спараджэнне культуры (хоць нельга, вядома, казаць, што вывучка Маскоўскага літінстытута імя Горкага ёй пашкодзіла). Вершы яе — гэта песні, язычніцкія гімны, больш блізкія па сваёй прыродзе да старажытных культаў, чым да сучаснай культуры.**

*З'яўляецца казка, пяшчотай сагрэта,*
*Па-новаму песня струною звініць,*
*сніцца паэту, нібы над планетай*
*Агромністым сонцам сэрца гарыць!*

**"Паэта-планета" — гэта даніна цывілізацыі, даніна шасцідзесятым з іх энтэзраўскай зацыкленасцю, даніна літінстытуцкаму асяроддзю, у якое трапіла дзевятнаццацігадовай дзяўчынкай. А сваё, натуральнае, існае — сонца і сэрца, якія выступаюць у адной звязцы адразу ў некалькіх вершах першага зборніка.**

*Выкраду*
*Сонца у яснага неба!*
*Выкую*
*З промняў гарачых сэрца,*
*Каб грэла маю работу,*
*Поўнілася пяшчотай...*

*А больш мне нічога,*
*Нічога,*
*Нічога*
*Не трэба!*

**Такое разуменне ўласнай прыроды, наканавання ў наступных кнігах паэткі амаль знікне, нават у праграмным адкрыта названым зборніку "Каханне" (1987). Цікава, аднак, што томік выбранага "Пад небам першага спаткання" (1990) адкрывае вельмі паказальны, дэкларатыўны вершык з першай кнігі, дзе ёсць такія радкі:**

*Сяброўкі абсталёўваюць кватэры,*
*я п'ю ў лясах на досвітку расу*
*незалежна, з выглядам гетэры,*
*чыёсьці сэрца ў кошыку нясу.*

**Гетэра... Як тут зноў не ўспомніць В. Розанава з яго аналізам свяшчэннай прастытуцыі старажытнасці, ад якой бяруць пачатак размовы аб "вечнай жаноцкасці". Філосаф упэўнены: "Ёсць і нараджаюцца іншы раз выключныя, рэдкія немаўлятыдзяўчынкі, вось менавіта з гэтаю "вечнай жаноцкасцю" ў сабе, з голасам невытлумачальна глыбокім..." Перапынім**

прэзідэнтам ЗША. Але гэта нерэальна — закахацца ў Біла Клінтана. Дзе я, дзе ён? У мяне вельмі сімпатычны муж, так мне здаецца. Мне з ім добра. А што да паэзіі — гэта справа будучых літаратуразнаўцаў. Калі ім будзе цікава, хай разбіраюцца, каму што я прысвячала.

А што тычыцца "колеру часу", вядома, ён ніяк не ўплывае: ні на сутнасць кахання, ні на пісанне вершаў .

**— Спадарыня Раіса, ці хацелі б вы аднойчы прачнуцца Барбараю Радзівіл і, калі так, то ў які час: пасля каранацыі альбо ў тыя дні, калі вы з Жыгімонтам Аўгустам былі толькі каханкамі?** *(Арлоў.)*

— Не, Барбараю Радзівіл я не хацела б прачнуцца. І толькі таму, што не змагла б пакахаць Жыгімонта Аўгуста. Мяне раздражняў бы яго празмерны тэмперамент А калі б усё-ткі такое здарылася і я прачнулася Барбараю Радзівіл, то няхай бы гэта было напярэдадні сустрэчы з Жыгімонтам, калі ўсё толькі-толькі пачыналася. Для закаханых гэта самая лепшая пара, калі ўсё — адкрыццё і таямніца. Каханне — гэта адкрыццё чалавека, які адпавядае запатрабаванням тваёй душы. І не мужчына, а жанчына, як правіла, заваёўніца. Таму ў яе і адчуванні больш глыбокія: больш пяшчоты, цярплівасці, вернасці. Чым больш асобы ў чалавеку, тым большае і моцнае каханне да яго. Але асобу можна разумець па-рознаму. У кожнага свой падыход, сваё ўяўленне аб ёй.

**— Чым ёсць для вас паэтычная традыцыя? Як вы яе разумееце? Праз якія постаці яна для вас персаналізуецца? Куды, на ваш погляд, скіраваныя яе вектары, у якіх формах, зместах, сэнсах яна будзе рэалізоўвацца на пачатку трэцяга тысячагоддзя?** *(Акудовіч.)*

— Вядома, што ў паэзіі я не эксперыментую. У кожнага паэта ёсць нейкая пэўная "школа" Без "школы" нельга. Самай лепшаю "школай" можа быць толькі класіка. Узоры класічнай паэзіі. Я вельмі люблю Петрарку ў тых перакладах, якія дала руская паэзія. Люблю санеты Шэкспіра ў перакладах Уладзіміра Дубоўкі. Зразумела, Багдановіча, Ахматаву, Цютчава. Вельмі даўно нехта ў "Литературной газете" пісаў, што няма паэта, які б не дыхаў некаму ў патыліцу Але, на маю думку, гэта ўсё не істотна. Ёсць адно: добрыя вершы ці кепскія.

Што да пачатку трэцяга тысячагоддзя. Нават баюся нешта казаць, але, думаю, што вялікіх змен не адбудзецца. Класіка застанецца класікай, да яе дадасца тое-сёе з нашага часу Увогуле, з паэзіяй складана. Надта ж неспрыяльны перыяд у развіцці грамадства. Скажам, калі яно пойдзе капіталістычным шляхам, то на першы план выйдуць тыя віды мастацтва, якія могуць даваць прыбытак: кіно, тэатр. Я міжволі далучаюся да думак тых, хто лічыць, што наша цывілізацыя паскорана ідзе да свайго завяршэння. Выратаваць можа толькі нейкае вялікае навуковае адкрыццё, каб чалавецтва ахнула, страсянулася і абтрэслася, што называецца, раскрыла вочы ў новы свет. Тады будзе вялікі духоўны ўздым. Запатрабуюцца ўсе віды мастацтва. Пакуль жа чалавецтва завісла. Але, калі верыць вучоным, — мы на парозе вялікага адкрыцця, маю на ўвазе новае вымярэнне. А наконт зместаў і сэнсаў? Думаю, што ў паэзіі нічога не трэба прыдумляць. Самая вялікая паэзія ў Біблії, а яна складаецца з такіх простых ісцін.

на момант цытаванне, бо голас Раі Баравіковай — гэта нешта асаблівае, нефізіялагічнае, зыходзячае з душы, характару, непадробны знешні паказчык унутранай сутнасці. Але далей: "Ёсць жа "ўсясветныя педагогі", — ну, у жаданнях, ну — у паэзіі, ёсць "усясветныя воіны", як старажытныя скандынавы, усясветныя думанікі — Сакрат, Спіноза: як жа не быць каму-небудзь і "сусветнаю жонкай", сусветнай як бы "маці", сусветнаю "нявестай".

У гэтай спецыфічнай наканаванасці няма і не можа быць нічога заганнага, бруднага, нездарма ж Розанаў увесь час падкрэслівае слова "свяшчэнная". Святая, а значыць, чыстая, празрыстая, як раса, якая, дарэчы, скрозь у паэзіі Баравіковай. Аднак выпадае ж няшчасце — нарадзіцца ў краіне, дзе "сексу няма і быць не можа", у самыя стэрылізаваныя часы, і стаць аўтарам самай пурытанскай літаратуры сусвету!

У анатацыі да яе выбранага ёсць такі радок-шэдэўр: "Нястрымная страснасць яе ранніх інтымных вершаў у апошні час спалучаецца з унутранай стрыманасцю..." Смешны, чыста саўкоўскі камплімент айчыннай вылегчанай рэдактуры! Аднак тут ёсць доля ісціны. Насуперак прагнозам, яскрава засведчаным у літінстытуцкай эпіграме, якая пачыналася словамі "Боровиковой не грозит богатство, замужество ей тоже не грозит", Раіса Баравікова стала жонкай, маці, гаспадыняй і не рэалізавала цалкам закладзены ў ёй патэнцыял. Мажліва, адсюль нейкая неакрэсленая туга, нота жалю, шкадавання ў лірыцы апошніх гадоў.

*Ніколі не выспее яблык дачасна,*
*за радасцю часта прыходзіць нуда,*
*сказаць не магу, каб была я няшчаснай,*
*ды ўсё-такі... нечага трошкі шкада.*





# ФРАНЦУЗСКАЕ ТАНГА Ў МЕТРО З НЯКЛЯЕВЫМ

**Ужо на нас паставіў нехта крыж,**
**а Музам і не надта трэба рангаў...**
**Нам пазайздросціць мог бы сам Парыж,**
**так спраўна мы ў метро танцуем танга.**

**Заместа стрэл Амур бярэ ядро,**
**"да лямпачкі" даўно яго нам нораў,**
**хай замірае ўражана метро,**
**мы адтанцуем, далібог, няскора...**

**Сваю журбу аддай, Валодзя, мне,**
**а я табе сваёй адважу трохі,**
**па мармуровай коціцца сцяне**
**слязінка ачмурэлае эпохі.**

**Якою прорвай нас адорыць час, —**
**варожыць лёс ці штось прарочыць Ванга.**
**Яшчэ нябёсы не прымаюць нас,**
**і на зямлю не адпускае танга.**

## ***

**Было Еўропы выкраданне,**
**марское пены шум і рык,**

Статус замужняй дамы, узрост прымусілі паэтку звярнуцца да гістарычных асоб, каб іх вуснамі гаварыць аб уласных пачуццях. Колькі страснасці, душэўнага жару ўклала яна ў вобраз Саламеі Русецкай-Пільштыновай — "прарочыцы, распусніцы, вясталкі", па вызначэнні Баравіковай. Міжволі заўважаеш папрок, які кідае ў паэме "Саламея" Пільштын жонцы:

*Калі не для сябе жывеш, – для свету,*
*дык хай суцешыць зараз цябе свет!*

У падтэксце, сугестыўна: ты с у ц я ш а л а свет. Зноў-такі — старадаўняя гетэрнасць, вясталачнасць, святасць. Жыццё Саламеі Русецкай, як, дарэчы, і Барбары Радзівіл, пра якую Р. Баравікова напісала п'есу, з'яўляецца своеасаблівым апокрыфам беларускай культуры. Галоўнае, што яднае Саламею з Барбарай — гэта Вялікае Каханне і містыка (зноў паводле Розанава атрымліваецца), не аддзельныя ад іх больш чым неардынарных лёсаў.

Раіса Баравікова таксама неардынарная — і як паэт, і як асоба. Сённяшняя маладая паэзія перакуліла нашыя ўяўленні аб межах дазволенага. Яны пішуць "Аргазм-паэмы", услаўляюць цяжарных суперменаў, вядуць рэпартажы са скурвендыспансераў. Але вось што дзіўна: творы іх а д н о л ь к а в а таленавітыя і ўнутрана б я с п о л ы я. Можа, сапраўды, культура супрацьстаіць сексуальнасці, як Месяц Сонцу?

Ганна КІСЛІЦЫНА

жамчужынкай з замілаваннем
яе выносіў з хваляў бык.

Не красаваўца кроне буйнай,
як лістапад яе кране...
Неонавы чыкагскі буйвал
глядзіць спакойна на мяне.

Ужо нічым не рызыкую!
Ліхтарыкам прылёг гарбуз.
А я да астры прыраўную
наш першы і апошні блюз.

Не скажаш усяго адразу,
што з часам разляціцца ў дым...
Бо лю́быя смяюцца разам,
а плачуць толькі па адным.

***

Зачэпіцца сонца за снежную горку,
і хлыне ў даліну патокам вада...
Забуду апошнюю нашу гаворку,
а ўсё-такі... нечага трошкі шкада.

Ніколі не выспее яблык дачасна,
за радасцю часта прыходзіць нуда,
сказаць не магу, каб была я няшчаснай,
ды ўсё-такі... нечага трошкі шкада.

Бывае, заўважу ў аконным праёме,

# ЛЁГКІ ЧАЛАВЕК РАЯ

Я стаю ў пераходзе на Круглай, прадаю газеты. Сотні людзей праходзяць паўз мяне. Гандаль ідзе добра. Знаёмыя падыходзяць, вітаюцца, запальваюць, нейкі час назіраюць за працэсам маёй работы, затым крочаць сабе далей. Іншыя дастаюць з футаралаў баян, гітару, скрыпку і таксама пачынаюць зарабляць.

Работа мая цікавая, з людзьмі, непасрэдна, кантактна. Гэтак жа непасрэдна ўспрымаю я клопаты альбо радасці маіх пакупнікоў. Я бачу людзей вясёлых і сумных, сталых і маладых, мужчын і жанчын, беларусаў і астатніх, грамадзян і нахлебнікаў. І адчуваю я на скразнячку перахода воблачкі духу людзей, ва ўзаемінах з іншымі цяжкіх, і людзей, з якімі радасна і лёгка.

Днямі я сустрэў такога лёгкага чалавека — Раісу Баравікову, нашу с а п р а ў д н у ю паэтэсу. Яна была ў файным кажушку і з непакрытай галавой. На сустрэчу зрэагавала непасрэдна і з добрай усмешкай. Вядома, я таксама не мог устрымацца і мае няголеныя трэці дзень шчокі расплыліся ў розныя бакі. Рая загаварыла так, як бы гэта быў пра-





пытаюцца, хто ты — такая бяда! —
спакойна адказваю — проста знаёмы,
і ўсё-такі... нечага трошкі шкада.

***

Не трэба папракаць у здрадзе,
я рада б крыкнуць сэрцу — не! —
але як соладка ён крадзе
усё, што лепшае ў мяне.

Таму ў кватэры нашай пуста,
таму не так, як у людзей,
маршчынкі згладжваю прад люстрам,
каб перад ім быць маладзей.

Цяжэюць грудзі ад жадання,
засведчы сам усё і згінь,
ужо лунае жар спаткання
у шолахах начных вяргінь.

І голас чуецца вясёлы,
а там, дзе месяц тонкі згас,
аплачуць за мяне анёлы
усё нязбытнае між нас.

***

Ледзь толькі промень жвавы
                    глянуў

цяг размовы, а не выпадковая сустрэча. Яна заўсёды так: не пачынае, а нібы працягвае гаворку.

А пачаўся наш дыялог у 84-м, калі я, тады рабочы станкабудаўнічага завода, патрапіў на пасяджэнне літгуртка “Крыніцы” пры газеце “Чырвоная змена”, у якім за старэйшую была Раіса Андрэеўна. Мы, гурткоўцы, збіраліся на чацвёртым паверсе старога Дома друку, якраз пад стэндамі з камсамольскімі агіткамі, і чыталі ды абмяркоўвалі сваю пісаніну. Усё было мірна і таямніча, усіх заахвочвала да беларускага слова такі лёгкі чалавек — Рая.

У верасні таго ж года я збіраўся “аддаць канцы” ў інстытуце сухотаў. І раптам — публікацыя маіх вершаў у “Чырвонцы”. Я перадумаў канаць і падзякаваў Жанчыне Раі, якая данесла мае вершаваныя парыванні да чытачоў. Я стаў здаравець, стаў заўважаць цудоўную восень і паляшучку з-пад Брагіна, Валькy-Валюню з хворай шчытападобкай. Валянціне я чытаў нешта з Чорнага Кузьмы, абараняў яе ад заляцанняў прыдуркаватага хроніка і цалаваў пасля адбою ў вусны банцікам. Гэта было за год да “перастройки” і за два да чарнобыльскай катастрофы. І мы яшчэ нічога не ведалі пра СНІД...

Ах, лёгкі чалавек Рая, ужо няма таго маладога і нежанатага пралетарчыка, чые вершы Вы надрукавалі ў “ЧЗ”. Ёсць нехта іншы, хто піша зараз гэтыя радкі. Гэты

на дах гасцініцы іржавы,
мы з'ехалі цішком з Варшавы
ў адчайна бэзавы Вілянуў.

І повязь гронак тых павіслых
духмянай сыпала парошай,
нас прывячала ціха Вісла
санлівым шэптам: "Bardzo prosze".

Такім агнём палілі промні,
так бэз шумеў раскалыханы,
што весела было не помніць
таго, хто быў маім каханым.

Збягалі з юнага пагорка, —
цішэлі словы нечакана,
але пра што была гаворка,
дазвольце ведаць мне ды пану.

Ужо гады нашы прывялі,
а ў пору бэзавай парошы
працяглым рэхам "Bardzo prosze"
камусьці адгукнуцца хвалі...

***

О колькі крыўды, — ён мой вязень!
Які пагардлівы попрок!
І дом мой для яго — не засень,
а самы-самы санцапёк.

я цяпер піша не толькі пяром, але і руляй абрэза. Гэты ён таксама выдатна паласуе нажом. А калі выдаецца вольная хвіліна, яны сыходзяцца разам і прызнаюцца адно аднаму, што пры сустрэчы з Раісай Андрэеўнай чамусьці хочацца піць шампанскае, чытаць Шэлі, слухаць музыку Глюка. Я іх разумею, бо нельга ж увесь час ненавідзець нават самага заклятага ворага...

Лёгкі чалавек Рая і піша лёгка, светла. Мне цікава і прыемна чытаць яе шчырую лірыку, вершы пра каханне. Цікава слухаць паэтэсу, калі яна сама чытае са сцэны ці ў коле сяброў. Цікава хоць бы таму, што Баравікова не прыстаўляецца, не робіць з сябе таго, кім яна ніколі не была і не будзе. У паэзіі і ў жыцці Рая ёсць тым, кім ёсць: яна натуральная ў паводзінах і ў пісьме, з прычоскай у стылі "антык". І лепш за ўсё пра шчырасць і непадробнасць паэтэсы Раісы Баравіковай гаворыць яе такі мілы беларускі акцэнт, калі ёй выпадае прамаўляць парыску.

Падчас апошняй нашай сустрэчы Вы сказалі ўдзячныя словы з нагоды публікацыі майго верша "Ода жаночым вусікам". Даруйце ж, лёгкі чалавек Рая, калі аднойчы мне прыйдзецца пісаць нешта іншае. Так будзе трэба.

Славамір
АДАМОВІЧ





Капрызнік. Блытанік. П'янюга.
Мне гэта бачна і самой, —
я ў ім шукала доўга друга
і стала для яго турмой.

***

Усё цудоўна! Бусліны клёкат...
Спяшае радасць да кожнай з пакут.
А самы-самы любімы далёка,
а самы-самы балесны тут.

Бывае, што дзень ад начы не святлейшы,
а верыцца, — выслізну неяк з тугі,
ды вось жа маўчыць незваротна — першы,
і цягне ў бездань адчаю другі.

І сочыцца холад па жылах азяблых,
у сэрцы аглухласць адна і жыве,
нібыта штодня зухаваты д'яблік
у бубен ля скроні ўсё б'е і б'е.

***

Прывязацца б душою і целам,
вочы б сінія прагна любіць,

# ТВОРЦА Ў КАНТЭКСЦЕ ГРАМАДСТВА І ЧАСУ

Кожны пісьменнік — вялікі індывідуаліст. Калектыўнай творчасці не існуе. Маўклівая большасць — гэта наш беларускі народ, з якога выходзяць зрэдзьчасу Творцы. Але і стаўленне да Творцаў такое, якога можна чакаць ад маўклівай большасці.

Крыклівая, пагрозлівая меншасць — улада. Яна спрабуе выкарыстаць індывідуальнасць Творцы ў сваіх мэтах, перарабіць на свой капыл і падаць яе як праяву-гук: голас паслухмяна-задаволенага народа, маўклівай большасці...

***

Адзін з класікаў філасофіі нашага стагоддзя Эрых Фром пісаў: "Чалавек можа адаптавацца да рабства, але ён рэагуе на яго зніжэннем сваіх інтэлектуальных і маральных якасцяў..." Пацвярджэнне гэтай думкі знаходжу ва Ул. Конана: "... калі народ падоўгу пазбаўлены свабоды творчасці, магчымасці развіваць нацыянальную культуру, ён воляю

колькі помню сябе — ўсё хацела
я жанчынаю вернаю быць.

Над закрытым стаю чамаданам, —
томік вершаў, сукенка адна,
а здаецца жыццё спакавана,
чамаданчык ніяк не падняць.

Чую, хочацца сэрцу спачыну,
можа, верш свой апошні пішу,
і такія плывуць аблачыны,
нібы ў рай адпускаю душу...

***

Як добра, часам, што наўкол
нямыя рэчы,
бязгучны мой пісьмовы стол —
цалую плечы.
Бязгучны шафа, крэслы, столь,
сцяна нямая,
бязгучным стаў былы мой боль, —
і абдымаю.
Не трэба шэпту, не прароч,
ёсць слова злое,
плыве ў люстэрку наша ноч,
яно — нямое.
Плыве, як цень, плячо к плячу,
мацней абдымкі,
і я — губамі падлічу

гістарычнага лёсу “асуджаны” або на рэвалюцыю, або на духоўную дэградацыю...”

Узлёты і падзенні нацыянальнай свядомасці, як і павольная дэградацыя — працэс, што яскрава праяўляецца ў айчыннай літаратуры. Можна спрачацца ці адпрэчваць, але стварэнне літаратуры дзеля самой літаратуры, калі патэнцыяльны чытач адарваны ад нацыянальнай кнігі, — працэс скону... Наўрад *яго вялікасць* Нацыянальны Еўрапейскі Твор выправіць сітуацыю. Культура нацыі пачынаецца з палітыкі, а не з літаратуры; палітыка — падмурак, мастацтва — дзверы.

***

Вольга КУРТАНІЧ: — Што ты патрабуеш і чаго чакаеш ад блізкіх людзей: падпарадкавання, веры ў моц і талент, спадзявання на знакамітасць? І што патрабуюць ад цябе блізкія?

Раіса БАРАВІКОВА: — Даволі складанае пытанне. Усё, што тычыцца *творчасці,* гэта толькі маё, і таму мне хацелася б, каб мае хатнія ўва мне бачылі толькі жонку і маму, і самі яны патрабуюць дома, каб я для іх была перш за ўсё жонкай і маці, патрабуюць свайго чыста чалавечага, жыццёвага. Так, пэўна, і павінна быць. Але, безумоўна, мае поспехі іх таксама радуюць.

***

Пазіцыя большасці нашых суайчыннікаў — немае пытанне. Творца як прадстаўнік сваёй нацыі падсвядома задаецца гэткім жа пытаннем, у той час, калі ўсе чакаюць ад яго *адказу.* Ведаючы гэта, некаторыя пісьменнікі прапаноўваюць *свае* формулы-адказы, натхнёныя сваёй мудрасцю і ўсёведаннем, і не заўважаюць, як іхняя творчасць ператвараецца ў халтурнае штукарства.





твае радзімкі.
Маўчы, не трэба пра пасля,
яшчэ — не заўтра,
а гляне коса хтось са зла,
скажу — няпраўда!
Няпраўда, ночы не было,
было — нас двое,
а што сказаць інакш магло б, —
усё нямое.

***

У лёгкіх рухах чуе здраду
і заклінае: ты разваж...
Хіба не бачыш па пагляду, —
манюка ён і звадыяш.

А мне ад гэтых слоў салодка,
бо я яшчэ жыву ў тым дні,
дзе кружаць чаіцы над лодкай
і б’юцца ў сецях акуні.

Дзе рыбакі пра ўловы мараць
і пра харошы першы ўкос;
дзе пахне ветрам і загарам
той, што цяпер сядзіць наўскос...

І быць мне трэба нешчаслівай,
бо ён між вытанчаных фраз
глядзіць на стан мой палахліва,
як на гадзюку, — першы раз!

***

Рэаліі нашага жыцця могуць лёгка выклікаць парушэнне і змяненне псіхікі. Адзіны выратоўны шлях — плённасць, раскрыццё індывідуальных здольнасцяў праз адасабленне ад апакаліптычнага пытання: *“Чаму наш народ не з`яўляецца народам сярод народаў?”* (Паводле М. Фрыша.)

***

В.К.: — Як часта ты задумваешся пра ўзрост? Ці прыносяць гады больш магчымасці займацца любімай справай?

Р.Б.: — Пакуль не адчуваю ўзросту; мы, жанчыны, не павінны засяроджвацца на ўзросце, такога паняцця не павінна існаваць. Узрост вымяраецца станам душы — наколькі душа схільная да прыгожых эмоцый, наколькі яна высокая, чыстая. Гэта сведчыць пра ўзрост, астатняе ўсё неістотна.

Мяне турбуе тое, што нас, творцаў, асабліва сёння, паставілі ў такія ўмовы, калі мы вымушаны працаваць, хадзіць на службу... А пісьменнік павінен прафесійна займацца сваёй пісьменніцкай справай, бо гэтая работа не з лёгкіх, не з простых, тут трэба слухаць душу, лавіць той момант, калі пішацца...

У такіх складаных умовах перакладаю свае спадзяванні на пенсійны ўзрост, калі змагу быць прадастаўлена пачуццям і сама сабе.

***

Найбольшым грахом у гра-

***

Не схацела паклікаць у госці.
І, як толькі дайшлі да вугла,
развіталася рэзка, са злосцю —
абнадзеіць нічым не магла.

А па горадзе дзіўная чутка
з хаты ў хату з той ночы плыве,
быццам ён непрадбачана хутка
перад Богам сваёй назаве.

Снег злятае з карніза бялюткі,
да ўсяго стаў абвостраным слых,
я смяюся над дзёрзкаю чуткай
і чамусьці сцялю на дваіх.

***

І я сказала: “Больш не трэба фальшу.
Зіма прыйшла. А вы — вясны кумір”.
Ляжыць забыты на канапе гальштук,
зусім як нечаканы сувенір.

Дзятва бяжыць з гары крутой дахаты.
За гальштук быў бы ўдзячны снегавік.
А позірк мой таму і вінаваты,
што к гэткім падарункам не прывык.

мадстве лічыцца грэх непадуладнасці; адкрыты пратэст, сумненне на права аднаго ці купкі ўсталёўваць нормы для ўсіх астатніх — гэткі ж грэх. І найбольш ахопленыя тым грахом людзі творчыя.

Для *культавай установы грамадства* пісьменнікі зрабіліся ізгоямі. Але ж пагатоўнасць прыняць пакаранне і пачуццё віны за свае рэзкія словы пакідаюць за пісьменнікамі месца ў грамадстве...

***

В.К.: — Зварот да гістарычных рэалій і пастаноўка п’есы “Барбара Радзівіл” на сцэне тэатра-лабараторыі “Вольная сцэна”. У даным выпадку — сцэна: гэта ўваход у новы храм? І наколькі гэта сур’ёзна?

Р.Б.: — Напачатку пісалася драматычная паэма, а потым здалося, што матэрыял сцэнічны, і я паказала яго рэжысёру Валерыю Мазынскаму. А тады ўжо пачала пісаць п’есу... Але вызначыць для сябе: наколькі гэта сур’ёзна, пакуль не магу. Ёсць ужо і другая п’еса... Мне падаецца, што паэзія — справа маладых гадоў, мала ў якіх паэтаў было другое дыханне. Але ж Пастарнак пасля 40 гадоў пісаў на новым уздыме, як і ў маладосці.

Пасля такой тонкай справы, як паэзія, мне хочацца нечага большага, і таму я часам спрабую зазірнуць у іншыя жанры, гэта не толькі драматургія, гэта і апавяданні, і дзіцячая літаратура. Але пакуль я не вызначыла: у якім жанры буду працаваць, здаецца, што мацней за ўсё вабіць дзіцячая літаратура...

***

Паэзія — накіды, эскізная





***

Ля крыніцы бруістае вяне
абранёны на шчасце вянок,
тут калісь палявалі славяне
на чужых даўганогіх жанок.

Паўтараецца многае ў свеце,
на палянцы распалім касцёр,
і заблудзіцца месяц у веццi,
як лязо агнявое, васцёр.

У тваім сінявокім абліччы
я славянскія рысы знайду,
стань жа сёння маім паляўнічым;
я сама пад руку пападу.

І ад радасці хмельнае грузны,
абмінаючы дрэвы і пні,
прыпадзі да распаленых вуснаў
і ў высокія травы шпурні.

Закрычы па-дзікунску штосілы,
абрываючы сукню з пляча,
каб сарвалася дрогкае: “Мілы-ы”
і хіснулася неба ў вачах.

Каб на самым абрыве палянкі,
дзе ў калена густая трава,
ўпадабала я лёс паланянкі
і надломы крутога брыва.

творчасць; проза — палатно... Праява душы ў некалькіх вершаваных радках; фрагментарная завершанасць; рамантычнае вяртанне да вытокаў узнікнення Слова; майстэрства подыху; спалучэнне з’явы і гуку; унутранае трапятанне: па-э-зі-я-а...

***

В.К.: — Што прыносіць табе большае задавальненне: працэс стварэння або створанае?

Р.Б.: — Несумненна, працэс стварэння, таму што створанае — гэта ўжо факт, нібыта і не тваё. Верш напісаўся, цяпер ён належыць чытачам, належыць будучым кніжкам, часопісным старонкам. Працэс стварэння адбываецца праз псіхалогію, а пра псіхалогію творчасці мы ніколі не гаворым, ды і крытыкі канстатуюць толькі канчатковы прадукт: добрыя ці дрэнныя радкі. Я прытрымліваюся той думкі, што пісаць трэба тады, калі прыходзіць натхненне. А вось што такое *натхненне* — не ведае ніхто...

***

“Думка, перш чым стаць думкай, была пачуццём”. Выраз вядомага акцёра і рэжысёра К. Станіслаўскага. Усе лепшыя вершы Раісы Баравіковай — агучаная мяжа між пачуццём і думкай.

Можна стаяць з аднаго боку мяжы, адчуваць насалоду ад слоў і песціць думкі пра пачуцці, а можна знаходзіцца з іншага боку — і, ведаючы пачуцці, шукаць словы...

***

В.К.: — Прыгадваю радкі з верша “Eugenio” (лац. высакародны):

*Прыцішваю, збіваю гукі, —*
*не знаць, не помніць, а любіць,*

*распасціраць насустрач рукі,*
*і прагнуць, і хацець забыць.*

**Якое з узгаданых пачуццяў найболей сілкуе вершы, падштурхоўвае з'яўленне новых радкоў:** *прагнуць, хацець забыць або любіць?*

**Р.Б.: — На маю думку, напэўна, "прагнуць". Бо "любіць" — гэта нешта ўсталяванае, завершанае, тое, што не дае нейкіх эмацыянальных штуршкоў, а паэзія — гэта эмоцыя.**

***

**Тады як розныя віды Мастацтва патрабуюць спецыяльных ведаў ці ўмення, Паэзія патрабуе яшчэ і вялікай пачуццёвасці... Перадасновай педагогікі з'явілася жаданне перадаць веды іншым пакаленням; перадасновай паэзіі — больш эгаістычнае жаданне! — пакінуць сведкаў свайго існавання як сведкаў хвілінных пачуццяў і перажыванняў паэта.**

***

*Што поспехі, што адчуванне ўлады*
*супраць гарачай волі пачуцця?!*
*...і ўзнеслася, як трапятлівы гук,*
*тваё імя адразу ў тыя высі,*
*дзе серафімы лічаць зорак бісер...*
*...а цені ад кветак тваіх на столі*
*спляліся, як рукі ўспякотным абдымку.*
*...калі туга па Вас даймае...*
*Так толькі жанчына параніць умее,*
*знікнуўшы назусім.*

**(Кампіляцыя з вершаў Р. Баравіковай)**

***

**Чым больш я чытаю Р. Баравікову, тым больш бездапаможнай станаўлюся. Яе творчасць — мноства індывідуальных варыяцый, тады як маё жаданне выказацца пра яе — сцяганне абалонкі; спроба выказаць сімпатыю праз тлумачэнне...**

***

**Рытмізацыя тэксту, распеўныя інтанацыі, часам паўторы — гэтыя ўласцівасці паэзіі сведчаць пра блізкасць паміж вершамі і малітвамі; своеасаблівае духоўнае вяртанне да першапродкаў як повязь пакаленняў; інтуітыўнае ратаванне** *чысціні* **як уласцівасці чалавечай душы; псіхалагічны палёт у Сусвет...**

***

**Аб'ектывізацыя** *грамадскіх* **працэсаў робіць творчасць пісьменніка трыбуннай, аб'ектывізацыя** ***ўнутраных*** **працэсаў як аналіз-перажыванне робіць творчасць эратычнай (у плане адкрытасці), інтымнай, чыстай і ўзнёслай, што найбольш уласціва жаночай лірыцы...**

**Жаночая лірыка для плошчаў і вялізных сцэн — клоунская рэпрыза; тады як мужчынская — звыклае шэсце калон, прывітальны рух з-за трыбуны (варта ўдакладніць, што "жаночая" і "мужчынская" ў даным выпадку — не палавы падзел, а гучанне духу).**

***

*Жанчына лётала ў аблоках,*
*дыханнем рассякала даль,*
*промні лёгкія звысоку*
*агнём сцякалі на паркаль...*
*...жанчына лётала і ценем*
*сплывала ў распракляты быт.*

**("Да вобраза сучаснай жанчыны")**

**Вольга КУРТАНІЧ**

# ТАНГА НА ТРЫ КРОКІ З ПАВАРОТКАЮ

*Крок першы ўбок*

**Сядзем піць каву, спалім па цыгарцы — і раптам яна, як толькі што ўспомніўшы самае-самае важнае, дзеля чаго нібыта і селі мы папіць ды папаліць, з гэтай яе непаўторнай, рытмічна-роўна-працяглай інтанацыяй зусім шчыра і сур'ёзна будзе казаць:**

**— Слухай, Валодзя, дапамажы ўбіцца на прыём да прэзідэнта, трэба ж яму давесці, што мы згінем, калі згіне культура, што без яе мы не выб'емся ў людскі свет, ён жа пра гэта не думае, там жа ў яго зусім не тыя людзі, ці ўзяць ды ліст яму напісаць?..**

**Не пытаюся, скуль у яе такія фантазіі пра гэткія мае магчымасці, каб ёй "убіцца на прыём", выпытваю іншае:**

**— А чаму, Вальпараіса, сказаць яму пра гэта павінна ты?**

**— Як, чаму я? Ён жа мужчына!**

**І хоць бы на мірг вока ўсумнілася ў тым, пра што сказала, мая ты харошая... А будуць жа некалі трактаты пісаць, намацваць імпульсы і вытокі, асэнсоўваць прыроду яе лірыкі.**

**Я не надта задумваўся над тым, чаму з першага знаёмства пачаў называць яе Вальпараісай. Але, калі аднойчы звярнуўся да яе скарочана, Рая, дык Аляксей Дудараў заўважыў: "Не блытайся, ты правільна яе называеш, яна большая за Раю і за Раісу".**

*Крок другі ўбок*

**У бары Дома літаратара сядзім пры каміне, чалавек сем за столікам, усе нібыта паэты, ва ўсякім разе члены Саюза пісьменнікаў. Часы яшчэ тыя, старыя, мы ўсе яшчэ і жывыя, і маладыя, кожны са сваімі амбіцыямі — хто з меншымі, хто з большымі. Ва ўсіх напярэдзе прыблізна аднолькавыя магчымасці, але ўжо відаць, што скарыстае іх кожны пасвойму, бо не ўсім выпала пароўну не намі між намі падзеленага. Толькі пра такія штуковіны наўрад ці каму з нас думаецца, нам проста хораша бачыцца вочы ў вочы, слухаць адно аднае, і гэта тое найзалатое, што ў нас ёсць, было і больш не будзе. Гаворка ідзе пра ўсё і ні аб чым, пераплятаецца, скрыжоўваецца — і раптам адзін член Саюза пісьменнікаў выплюхвае ў твар Баравіковай недапітае вінс...**

**Зязюлькай з гадзінніка выкідваецца з часу Жэня Янішчыц: "Я не магу тут заставацца!" — вырываецца бегчы. Антычнаю жрыцаю паварочвае медалёвы профіль Таіса Бондар, глядзіць, як рымлянка на дзікуноў: "Мужчыны, як вам не сорамна?.." Я кажу члену: "Пайшлі, пагаворым", — і, выцягваючы яго за дзверы, бачу ў скамечаным застоллі адзінага чалавека, жанчыну, якая нібыта і не прыкмеціла, як праляцела над камінам брыдота, не дазволіла праз яе зруйнаваць, знішчыць у сабе свята. Вальпараіса, адкінуўшыся, сядзела ў крэсле, доўжыла, нібыта нічога не сталася, з некім размову і спакойна, адно трошкі грэбліва страсала сурвэткаю з аборак сукенкі кроплі віна.**

**Пасля, калі член Саюза пісьменнікаў пакінуў нас і пайшоў да сваіх, Вальпараіса сказала:**

**— На адну маю знаёмую аднойчы сабака памачыўся. Што ж ёй цяпер — гаўкаць?**

*Крок трэці ў бок другі*

**Упершыню прыязджаем на з'езд пісьменнікаў СССР. Дзея пачынаецца ў Крамлі, у буфетах ні кроплі спіртнога, каб было каму хоць стрыжнявыя даклады праслухаць з алфавітным пералікам перадавікоў літаратуры. Ды ўсё адно весела, святочна — цэх сабраўся.**

**У некага з украінскіх паэтаў паставыя на ўваходзе канфіскуюць пляшку пярцоўкі. Расул Гамзатаў падбухторвае: "Збіраюць з усіх на заключны банкет. Вам, хахлам, спецыяльна не сказалі, што тут кантроль на сорак градусаў. А віно я пранёс, віно лёгкае". Якаў Хелемскі акуляры праціраe: "Расул, наліў бы, як перакладчыку". Гамзатаў пляскае сябе па жываце: "Дык перабрадзіла, Яша".**

**Вальпараіса з непадробным спудам шэпча: "Валодзя, я ж праз гэты кантроль прайшла, а ў мяне ў сумачцы пляскатая "Белавежская".**

**На другі дзень ад Вальпараісы не адыходзіць сапраўды прыгожы і яшчэ больш прыгожы ў сваёй маладой славе Валянцін Распуцін.**

**На трэці дзень, ужо ў Цэнтральным доме літаратара, дзе з буфетамі поўны парадак, Юрый Кузняцоў эпатуе з трыбуны літаратурны бамонд:**

**"Так званай жаночай паэзіі ў рускай літаратуры ніколі не было і няма. Была хіба што істэрыя — тып Цвятаевай, рукадзелле — тып Ахматавай, ну і маем мы яшчэ салон Ахмадулінай і ўсіх астатніх яго наведвальніц..."**

**— Ты чуў, што ён сказаў! — крычыць мне, як з Далёкага Усходу, Рыма Казакова, віхурай праносячыся ў тандэме з Ларысай Васільевай, знікаючы на чале кагорты маскоўскіх паэтак у сутарэннях кавярні. — Чуў, а яшчэ п'еш з ім!**

**— Каранты вам, Юрый Палікарпавіч, — кажу я Кузняцову. — Зараз і прысуд вынесуць, і ў выкананне прывядуць.**

**— Хай сабе, — вяла адмахваецца Кузняцоў. І раптам з нейкай змрочнай пагрозаю заключае: "На татарках жаніцца трэба".**

**— Ты чула, што Кузняцоў сказаў? — пытаюся я ў Вальпараісы.**

**— Не, — глядзіць яна міма Кузняцова на Распуціна. — А што ён сказаў?**

**— Ты ж сядзела ў зале, слухала.**

**— Не чула.**

**Я пераказваю ёй пры Кузняцове словы Кузняцова. Не пра татарак, а пра паэзію.**

**— Ну і што, правільна, — зноў глядзіць Вальпараіса міма ўсіх на Распуціна. — У рускай літаратуры сапраўды толькі празаікі больш-менш і выглядаюць.**

*Паваротка*

**І раз-два-тры — і перачытайце цяпер яе вершы... А мы яшчэ патанцуем.**

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

# ВЕЧНАЯ БЯРОЗА

**Хоць і паступалі мы ў Літінстытут з Раісай Баравіковай разам, разам здавалі экзамены, жылі ў адным інтэрнаце, а вось "заўважылі" адна адну — не адразу. Так бывае.**

**Запомніўся адзін дзень падчас нашых уступных экзаменаў. Дакладней, вечар. Адзін са старшакурснікаў, акінуўшы крытычным цвярозым вокам чародку ажыўленых гаманкіх абітурыентаў, што, весела перагаворваючыся, вярталіся ў інтэрнат пасля чарговага экзамену, — і зачапіўшы аднаго з нас за крысо, сказаў: "У пяць спускайцеся ўніз, у "кают-кампанію", будзем знаёміцца".**

**"Кают-кампаніяй" называўся невялічкі пакойчык адпачынку, дзе стаялі столікі з газетамі, тэлевізар.**

**І мы сабраліся. Канечне ж, не газеты чытаць і не тэлевізар глядзець. Знаёміцца са студэнтамі, якіх ужо**

нейкі вастраслоў празваў "класікамі". Паселі ўздоўж сцяны, як у вясковым клубе на танцах, і той самы старшакурснік, які запрасіў нас сюды, сказаў: "Хто з вас паэт, чытайце вершы".

Адзін з "абітураў", па знешнім выглядзе каўказец, адказаў: "Але ж мы на сваіх мовах пішам, вы ўсё роўна не зразумееце".

"Нічога, — адказаў непахісны старшакурснік, — я па інтанацыі і па вачах зразумею, хто з вас паэт, а хто не".

І — загучалі "па кругу" вершы на ўсіх мовах нашай былой "неабсяжнай"...

Бялявая худзенькая дзяўчынка ў блакітнай сукенцы з блакітнымі ззяючымі вачыма пачала чытаць на беларускай мове свае вершы, што былі нядаўна надрукаваныя ў абласной газеце, і чым яна страшэнна ганарылася:

*"Стаяла бяроза,*
*На ўзгорку бялела,*
*І так засмучона*
*Навокал глядзела..."*

Дзяўчына вельмі хвалявалася, нягледзячы на тое, што і вершы былі надрукаваныя, і вядомы беларускі паэт Аляксей Пысін даў ёй рэкамендацыю для паступлення ў Літінстытут, — трымцелі пальцы ўзнятых да твару рук, палалі шчокі, але голас быў дзёрзкі і звонкі.

"Хто яна, адкуль?" — пыталіся студэнты адзін у аднаго. "З Беларусі, Раіса Баравікова, — адказвалі мы, — ужо друкуецца..."

Гучалі вершы. Паэтаў і слухачоў усё прыбывала.

"Та-ак" — строгі старшакурснік, што паклікаў нас сюды, прайшоўся некалькі разоў уздоўж крэслаў перад навічкамі, што чакалі яго прысуду. — Ты, ты, і ты — паэты, — урэшце сказаў ён, тыцнуўшы грозным пальцам у некаторых з нас, пачынаючы з Раісы Баравіковай. — Гэта адразу відаць. — Памаўчаў крыху, — А астатнім?.. Што ж, трэба будзе вучыцца. Праз некалькі гадоў сустрэнемся зноў, паглядзім, што з вас атрымаецца. А цяпер — вольныя!.."

"Адпушчаныя на волю" — мы разбрыдаліся з "каюткампаніі", і тады я па-новаму глянула на сваю сяброўку, зусім інакш "прыкмеціўшы" яе. Падумалася, а ці сапраўды можна адрозніць паэта і пазнаць яго, нават не ведаючы яго вершаў, не разумеючы яго мовы? Як? Па чым? Што такога можна бачыць у голасе, у вачах, што выдае "сапраўднасць" творцы?

Дагэтуль не ведаю, ці быў то розыгрыш нашага старэйшага таварыша, ці ён і праўда ўмеў бачыць у людзях "іскру Божую".

А толькі час паказаў трапнасць яго заўвагі: "А гэта — паэт!"

Лаўрэат дзяржаўнай прэміі Беларусі, член Саюза пісьменнікаў, дэпутат райсавета — усе гэтыя сённяшнія тытулы не варты аднаго, сапраўднага — паэт, якім надзяліў Раісу Баравікову час і талент. І хаця яна піша і прозу, а апошнім часам нават захапілася драматургіяй, — яе гістарычная драма ў вершах "Барбара Радзівіл" ідзе сёння ў тэатрылабараторыі "Вольная сцэна", — усе, хто знаёмы з творчасцю Раісы Баравіковай, у адзін голас сцвярджаюць, што сапраўднае душэўнае хваляванне ў чытача выклікае найперш яе эмацыянальны, пачуццёвы паэтычны радок.

*Выкрала*
*Сэрца маё каханне!*
*Выткала*
*Роспач у ім – расстанне!*
*У самай блакітнай краіне*
*Нат смешна ад гэткай падзеі.*
*Выкраду*
*Сонца ў яснага неба!*
*Выкую*
*З промняў гарачых сэрца!..*
*Каб грэла маю работу,*
*Поўнілася пяшчотай...*
*А больш мне нічога,*
*Нічога,*
*Нічога*
*Не трэба!*

Паміж той трапяткой бярозкай-паэткай і сённяшнім прызнаным дзеячам літаратуры і культуры — доўгі, але просты, няўхільны, я сказала б, прыкметны і не падобны на другія шлях. Дадзены Богам ці Прыродай творчы агеньчык Раіса Баравікова змагла захаваць на ўсім гэтым доўгім шляху.

Самымі прыкметнымі рысамі яе паэзіі так і засталіся эмацыянальнасць, пачуццёвасць, і разам з тым прастата і пазнавальнасць вобраза.

Былі ў яе творчасці, канечне, розныя спробы знайсці сябе: гэта і белы верш, і розныя накірункі паэзіі з "сюрам" і без "сюру"... Але прастата і яснасць класічнага верша бралі верх. І праз усё сённяшняе шматгалоссе новых паэтычных рытмаў, сугучных новаму часу і новым падзеям, як крыштальны звон, прабіваецца строгая музыка класічных вершаў Раісы Баравіковай.

*На Беларусі ціха плачуць кані,*
*Гудуць над канюшынаю чмялі.*
*Паслухайце, якая з мяне пані,*
*Напэўна, не за тую прынялі...*

*...Прабач, прабач, гасцінная краіна,*
*Прывольна і ў тваіх палях чмялю.*
*Ды толькі я – вясноваю калінай –*
*Глыбока урасла ў сваю зямлю!*

Баравікова не здраджвае сваёй музе (ці тая не здраджвае паэтцы), але гэта ніколі не ператвараецца ў паўторы, у перапевы самой сябе, у таптанне на месцы. Зменлівасць, багацце эмацыянальнай палітры, дыяпазону тэм (лірычныя падзеі сівой даўніны і дзень сённяшні) у спалучэнні з непасрэднасцю, шчырасцю, гарэзлівасцю паэткі і даюць адбітак той жывой разнастайнасці жыцця, што прыцягвае людзей да творчасці сапраўднага паэта.

Яе вершы яшчэ раз даводзяць, што сапраўдная лірыка — гэта сінонім такіх паняццяў, як "душа" і "любоў да жыцця". А гэтыя паняцці, калі сёння ўсё навокал зацягнута дымам пажараў ды попелам разбурэнняў, раптам сталі для людзей надзвычай каштоўнымі. І па гэтай простай прычыне лірычная паэзія, як ніколі, мае шанц выжыць. А паэтэса Раіса Баравікова якраз адна з тых, хто стварае сапраўдную лірыку, што непадуладная часу, але падуладная сэрцу.

Любоў ФІЛІМОНАВА





# СВЕТЛАСЦЬ

Кніга можа быць намоленая, як ікона.

Намоленая ікона здзяйсняе цуды, лекуе людзей. Намоленая кніга супакойвае, прасвятляе, таксама цудадзеіць. Гэткіх кніжак у маім кнігазборы няшмат. З "Залатымі зярнятамі" Ул. Дубоўкі я хаваўся ў вялікую бочку для збожжа — басу — яшчэ ў дашкольным веку. "Вершы пяці кніг" Г. Бураўкіна туліліся ў пляскатым дэсантным заплечніку амаль два гады, калі я быў "акупантам" і таптаў жаўнерскімі ботамі вольналюбівую летувіскую й заходнеўкраінскую зямлю. Віцьбічаў паэтычны нарыс "Плыве з-пад Святое гары Нёман" насіў за пазухай падчас нефармальнага студэнцтва... На бела-сінім "Каханні" Раісы Баравіковай я, будзь на тое мая воля, дазваляў бы маладым клясціся пад вянцом. Не раўнуючы як на Бібліі.

Сённяшнія маладыя чалавекі, што ўздымаюцца на аблокі закаханасці па камасутравай лесвіцы, паблажліва пасміхнуцца. Але кахання без паэзіі не бывае.

А паэзія не бывае без любасці й светлыні.

Над вершамі Раісы Баравіковай, нібы світальная зара, займаецца аўра любові. Неба яе паэзіі, напоўненае, як паветраны шар, прычашчоным вышнёй духам, лёгка й паратоўна выхоплівае чытача з жыццёвае прозы. Гэта боскае ўмельства паэткі — растварыўшыся ў мове, у пачуццях, працягваць свяціць уласным святлом, працягваць жыць у палёце насуперак гравітацыйным законам.

У Раісы Баравіковай аблічча светлае, як і яе паэзія. Калі б пісьменнікаў пачалі называць велягурыстымі тытуламі накшталт Яго Вялікасць дзяржаўны паэт, Яго Шматтомнасць народны празаік, Яго Недасяжнасць прэзідэнцкі літаратар, я б звяртаўся да паэткі проста й беспадхалімна — Ваша Светласць. Я не ведаю, хто яшчэ ў мнагалюднай беларускай паэзіі заслугоўвае на гэткі княскі зварот. Адзін масціты прызнаваўся, што пачаў пісаць ад злосці. Мне здаецца, што Раіса Баравікова за ўсё сваё творчае жыццё не ўзрасціла й каліва нелюбові на сваім паэтычным палетку. І гэта як збавенне, бо ад злосці жанчына старэе.

Як момант лірычнага суперажывання непрацяглы, так і вогнішча чалавечай жарсці, на жаль, — не вечны агонь. Полымя таксама знясільваецца, сівее, асабліва калі перад гэтым шугала пад нябёсы. Памятаю, як у фестывальнай Піцундзе маскоўска-слуцкі паэт Пятро Кошаль, пабайранаўску кульгаючы ў накірунку да мора, смакаваў радкі: "І ад радасці хмельнае грузны, / абмінаючы дрэвы і пні, / прыпадзі да распаленых вуснаў/ і ў высокія травы шпурні". І чулася ў ягоным смакаванні, у ягоным самазабыўным дэкламаванні шчасце далучанасці родавай повязю да зямлі, дзе жанчыны такія неўтаймоўныя ў каханні. Верш не даваў спакою й мне, і, вярнуўшыся дамоў, я адшукаў ягоны працяг у зборніку Раісы Баравіковай: "Закрычы падзікунску штосілы, абрываючы сукню з пляча..." Збянтэжаны такім drang und sturm, я вырашыў неадкладна паўстаць на абарону беларускіх мужчын, і, няйначай пад падступныя нашэпты вірутніка з-пад цёмнай гвязды, выступіў у вартым жалю парадыйным жанры.

...Ды вершы варушацца нязгаснымі яскаркамі ў апыленым роем гадоў попеле на прыцьмелым кастрышчы. І паэзія прыходзіць у нашае жыццё, каб прасвятліць яго, зрабіць нас відушчымі й трывушчымі.

Наўмысна не цытую ўпадабаных мною вершаў Раісы Баравіковай. Яны не для чытання напаказ. Не ў дакор паэтцы скажу, што радкі яе пры чытанні камусьці іншаму губляюць нешта няўлоўнае, істотнае. Вершы яе прагнуць непасрэднага сумоўя: паэт — чытач. А таму лепш на самоце яшчэ раз вярнуцца да чытанай не раз, да намоленай кнігі, пазычыць якую шкада нават блізкаму сябру.

Міхась СКОБЛА

ЁН

# Канстанты Ільдэфанс ГАЛЧЫНЬСКІ

*“Якое гэта шчасце быць такім паэтам, якім быў Галчыньскі.. Не хутка яшчэ наша польская зямля, багатая на паэтаў, народзіць яму роўнага.. ”*

**Яраслаў Івашкевіч**

*Пра Яго*

# ВЕРШЫ

## ВАНДРОЎНЫ ДЭНДЗІ





## Заручыны Джона Кітса

*Камедыя*

**Даўняй Англіі дуб — залаты пад маланкамі грому.**
**Снег бялюткі наўкол: цішыня вечаровага дому.**
**Любасць — дуб залаты, навальніцы жывуць ва ўспаміне.**
**Джон падкідвае дроў, каб ярчэй палымнела ў каміне.**
**Як нябёсы, пакой прыадчыніцца, з’явіцца Фані,**
**сядзе побач, і Джон скрывіць губы ў тупым блазнаванні.**
**Джон, ты дурнем не будзь, будзь паважна-вясёлым на свяце**
**і на Фані не злуй, сёння ж з ёю заручышся, браце.**
**Будзе белы абрус, і, як свечкі, запаляцца віна,**
**дурань Джон, не сядзі — пацалункаў чакае дзяўчына.**
**Звонку ціхая ўся, а душа яе ў полымі тоне,**
**і вуголіны зор ахалоджвае веер далоняў.**
**Ах, камін-весялун, ты ўтвараеш сцэнічныя хвілі,**
**можа Ўільям стары грае нейкія там вадэвілі.**
**До ўжо, дзеці, гуляць, падыходзьце бліжэй да застолля,**
**дзе аж гнуцца сталы, а музыкаў здушыла сваволя,**
**што ні цётка (анёл!) — увіваецца па-над тартамі,**
**але што нам тарты, саладзей дакрананне губамі.**
**А калі сціхне ўсё, і раз’едзецца кожны дахаты, —**
**вусны Джона і Фані раздурэюцца, як звераняты;**
**пацалункавы сад яны ўтвораць, пачуццяў завею,**
**лепш чым гётэўскі сад, праз які Герман вёў Даратэю.**
**Разам Фані і Джон — гэта Неба ўдваіх з Акіянам;**
**Фані — дама, а Джон — верны рыцар са шпагай адданай.**

## Пра Яго

*23* студзеня 1905 г. у Варшаве на вуліцы Мазавецкай нарадзіўся Канстанты Ільдэфанс Галчыньскі. Бацька будучага паэта, таксама Канстанты, працаваў на чыгунцы. Маці, Ванда Лапушыньская, была дачкой уладальніка рэстарана. Грошай заўсёды бракавала, таму ў пошуках меншай платы часта даводзілася мяняць кватэры. Вуліца Гартэнзіі 6, вуліца Хмельная 72, вуліца Таваровая 54 — вось некаторыя варшаўскія адрасы сям’і Галчыньскіх...*

*Першыя веды малы Канстанты атрымаў у чыгуначнай школе на вуліцы Хмельнай.*

*1914 г. — пачынаецца вайна з Германіяй, і сям’я Галчыньскіх эвакуіруецца ў Маскву.*

*Дзесяцігадовы Канстанты наведвае польскую школу Камітэта Польскага, якую заснаваў у Маскве выдатны педагог Уладзіслаў Гіжыцкі.*

*1915 г. пачынае пісаць вершы. У аўтабіяграфіі паэта чытаем: “Першы верш “Санет да кахання” склаў у Маскве ў годзе 1915-м, закахаўшыся ў настаўніцу батанікі. Настаўніцу звалі Казімера. Верш застаўся ў рукапісе”*

*1918 (1919?) сям’я Галчыньскіх вяртаецца ў Польшчу.*

*1921 г. — ад шкарлятыны памірае малодшы адзінаццацігадовы брат паэта Мечыслаў Зянон. Сам Канстанты трыццаць гадоў пазней, пад самы*

* БелСЭ падае іншае чысло — 25.

# ВАНДРОЎНЫ ДЭНДЗІ

**Ён любіў імправізацыі, пакланяўся мастацтву раптоўнасці. Імправізаваў у жыцці і ў творчасці. Аднак у жыцці мастацтвам раптоўнасці, бадай, займаўся найбольш...**

**Ён ажаніўся з непаўналетняй Наталляй. Бацькі Наталлі згоду на шлюб не далі. Але шлюб адбыўся. І не ў касцёле. Паляк Канстанты Галчыньскі прывёў сваю каханую (грузінку па бацьку і рускую па маці) у праваслаўную царкву...**

**Ён дасканала іграў на скрыпцы. Яго музычная прастора была прыдатная не для сімфанічнага аркестра, а для эстрады кабарэ, для арэны цырка, для сцен вясковага шынка. І проста для вуліцы. Ён любіў вуліцу. І хаця прыгажуном не быў, але валодаў далікатна-вытанчаным майстэрствам паводзін, дзякуючы якому нават далёкія ад паэзіі людзі пазнавалі ў ім паэта — а р т ы с т а...**

**Шпацыруючы па вечаровай Варшаве, уголас размаўляў з Блокам...**

**У кавярнях, дорачы кветкі флірту, ужо адным сваім голасамператвараў жанчын у дзяўчынак...**

**Амаль усе свае лірычныя вершы прысвячаў Наталлі, аднак не быў празаічным мужам. Ягоная дачка Кіра ўспамінала: “Ці былі іншыя жанчыны? Былі. З’яўленне ў адзін чэрвеньскі дзень 1990 года блакітнавокага хлопца, які шчыра прызнаўся: “Я — Костак Галчыньскі, твой брат” — неаспрэчны доказ, што іншыя жанчыны існавалі. Аднак Наталля была адзіная, да якой вяртаўся, пра якую ўвесь час думаў...”**

*канец жыцця, таксама цяжка хварэў на шкарлятыну.*

*1923 г. – у газеце "Рэчпаспаліта" пад псеўданімам Мечыслаў Зянон Трціньскі друкуе свой першы твор, які называецца "Штурм". Аднак сапраўдным дэбютам паэт лічыць верш "Вецер у завулку", апублікаваны ў часопісе "Творчасць Маладой Польшчы".*

*Месяц, скрыпка, музыка Баха – асноўныя вобразы паэзіі Канстанты Ільдэфанс Галчыньскага. На жыццё паэт глядзіць вачыма тэатрала, рамантычнага містыфікатара. Любіць ілюзіяністаў, захапляецца цыркавым мастацтвам, імкнецца пазнаёміцца з кожным варшаўскім магам. На пытанне: аб чым ён марыць? – адказвае: "Мару стаць штукаром"*

*У гэтым жа годзе паступае ў Варшаўскі універсітэт на факультэт англійскай філалогіі. Вывучае таксама класічную філалогію і ўдасканальвае свае веды ў нямецкай мове. Пад час вучобы знаёміцца са Станіславам Рышардам Дабравольскім і Мечыславам Біброўскім – рэдактарамі часопіса "Квадрыга", а таксама з Люцыянам Шэнвальдам – перакладчыкам паэзіі Шэлі і Браўнінга. Ягоным блізкім сябрам становіцца і Станіслаў Марыя Салінські, якому ў 1947 годзе прысвячае цудоўны верш "Маленькія кінатэатры"*

*На кватэры Салінськага (вуліца Пулаўская 29) знаёміцца з паэзіяй Аляксандра Блока і там жа ўзнікае задума стварыць сатырычны тэатрык "Зялёная Гусь" Паэт вырашыў пісаць тэатральныя маналогі, фельетоны, кароткія сцэнічныя жарты і друкаваць іх пад агульнай вышэйпамянёнай назвай "Зялёная Гусь"*

**Па камеды ўжо. Не сумуйце, панове акцёры,**
**на паклон ідучы, заставайцеся ў добрым гуморы.**
**Праз імгненне пачуеце воплескаў пляскат бясконцы.**
**Днее... лёд на акне... голуб за шыбай... салодкае сонца.**

1928

## Грудзі каханкі:

**Мы — для паэтаў раскоша,**
**неапісальная словам,**
**нібы дзве зоркі, ўзыходзім**
**пад сукняй парой вечаровай.**

1929

## Просьба пра шчаслівыя астравы

**Завязі на шчаслівыя астравы,**
**ветрам лагодным валасы, нібы кветкі, развей, зацалуй,**
**закалыхай, усыпі і музычнаю мрояй мяне атумань,**
**і ў сне на астравах шчаслівых вызвалі ад сну.**

**Пакажы мне вялізныя воды і ціхія воды,**

**Атрымаў усебаковую філалагічную адукацыю і прачытаў неймаверную колькасць кніг на розных мовах...**

**Паэт з ласкі боскай, аднак жа першую кніжку выпусціў не паэтычную, а празаічную — аповесць "Парфірыён Вослік, або Клуб святататнікаў"...**

**Прыдумаў сабе другое імя — Ільдэфанс; прыдумаў сярэдневяковага англійскага паэта Морыса Гордана Чыйтса, у існаванне якога паверыла прафесура Варшаўскага універсітэта; прыдумаў краіну Фарляндыю...**

**У Берліне па-французску напісаў раман Au clair de la lune ("Святло поўні") і рукапіс рамана згубіў. Гэтак жа легкадумна, як да сваіх рукапісаў (з напісанага згублены быў не толькі раман), ставіўся і да добраграшовай пасады рэферэнта па культуры ў Польскім Генеральным Консульстве ў Берліне...**

**Улюбёнец лёсу і адначасова ахвяра...**

**Зведаў пяшчоту альковаў і лагерныя нары...**

**Быў смелы, але ніколі сваёй смеласцю не выхваляўся...**

**У 1947 годзе ў камуністычна-каталіцкай Польшчы публічна прызнаўся, што ён ні католік і ні марксіст...**

**Умеў цаніць творчую адзіноту...**

**Ні над кім з паэтаў-сучаснікаў не ўзносіўся, хаця адрозніваўся ад усіх...**

**Адсутнасць у характары фанабэрыі і самаўлюбёнасці не дае падстаў, каб назваць яго польскім Аскарам Уальдам...**

**У гісторыі польскай паэзіі XX стагоддзя ён — вандроўны дэндзі...**

**Ад суму бараніўся фантазіяй, ад беднасці — ironіяй, ад лішку грошай — замежнымі вандроўкамі, ад жахаў свайго часу — каханнем, ад самога сябе — паэзіяй.**

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

19 сакавіка 1996 г.





**дазволь мне пачуць на галінах зялёных размовы зор,**
**шмат матылёў пакажы, матылёвыя сэрцы прылашчы,**
**а думкі спакойныя па-над водамі каханнем схілі.**

1930

## Фарляндыя*

**Пагаварыць пра нашае каханне**
**на мосце мы хацелі на змярканні,**
**пад клёнам, ля кіёску тытунёвага;**

**ды, як прадбачваў, выпаў знак нячысты —**
**мост узарвалі гэты анархісты,**
**і дзе ж цяпер чакаць спаткання новага?**

**Скрозь — душна, цесна, але ёсць мясціна**
**Фарляндыя, цудоўная краіна.**
**Спявае неба там, а пальмы з райскім ценем.**

**Ты плачаш, засмучаешся дарма,**
**што моста вечаровага няма —**
**мы раніцу ў Фарляндыі сустрэнем:**

*****

**Пальмы хістаюцца,**
**пальмы хістаюцца —**
**так-так-так.**

**Тут усё засталося,**
**не вярнуся сюды —**
**не-не-не.**

**Птушкі над пальмамі,**
**а ў пальмах саладосць**
**мі-ма-мі.**

**Сны — ежа нашая,**

* Far land (*англ.*) далёкая краіна.

*Шмат часу аддае універсітэцкай бібліятэцы, дзе да самазабыцця вывучае паэзію Рансара і Віёна, Рэмбо і Бадлера, Томаса Мора і Мільтана, Шэкспіра і По, Рыльке і Гётэ, Дантэ і Гарацыя. Вядома, не застаўся без увагі і ўлюбёны ўсімі палякамі Ян Кахаnoўскі...*

*1926 г. – год неспрыяльны. Паміраe бацька. Цяжар утрымання маці кладзецца на дваццацігадовага паэта. Дзеля заробку шмат друкуецца, найбольш у сатырычным штотыднёвіку "Варшаўскі цырульнік".*

*Восенню атрымлівае позву ў войска, залічаны ў школу падхарунжых. На пытанне: "Што такое вінтоўка?" – адказвае: "Зброя д`ябла" За гэта быў пакараны і ў званні радавога адасланы ў пяхотны полк у Бярозу-Картузскую.*

*1928 г. – адслужыўшы ў войску, як і раней, жыве з маці на вуліцы Таваровай у брудным, задымленым, пралетарскім квартале. Каб пераехаць у які-небудзь лепшы раён Варшавы – зноў жа бракуе грошай. Зарабляе прыватнымі ўрокамі. Літаратурныя ж ганарары вельмі мізэрныя. Уладкоўваецца ў Польскае Эміграцыйнае Таварыства – арганізацыю, якая дапамагала палякам, якія мусілі былі пакінуць радзіму. Праца ў Таварыстве цягнулася з паўгода і сталася адметнай толькі тым, што паэт стварыў адпаведнай тэматыкі вершы "Эмігранты" і "Раманс аб трох сёстрах-эмігрантках".*

*Галоўная падзея года – Канстанты Ільдэфанс Галчыньскі ўвайшоў у літаратурную групоўку "Квадрыга"*

*1929 г. – кніжны дэбют, асобным выданнем выходзіць фантастычная аповесць "Парфірыён Вослік, або Клуб святататнікаў".*

*3-га траўня ў кавярні "Малая Зямяньска" Люцыян Шэнвальд знаёміць паэта з Наталляй Авалавай (рускае напісанне грузінскага прозвішча Авалішвілі), дачкой расіянкі і грузінскага афіцэра. Канстанты Ільдэфанс Галчыньскі сустрэў сваю музу.*

*1930 г. – у лютым маці паэта пані Ванда выходзіць замуж за Ёзэфа Бергера, чэха па паходжанні, і едзе на сталае жыццё ў Прагу.*

*1 чэрвеня ў праваслаўнай царкве Канстанты вянчаецца з Наталляй.*

*Дзякуючы грашовай падтрымцы Тадэвуша Кубальскага, асобным вы-*

